# НАШ КРАЙ

## ШТОМЕСЯЧНІК Ц.Б. КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ



№ 3 (18) 1927 г. САКАВІК







МЕНСК.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1927 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# НАШ КРАЙ

„Наш Край“ зьмяшчае артыкулы папулярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

„Наш Край“ зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, праграмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

„Наш Край“ дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых арганізацый БССР.

„Наш Край“ павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

„Наш Край“ павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, К. Арол, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Д. Васілеўскі, Віткоўскі, Гр. Варапаеў, Проф. Васількоў, М. Грамыка, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, Проф. А. Жарынаў, М. Зьбіткоўскі, А. Казак, Кіпель, М. Кіркевіч, Каракін, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, М. Ламака, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Натальлін, А. Нямцоў, О. Полянская, К. Папоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Я. Ракаў, Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Тараяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. А. Фядзюшын, Е. Цехановіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:** На год . . 4 р. — к. На поўгода 2 р. 20 к. | На 3 м-цы 1 р. 20 к. На 1 месяц — р. 50 к.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная № 21, Інбелкульт), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: У Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару са скідкай у 25%—за 3 руб.

Зок
650

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!




# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 3 (18) Сакавік 1927

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927

# Доктар і краязнаўчая праца.

Усебаковае вывучэньне свайго краю ў нас, у БССР, цяпер зьяўляецца ўдарным заданьнем.

Савецкая Беларусь шпаркім тэмпам, з нязвычайным напружаньнем вядзе працу па экономічным, культурным і палітычным будаўніцтве. Наша рэспубліка перажывае самы цікавы ў яе гісторыі пэрыод—пэрыод колектыўнай, масавай творчасьці. Але, на жаль, наш творчы запал, нашае шчырае імкненьне аддаць усе сілы для экономічнага і культурнага адраджэньня нашай рэспублікі няўхільна ўпіраецца ў адну вялікую перашкоду: мы мала ведаем свой край.

Без краязнаўства, без вывучэньня краю, без вывучэньня ўсіх асаблівасьцяй гэтага краю, без дакладнага азнаямленьня са ўсімі прыроднымі і соцыяльнымі ўмовамі, пры якіх працуем, нельга займацца гаспадарчым будаўніцтвам, нельга ўздымаць культурнасьць мас і наогул кіраваць культурным жыцьцём.

Вучастковы доктар, жывучы нават у самым глухім кутку нашае рэспублікі, калі ён возьмецца за краязнаўства і напіша, напрыклад, самы няхітры, самы просты, але падрабязны санітарна-гігіенічны нарыс свайго „глухога кутка"—мястэчка або нават аднае вёскі,—то гэта будзе каштоўная, арыгінальная навуковая краязнаўчая праца.

Краязнаўчая праца толькі і можа мець посьпех, калі ўсе мясцовыя культурныя сілы пачнуць удзельнічаць у ёй.

Што такое—краязнаўства? Навошта яно? Чаму яно стала гэткім актуальным?

Калі ўважліва прыгледзецца да сучаснага гаспадарчага будаўніцтва, асабліва калі паглядзець у галіну сельскай гаспадаркі, а таксама ўзяць мэталюргічную і хімічную прамысловасьць, то ўсюды мы знойдзем у аснове краязнаўчыя досьледы.

Зірнеце на школы—тут краязнаўства ў вялікай пашане, без яго—ані кроку.

Вазьмеце, урэшце, усё жыцьцё наогул, і вы ўбачыце, як краязнаўчы ўхіл усюды адчуваецца, асабліва ў нас, дзе і прырода і чалавек, у шырокім сэнсе гэтых слоў, зусім ня вывучаны.

Шпаркі рост краязнаўства ва ўсім Савецкім Саюзе ў працягу апошніх гадоў выразна гаворыць за тое, што хутка ўсе шчыліны, усе сітавінкі нашай працы будуць прасякнуты краязнаўчымі сокамі.

Праз краязнаўчыя досьледы мы хутчэй выканаем грандыёзныя мэліорацыйныя работы, чым пашырым і высака паставім лугаводзтва.

Краязнаўства для нас—гэта шлях на замежны рынак, бо краязнаўчыя досьледы дадуць для экспорту карысныя выкапні, як фосфорыты і крэйда, стандардызаваныя продукты сельскай гаспадаркі, як масла, бэконы, продукты лясной гаспадаркі і г. д.

У галіне мэдычнай краязнаўчыя досьледы дапамогуць хутчэй зьнішчыць бытавы сыфіліс, паршу, трахому, малярыю. Краязнаўства—гэта шлях да выкарыстаньня беларускіх цалебных мінэральных крыніц і

гразі, да пабудовы ў здаровых прыгожых мясцовасьцях санаторый, дамоў адпачынку і г. д.

Краязнаўства — гэта ёсьць база для практычнага правядзеньня профіляктычных мерапрыемстваў.

Цяпер, давайце зірнем глыбей, якое дачыненьне мае краязнаўства да мэдыцыны і да працы мэдычнага работніка.

*Наша рэспубліка з боку мэдыка-санітарнага абсолютна ня вывучана.*

Сягоньня мы яшчэ ня можам сказаць, напрыклад, дзе ў БССР самая здаровая мясцовасьць і дзе самая шкодная. Сягоньня мы яшчэ ня можам улажыць карту здаровых і шкодных раёнаў БССР.

Мы ня ведаем дакладных меж пашырэньня малярыі і ня можам даць карты пашырэньня камара „Анофэлес", каб можна было падмацаваць гэту карту лічбамі і досьледамі.

Мінэральныя цалебныя крыніцы ў БССР таксама ня вывучаны.

Чакаюць сваіх дасьледчыкаў склярома, вальляк (зоб), бытавы сыфіліс на вёсцы, сухоты, трахома, парша.

Ёсьць у нас дзесяткі і сотні незакранутых яшчэ пытаньняў, як соцыяльна-гігіенічныя вынікі вайны і рэволюцыі на Беларусі, алькоголізм на Беларусі, простытуцыя, профэсыянальныя хваробы ў БССР, санітарна-гігіенічны стан нашае прамысловасьці, нашых саматужных промыслаў, грамадзкіх работ, нашых гарадоў, мястэчак, вёсак і г. д.

Мы ня маем яшчэ мэдыка-санітарнае ацэнкі ні нашага клімату, ні глебы, ні водных басэйнаў.

Мы шмат чаго ня ведаем і шмат у якіх пытаньнях працуем навобмацак. Лічбы аб сьмяротнасьці і хварабліваасьці на Беларусі за 1925 г. выклікаюць дзесяткі пытаньняў, на якія хочацца мець адказы. Але адказу ніхто даць ня можа. Толькі будучыя досьледы дадуць гэтыя адказы. А ў залежнасьці ад адказаў можна будзе так ці іначай змагацца з хваробамі.

Краязнаўчая дасьледчая праца па сілах кожнаму працаўніку: доктар, акушэрка і фэльчар могуць даць краязнаўчую працу, калі яны ўдала выберуць сабе тэму, калі яны ня будуць задавацца мэтаю ахапіць вялікую тэрыторыю або вялікі лік складаных пытаньняў.

Простае санітарна-гігіенічнае апісаньне аднае вёскі ёсьць ужо каштоўная праца. Важна толькі, каб той, хто піша, рабіў гэта паважна і сумленна.

*Краязнаўчая праца—гэта, фактычна, вароты для ўваходу ў навуковую дзейнасьць, бо той, хто робіць краязнаўчыя досьледы, навучаецца выбіраць тэмы і об'екты для навуковай апрацоўкі, навучаецца мэтоды дасьледваньня, навучаецца знаходзіць і карыстацца літаратурай, навучаецца навукова мысьліць, наглядаць жыцьцё, усё бачыць, разумець і рабіць вывады.*

Няхай першая праца будзе малых памераў і на вузкую тэму, але калі яна зроблена з замілаваньнем і сумленна, яна мае вялікую навуковую каштоўнасьць, хаця-б як матар'ял для больш грунтоўных і шырокіх прац.

Вось, напрыклад, краязнаўчая праца студэнта-мэдыка нашага Унівэрсытэту А. Б. Гарбача на тэму: „Як, у каго і чым лечыцца сучасная вёска" (надрукована ў часопісу „Беларуская Мэдычная Думка", № 12-13, 1926 г.), у якой даецца на 5 старонках падрабязнае апісаньне таго, як лечацца народнымі сродкамі сяляне аднае толькі вёскі Шалавічы Слуцкае акругі. Гэты нарыс па народнай мэдыцыне чытаецца з вялікай

цікавасьцю і з боку краязнаўчага мае вялікую каштоўнасьць. І вось, калі будзе некалькі гэткіх краязнаўчых прац з розных куткоў Беларусі, то можна ўжо будзе даць поўны малюнак народнае мэдыцыны на Беларусі.

Навуковая праца краязнаўчага характару магчыма ў любых умовах: для шмат якіх тэм ня трэба ні лябораторыі для досьледаў, ні клінікі, ні нават навуковай літаратуры.

Трэба толькі пазнаёміцца з мэтодыкай краязнаўчай працы, умець наглядаць, цікавіцца і мець ахвоту да гэтае працы, а об'ектаў і тэм для навуковай апрацоўкі—колькі хочаш.

Можа паўстаць пытаньне, як краязнаўства злучыць з практычнай нашай працай і што нам дасьць вывучэньне краю для практычных мэт?

Папершае, праца мэдыка ідзе цяпер пад знакам профіляктыкі.

А як-жа можна праводзіць профіляктычную працу без папярэдняга вывучэньня ўсіх прыродных і соцыяльна-бытавых умоў, якія спрыяюць пашырэньню тых ці іншых хвароб?

Як аздараўляць насельніцтва, калі мы ня ведаем, як жыве і працуе гэтае насельніцтва?

У Курскай губэрні, напрыклад, насельнасьць часта хварэе на каменьні мачавога пухіра. Калі пачалі шукаць першапрычыну гэтага зьявішча, то аказалася, што мясцовая вада мае шмат мінэральных соляй. Досьледы глебы паказалі, што пад зямлёй вада крыніц праходзіць сярод пластоў фосфарна-кваснай вапны і насычаецца вапеннымі солямі.

Адгэтуль адразу відаць, па якім шляху павінна ісьці профіляктыка, каб папярэдзіць павялічэньне ліку хворых на мачавыя каменьні. Тут відавочна кожны бачыць цесную сувязь і нават залежнасьць профіляктыкі ад краязнаўства.

Бяру амбуляторыю. Прыходзіць хворы і кажа: „Пачалося гэта пад ушэсьце і спачатку пайшлі па скуры чырвоныя плямачкі, пасьля паўскакалі пухірыкі і пачаліся бяз покіду ганячка і ваніты“... і г. д.

Хто ня ведае мовы, для таго гэтыя словы нічога не дадуць. І прыдзецца доктару гутарыць з хворымі праз тлумача.

Трэба ведаць свой край, быт вёскі, ведаць мову, каб лягчэй орыентавацца ў сваёй штодзённай працы.

Уявеце сабе, што вас паклічуць на нараду па каналізацыі вашага гораду. Вы мусіце-ж хоць крыху ведаць грунт гораду, нахіл пластоў глебы, вы мусіце даць раду, дзе лепш зрабіць сток для бруду, вы павінны ведаць якасьць вады гарадзкіх студняй і рэчкі. Адным словам, вы павінны ведаць свой горад з боку мэдычнага.

Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя трэба пабудаваць тубэркулёзны санаторы.

Першае пытаньне: дзе будаваць?

Трэба-ж выбраць сухую, здаровую мясцовасьць. Трэба ведаць усе ўмовы—кліматычныя, геолёгічныя, ботанічныя, экономічныя і г. д.,—каб месца для санаторыя выбраць удала.

Організацыя ясьляй, сантроек, асабліва дыспансэрная і санасьветная праца таксама павінны быць абгрунтованы на краязнаўстве.

Гэтых прыкладаў даволі, каб паказаць, што ў сваёй практычнай дзейнасьці і доктару-адміністратару, і санітарнаму доктару, і лячэбніку,—кожнаму даводзіцца сустракацца з патрэбаю ведаць свой край.

Краязнаўчая праца—гэта грамадзкая праца, колектыўная праца і затым яна разьвівае элемэнты грамадзкасьці, якія так патрэбны ў рабоце.

Краязнаўчыя гурткі на мясцох яднаюць людзей розных профэсій,

разьвіваюць іх творчасьць, пазбаўляюць іх ад няўхільнай захалуснай абыватальшчыны і мяшчанства.

Кожны краязнаўца—гэта творца, гэта будаўнік новага жыцьця. А што ёсьць лепшага, як тварыць новае, прыгожае соцыялістычнае жыцьцё?

Нельга думаць, што ў нас абсолютна нічога ня зроблена ў галіне мэдычнага краязнаўства.

У нас ёсьць Мэдсэкцыя пры Інбелкульце, якая мае ў сваім складзе працаўнікоў Нар. Кам. Аховы Здароўя, профэсароў Мэдфаку, асыстэнтаў і ордынатараў клінік.

Мэдсэкцыя зьяўляецца асяродкам мэдычнай краязнаўчай працы і пачала ўжо вывучэньне краю. Ёсьць у сэкцыі гэткія камісіі: антрополёгічная, вальлёвая, склеромная, санітарная, гельмінтолёгічная. Камісіі прарабілі ўжо значную працу і цяпер вядуць далей свае навуковыя досьледы.

Ёсьць ужо каштоўныя працы, зьмешчаныя ў „Б. М. Д.“, „Нашым Краі“, у „Працах Пастэраўскага Інстытуту“.

Але нам не хапае прац з месц.

Мы клічам вас, працаўнікі мэдыцыны, да краязнаўчае працы. Мы верым у вашую дапамогу.

Праз пазнаньне свайго краю мы хутчэй аздаравім нашую рэспубліку і нашымі мэдычнымі рукамі паложым цагліну ў фундамант соцыялістычнага будынку.

**І. Цьвікевіч.**




М. Касьпяровіч.

# Організацыя краязнаўчага руху.

## V. Краязнаўчыя вандраваньні.

Усе віды падарожніцтва—экспэдыцыі, падарожы, экскурсіі і вандраваньні—маюць надзвычайна вялікае значэньне ў краязнаўстве. Таму краязнаўчыя організацыі і імкнуцца да ажыцьцяўленьня іх з мэтаю дасягненьня сваіх задач. Але ня ўсе паказаныя віды падарожніцтва даступны для ўсіх краязнаўчых організацый і, тым больш, краязнаўцаў. Адны з іх, як экпэдыцыі, патрабуюць спэцыяльнай падрыхтоўкі ўдзельнікаў і сродкаў, хоць часамі і невялікіх, але такіх, якіх няма на мясцох; другія, як падарожы,—тых-жа сродкаў, і толькі экскурсіі і вандраваньні больш даступны краязнаўцам і іх аб'яднаньням як з боку сродкаў, патрэбных для іх, так і з боку падрыхтоўкі ўдзельнікаў. Яны разьлічаны на першапачатковае вывучэньне і пазнаваньне краіны, а галоўная маса організаваных і яшчэ неорганізаваных краязнаўцаў і іх аб'яднаньняў якраз і мае пакуль што на мэце гэтае першапачатковае вывучэньне і пазнаваньне. Таму ў мінулай практыцы нашых краязнаўчых організацый мы і маем такі, параўнаўча, вялікі лік экскурсій і вандраваньняў. Апошнія, на жаль, менш падлічаны і вывучаны, а, паміж іншым, да іх якраз, як да найбольш даступнага віду падарожніцтва, імкнецца пераважная большасьць асабліва маладых краязнаўцаў.

Яшчэ залетась вандраваньне стыхійна захапіла шмат каго, і вядома, напр., калі малады віцебскі краязнаўца Марыновіч з сваім сябрам, вышаўшы з Выцебску раньняй вясною, вярнуліся ўвосень, прайшоўшы па БССР каля 800 вёрст пехатою, нічога ня маючы з сабой, апрача дакумэнтаў і запісных кніжок. Летась вандраваньне прыняло яшчэ большыя разьмеры, але амаль што палова выпадкаў сарвалася дзякуючы адсутнасьці організацыі гэтай справы. У гэтым годзе ўжо нават у цэнтральных комсамольскіх і інш. газэтах пачаліся гутаркі аб карысьці і патрэбе організацыі вандраваньня. Шэраг установаў у цэнтры і на мясцох зьвярнуўся да краязнаўчых аб'яднаньняў з просьбаю даць адказ на пытаньні, зьвязаныя з экскурсаваньнем і вандраваньнем. Адчуваецца, што ў гэтым годзе абедзьве апошнія справы могуць стацца стыхійнымі як з мэтаю пазнаваньня краіны, так і проста з мэтаю здаровай забавы і адпачынку, што ўжо менш пажадана, бо адпачыць і забавіцца можна і ў процэсе нормальнага пазнаваньня чаго-небудзь,

Таму краязнаўчыя організацыі павінны падрыхтавацца да ахапленьня справы і накіраваньня яе ў пажаданым кірунку.

Пакідаючы пакуль што справу экскурсій у баку, прыходзіцца прызнаць, што вандраваньне выклікана здаровымі пачаткамі, якія ляжаць у аснове бязупыннага развою чалавечай асобы наогул і як часткі грамады—прыватна; яно, як і экскурсія,—від падарожніцтва, але ў той час як экскурсія мае заранеў акрэсьленую мэту, акрэсьлены маршрут і кароткатэрміновую, часьцей за усё, падарож для агляду, напр., музэю, прадпрыемства і да т. п., вандраваньне ведае толькі агульную мэту, маршрут у агульных рысах, адбываецца на працягу доўгага часу і прасторы і г. д. Калі не экскурсант, дык кіраўнік экскурсіі ведае ня толькі тое, што ён пабачыць, пакажа, але і дзе спыніцца, чым голад спагоніць. Вандроўнік-жа ведае толькі кірунак свае вандроўкі. На яго шляху могуць спаткацца непрадбачаныя перашкоды, нечаканыя прыгожасьці, патрэбы спыніцца і г. д. Экскурсія часьцей за ўсё складаецца з вялікага ліку ўдзельнікаў, вандроўка-ж—малога, а то і аднаго толькі ўдзельніка.

Вандраваньне—гэта агляд найбагацейшай, найцікаўнейшай у сьвеце колекцыі, музэю, які завуцца жыцьцём. Яно ў большым разьмеры дазваляе, у выпадку ахвоты, прыняць удзел у гэтым жыцьці—паараць, пакасіць, пакаваць і г. д., г. зн. аглядаць, пазнаваць ня толькі зрокам, але і моторна. Жыцьцё, формы яго—бязьмежныя і затым у ім ёсьць усё новае і новае для пазнаваньня, асабліва ў часе вандраваньня. Усё новыя і новыя ўражаньні выклікаюць у вандроўцы любазнаўчасьць, гадуюць здольнасьць меркаваньняў, параўнаньняў, абагульненьняў, наогул разьвіваюць інтэлект. Вандроўка—сваімі ўражаньнямі дае грунт для далейшага разьвіцьця і разам з тым зьяўляецца найбагацейшай ілюстрацыяй да вед вандроўніка.

Побач з культурным і асьветным значэньнем вандроўка мае і вялікае соцыяльнае. Яна выхоўвае грамадзкасьць і солідарнасьць. Новыя знаёмствы і погляды новых знаёмых разьвіваюць умецтва орыентавацца ў клясавых суадносінах. Разам з тым, вандраваньне, паказваючы ўсё новыя і новыя прыгожасьці краю, разьвівае эстэтычныя погляды вандроўцы.

Няма чаго, зразумела, успамінаць, што вандраваньне загартоўвае фізычна.

Але найбольшае значэньне вандраваньня—краязнаўчае. Вандроўца зайдзе туды, пабачыць тое, што для дасьледчыка яшчэ доўгія часы будзе цалкам недаступна. Ён дастане найкаштоўныя апісаньні і матар'ялы без вялікіх сродкаў. У працэсе вандраваньня ён навучыцца быць дасьледчыкам і прынясе потым яшчэ большую карысьць краязнаўчай організацыі. Ён сваімі новымі і новымі знаёмствамі будзе популярызаваць краязнаўства, наладзіць сувязі, завярбуе новых краязнаўцаў і г. д.

Калі праўленьне мясцовай краязнаўчай організацыі мае шмат бягучай працы, яно можа вылучыць адпаведную камісію для організацыі падарожніцкай справы на сваёй тэрыторыі: экскурсій, вандраваньняў і інш. Першымі крокамі гэтай камісіі ў справе вандраваньня будзе выяўленьне жадаючых пайсьці ў вандроўку, падлік іх, наданьне краязнаўчага ўхілу, вызначэньне пэўнага маршруту з пэўным краязнаўчым заданьнем. Для гэтага ў першую чаргу прыдзецца апавясьціць грамадзтва аб сваіх задачах праз друк або лекцыяй, а дальш—дзейнічаць у залежнасьці ад ліку і складу жадаючых.

Вандраваньне можа адбывацца ў любым кірунку, але для мясцовай організацыі пажадана, каб яно адбывалася ў першую чаргу па сваёй тэрыторыі. Значыць, камісіі прыдзецца вызначыць кірункі, маршруты ў самых агульных рысах. А гэта ў пэўнай ступені будзе залежаць ад агульнага пляну дзейнасьці данай організацыі. Прыдзецца ўлічыць месцы, дзе ёсьць курганы, а лік іх невядомы, дзе ёсьць цікавыя расьліны, якіх няма яшчэ ў зельніку і г. д. Вызначэньнем маршруту выяўляецца і агульная мэта вандраваньня: апісаньне чаго-небудзь, рэгістрацыя і да т. п. Усё гэта павінна адбывацца ў поўным паразуменьні з будучым вандроўцам; павінна ўлічвацца яго падрыхтоўка, зацікаўленасьць пэўнай галінай веды і інш. Дальш—даецца вандроўцу пасьведчаньне з дазволам на ім адпаведных устаноў на права фотографаваньня, зарысовак і здыманьня плянаў, а краязнаўчы білет ён павінен мець, як член організацыі. Пасьля гэтага трэба мець мажлівую сувязь з вандроўцам і атрымаць ад яго па звароце дамоў матар'ялы. Праўда, яшчэ два моманты можна будзе высьветліць на месцы: 1) што павінен мець з сабой вандроўца і 2) якім спосабам вандраваць. Увесь багаж вандроўцы павінен зьмяшчацца ў экскурсійным мяшку, які павінен важыць менш 4 кілёграм. У мяшку карысна мець: карту, компас, пару бялізны, ручнік, грэбень, кавалак мыла, зубную шчотачку, запасную пару сандаляў, ніткі і іголку, нож і лыжку, кубак ці кацялок, паперу і алоўкі, бінокль, легкі фотографічны апарат, кавалак шпагату, запалкі, гарбату і трошкі цукру. Калі ідзе не адзін, а некалькі чалавек—лік рэчаў пакароціцца, бо можна мець адну карту, адзін компас, адзін фотографічны апарат і г. д. на ўсіх. Чым менш рэчаў—тым лепш, але неабходнае трэба мець. Самым-жа неабходным зьяўляецца мала карацейшая за два мэтры палка з падзеламі на дэцымэтры, сантымэтры (частка) і мілімэтры (частка). Ёю можна будзе мераць усё патрэбнае і на яе абапірацца. Апрача таго, ужо праз дзень-два вандроўца апануе больш чым 1.001 спосабам ужываньня палкі, якія вядомы ўсім ангельскім падросткам.

Спосаб вандроўкі можа быць дваякі: пехатою і чоўнам. Апошні будзе магчымы ня ўсюды. Вэлёсыпэд, коні ці падобнае будзе таксама, як выключэньне.

Іншае—харчаваньне, трыманьне сябе з людзьмі, перамаганьне перашкод, выкананьне заданьня і г. д. будзе ўжо цалком вырашацца самім вандроўцам. Агульныя правілы гігіены, людзкіх узаемаадносін, краязнаўчай працы і інш. вядомы, а ўсіх конкрэтных выпадкаў не прадугледзіш з дому. Адно ня трэба забывацца—трымаць цесную сувязь з мясцовымі краязнаўцамі па сваім шляху, прычым пажадана адрасы іх ведаць раней і папярэдзіць пісьмова аб сваёй вандроўцы.





Праф. В. І. Пераход.

# Дрэвастаны сярод палей.

*(Аршаншчына).*

У сучасны момант трэба зьвярнуць увагу на тыя лясы, якія знаходзяцца ў насельніцтва і якіх налічваецца больш, як 400.000 дзесяцін; частка іх перададзена саўхозам.

Гэтыя лясы зьяўляюцца, згодна Лясному Кодэксу БССР, беларускімі лясамі мясцовага значэньня. Ад агульнай плошчы лясоў Беларусі яны складаюць каля 13% (на Украіне іх налічваецца 41%).

Сярэдняя плошча лясоў мясцовага значэньня, якая прыходзіцца на адзін сялянскі двор, атрымаўшы лес, раўняецца 1,15 і да 2-х дзесяцін. Гэтага было-б даволі, але бяда ў тым, што дрэвастаны лясоў мясцовага значэньня маюць малы запас драўніны наогул (дзелавой і дрывяной). У сярэднім налічваецца каля 12 кубоў на адзінку плошчы. Потым, ня ўсё двары атрымалі лясы.

Сельска-гаспадарчым таварыствам перададзена каля 92%, саўхозам—2,5%, РВК'ам і сельсаветам—3,5%, рэшта плошчы падае на комхозы, комуны і г. д. Гаспадаром, для лесакарыстаньня перададзена 0,8% усіх лясоў мясцовага значэньня.

Большасьць лясоў мясцовага значэньня знаходзіцца сярод палей і займае тыя плошчы, якія не апрацоўваюцца сялянамі (напрыклад, бугры, ямы, лагчыны і г. д.); такія глебы завуцца „абсолютна-ляснымі плошчамі", і на іх трэба зьвярнуць увагу.

Аршаншчына мае такіх лясоў усяго 23.859 дзесяцін; пры гэтым 15.706 дз. перададзена с.-г. таварыствам і знаходзіцца ў карыстаньні 18.732 двароў; паасобна, атрымалі 37 гаспадароў, прычым, у сярэднім, на адзін двор прыходзіцца ў іх 3,08 дзесяцін, тады як пры разьмеркаваньні ўсёй плошчы лясоў таварыстваў на адзін двор прыдзецца толькі каля 0,8 дзесяцін.

Некаторыя спэцыялістыя кажуць, што лясы мясцовага значэньня будуць зусім зьнішчаны; вядома, калі ў іх ня будзе вясьціся правільная гаспадарка,—гэта магчыма. Але ўсё-ж такі, пры дапамозе лясных органаў, гэта не павінна мець месца.

Дзеля вывучэньня дрэвастанаў сярод палей у Аршанскай акрузе

мы летам 1926 году трохі пазнаёміліся з тымі гаямі, якія знаходзяцца яшчэ каля Горак.

Агульны выгляд гэтых „дрэвастанаў сярод палей“ можна бачыць на фото-здымку (№ 1-шы), які паказвае, што гэтыя дрэвастаны зьяўляюцца разлучанымі паміж сабой.

Уздоўж гэтых невялічкіх лясоў была ўзята пробная плошча („стужковая проба“) шырынёй 4,3 мэтра (або 2 сажні); даўжыня пробы была 191,6 мэтра; уся плошча пробы, апрача паляны сярод дрэвастанаў, раўнялася 359,48 кв. м.



Дрэвастаны сярод палей.

Пералік, які быў зроблены *) на гэтай істужкавай пробе, даў такія вынікі:

| Пароды дрэў: | Хвоя. | | | | | | | Бяроза. | | | | Елка. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дыямэтр у сантым.: | 13,3 | 18 | 22,2 | 27 | 31,2 | 35,5 | 40 | 18 | 22,2 | 27 | 31,2 | 22,2 |
| Лік дрэў рознага дыямэтру (таўшчыні) . | 9 | 20 | 23 | 19 | 6 | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |

Усяго на пробе было 86 дрэў (81 хвоя, 4 бярозы і 1 елка).

Запас у кубічных мэтрах даў такія лічбы:

| Драўніны. | На пробе. | На гэктары. |
|---|---|---|
| Дробнай . . . | 29.362 куб. м. | 764.635 куб. м. |
| Сярэдняй . . . | 1.309 „ „ | 340.885 „ „ |
| Дрывяной . . . | 0,396 „ „ | 10.312 „ „ |
| Разам . . . | 31.067 mtr.³ | 1.079.832 куб. м. |

Сярэдняя вышыня: хвоі—19,3 мэтра, бярозы—25,2 мэтра і елкі—19,2 мэтра.

Паўната дрэвастану—0,5; склад наступны: 9 хвой, 1 бяроза, адзінкай—елка; узрост 50—60 г.

Цікава тое, што вышыня зьмяняецца з рэльефам: там, дзе ніжэй, яна большая, там, дзе вышэй,—меншая; гэта—уплыў рэльефу на ўзрост дрэў.

*) У маёй працы дапамагалі трохі студэнты: 1) лясфаку—Б. Блюдоха і 2) рабфаку—С. Пераход, якім прыношу за гэта сваю падзяку.

Абсьледаваныя лясныя вучасткі сярод палей добра захаваліся.

Але ёсьць у Аршаншчыне шмат іншых, якія былі зьнішчаны ў часе вайны і рэволюцыі і якія да гэтага часу зьяўляюцца „рэдзінамі“, з паўнатой 0,3—0,2.

Фото-здымак такога „рэдкалесься“ (№ 2) зьмешчаны ніжай.



Рэдкалесьсе.

Вельмі дрэнна тое, што ў такіх лясох сяляне пасуць сваю скаціну, якая зусім зьнішчае абнаўленьне дрэў.

У Нямеччыне я бачыў сялянскія лясы, якія добра захоўваюцца і ў якіх вядзецца правільная гаспадарка, ёсьць пляны і г. д.

Трэба, каб і ў нас ня зьнішчалі лясоў, каб карысталіся імі па пляну, каб захоўвалі ад скаціны і наогул трэба клапаціцца аб дабрабыце лясной гаспадаркі.






М. Зьбіткоўскі.

# Цьвінтарэй (Цынтурыя).

Цьвінтарэй—Centaurium umbellatum Gilb (=Erythraca centaurium Pers) належыць да сям'і гарычкавых (Gentianaceae), да тэй сям'і, да якой належаць і іншыя расьліны, якія трапляюцца ў нас, на Беларусі. Напрыклад, па вільготных паплавох у канцы мая трапляецца ў значнай колькасьці бабок—Menyanthes trifoliata L. (Глядзі „Наш Край“ № 6—7 за 1926 г.), а таксама па вільготных лугох з ліпня можна спаткаць вельмі многа гарычкі (Gentiana Pneumouanthe L.). У стаячай вадзе часам можна знайсьці падобны да гладышыкаў Zimnamthemum nymphoides.

Цьвінтарэй—расьліна двухгадовая. У першы год з насеньня разьвіваецца акружак прыкарнявых лістоў, а красаваньне і плоданашэньне адбываецца ў гэтай расьліны ў другім годзе. Трапляецца яна па сухіх сонцавых мясьцінах на глiністых і пяшчаных глебах амаль па ўсёй Беларусі.

Корань цьвінтарэю кароткі і тонкі; лісьця ў акружку адваротнаяйкаватыя, трохі мяккія і зусім гладкія. Сьцябло чатырохкантовае, простае, ад 10 да 30 см. вышынёю, валасістае з супраціўнымі, лінейналянцэтаватымі тупаватымі лісткамі. Кветкі ў густых поўпарасоніках. Падвяночак кароценькі, вяночак з доўгай тонкай трубачкай і пяціразьдзельным адгібам ярка-ружовага (рэдкага белага) колеру. Пыльнікі пасьля адкрасаваньня скручваюцца. Плод—двохгнёзны кошычак. Красаваньне пачынаецца з канца чэрвеня і цягнецца да канца жніўня, плады—з сярэдзіны жніўня.

З лекавай мэтай трава цьвінтарэю ўжываецца для ўзбуджэньня апэтыту, павялічэньня чыннасьці ворганаў траўленьня. Гэта трава зьмяшчае ў сабе лекавую горыч—цэнтаўрын. Асабліва многа яе пры карнявых лістох.

Збор травы цьвінтарэю адбываецца перад красаваньнем; сушка робіцца ў невялічкіх пучкох, якія разьвешваюць у цяньку пад дахам, на ветры. Кветкі цьвінтарніку пасьля сушкі павінны захоўваць свой яскравы ружовы колер. З 100 частак сьвежай травы атрымоўваецца 25 частак сухой. Пры ўжываньні сьцябло адкідаюць.

У даваенны час штогодні попыт на сухую траву гэтай расьліны перавышаў 6.000 пудоў.

Для лекавых мэтаў ужываецца лісьце цьвінтарніку, з якога найбольш каштоўны прыкарнёвы акружак. Гэта каштоўнасьць выклікае цікавасьць да культуры гэтай расьліны; пры культуры-ж прыкарнявы акружак вырастае большым, чым у дзікае расьліны.

Для культуры цьвінтарэю патрэбна ў жніўні-верасьні сабраць насеньне з дзікага цьвінтарэю і тады, або раньняй вясной, пасеяць насеньне на сухіх парожніх мясьцінах уроскідку або лепш—радамі, на 25 см. рад ад раду.

Прамысловы збор гэтай расьліны распаўсюджаны ў Палтаўшчыне і Разанскай, Варонескай, Тульскай губэрнях.




1. Centaurium umbellatum Lilb. 2. Уздоўжны разрэз кветкі. 3. Тычачка. 4. Тычачка пасьля красаваньня са скручанымі пыльнікамі. 5. Слупок. 6. Плод. 7. Насеньне (1—паменшана, 2-7—павялічана).




А. Немцаў.

# Аб летапісах.

У той час, калі прыходзіцца абсьледаваць мястэчка або вёску з гістарычнага боку (асабліва па пытаньнях—дзе, калі), амаль што заўсёды прыходзіцца абаперціся на памяць старых людзей, якія перадаюць аб тэй ці іншай падзеі, як сьведкі, або з слоў іншых. Між тым, тыя лічбы, якія яны даюць, бываюць няпэўныя, напр., „гадоў 20—30 назад“, або „з вярсту, з дзьве адсюль“, „прозьвішча ня ўспомню“ і г. д. Тое самае можна сказаць і пра дэталі паасобных падзей. Усё, што праходзіць пастулова, з працягам часу траціць сваю яркасьць, расплываецца і ў канцы зусім зьнікае з памяці людзей.

Мы самі зьяўляемся сьведкамі многіх падзей і зьяў; але, агорнутыя жыцьцёвымі клопатамі, мы іх не прыкмячаем настолькі, каб яны яскрава захаваліся ў нашай памяці.

Вось гэтую фіксацыю зьявішч і павінны ўзяць на сябе краязнаўчыя т-вы—яны павінны весьці хронолёгію свайго мястэчка або вёскі. Такім чынам, здаецца мне, трэба завесьці пры раённых т-вах або пры гуртках *летапісы*.

У гэтых летапісах трэба адзначыць усё тое, што здарылася ў паселішчы з таго часу, як пачынаецца летапіс. Правесьці гэта тэхнічна можна вельмі проста: трэба даручыць аднаму з сяброў т-ва або гуртка весьці запіс усяго таго, што здараецца ў жыцьці паселішча. У летапіс увойдуць: пажары, падзеж жывёлы, буйныя рабаваньні, зьявы ў прыродзе (халодная зіма, мэтэоры, паўночнае зьяньне і інш.), эміграцыя, пытаньне аб выселках, мэліорацыя і іншае. Адзначаць трэба толькі зьявы, не ўдаючыся ў іх крытыку.

Тое, што будзе зроблена адным чалавекам, будзе прадоўжана другім краяведам; такім чынам, з працягам часу ўтворыцца такі запіс, па якім мы можам, як па кнізе, чытаць гісторыю (хаця-б частку) паселішча. Калі гурток існуе пры паселішчы, у якім ёсьць сельсавет, дык ён зможа абхапіць і ўсю тэрыторыю сельсавету—у сельсавеце заўсёды ёсьць весткі, дзе і што здарылася.

На вялікі жаль, уся Кастрычнікавая рэволюцыя, некалькі окупацый (у нашым краі) і інш. зьявы за апошнія гады прайшлі для краязнаўцаў бяз сьледу. А колькі матар'ялу маглі даць запісы аб гэтым часе! Ды і зараз вакол нас праплывае шмат зьяў, а мы толькі глядзім. Пара ўзяцца за гэту справу; лепш позна, чымся ніколі!

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

А. Я. Крукоўскі.

## Горад Мазыр і яго ваколіцы.

I.

### Палажэньне.

У паўднёва-ўсходнім куце Мазырскага Палесься (29.25° усходняе даўжыні, 52,06° паўночнае шырыні), на правым беразе р. Прыпяці распаложаны г. Мазыр—адзін з старажытных гарадоў Беларусі, які існаваў ужо ў дванаццатым сталецьці.

Мазыр [1])—цэнтр акругі, маючай плошчу ў 15.659 кв. кілёмэтраў. Знаходзіцца ад Менску ў адлегласьці 440 клм., ад Масквы—на 794 клм., ад Кіева па р. Прыпяці—на 256 клм, ад Ленінграду—на 1,074 клм.

Каля Мазыра крыжуюцца 2 чыгункі—Паўднёва-Заходняя і Заходняя і вадзяны шлях—Прыпяць. Паўднёва-Заходняя чыгунка праходзіць у адлегласьці ад Мазыра на 3—5 клм. і злучае яго на поўначы з Магілевам, Воршаю, Віцебскам, на поўдні—з Карасьценем, а праз яго па чыгунцы з Сарнаў—з Кіевам.

Ад станцый Паўднёва-Заходняе чыгункі—Мазыра і Козінак—горад знаходзіцца на адлегласьці 5 клм., але г. Мазыр фактычна больш зьвязаны з вузлавою ст. Каленкавічамі, распаложанай на скрыжаваньні Паўднёва-Заходняе чыгункі з Заходняю, хоць яна і ў адлегласьці ад Мазыра на 12 кілёмэтраў. Справа ў тым, што з ст. Каленкавічамі Мазыр злучаны брукаванаю дарогаю, а з ст. Козенкі і Мазыр—звычайнаю дарогаю, пракладзенаю па ўзгоркаватай мясцовасьці, што робіць зносіны з апошнімі станцыямі цяжэйшымі; гэта—першае, а падругое, і для едучых па Заходняй чыгунцы выгадней накіроўвацца з ст. Каленкавічы, ліквідуецца адна лішняя перасадка.

Заходняя чыгунка злучае г. Мазыр з прымежнымі часткамі акругі, а на паўночным усходзе—з Рэчыцаю, Гомелем, затым Новазыбкавам, Клінцамі, Бранскам і Масквою. Сетка чыгунак на Мазыршчыне складае 273 кілёмэтры.

Водная дарога Прыпяць праходзіць праз самы горад і мае паўднёва-ўсходні кірунак (з большым адхіленьнем к поўдню). Праз р. Прыпяць злучаецца Мазыр з буйнейшымі мястэчкамі акругі: Туравам, Нароўляю, з гор. Пятрыковым, з шэрагам вялікіх сёл, як Лясковічы, Дарашэвічы, Балажэвічы, Дзернавічы і інш., злучаецца, нарэшце, з г. Кіевам. Р. Прыпяць адыгрывае вялікую ролю ў жыцьці акругі.

---

[1]) На 1 кастрычніка 1926 г. ў Мазыры было 9.293 насельн., у 1895 г.—12.251 у 1910 г.—10.597, у 1921—8.420.

Правы бераг ракі каля г. Мазыра высокі, мясцамі стромкі, ад чаго набывае прыгожы выгляд (гл. мал. 1).


Правы бераг р. Прыпяці каля Мазыра.
*(Фот. Жалігоўскага).*

Частцы гораду (вул. Карла Лібкнэхта, Кіеўскай Набераражнай), распаложанай на большым нізкім беразе ракі, часам пагражаюць веснавыя паводкі, хоць адвод русла ракі ад гэтых месц зроблены пры дапамозе гатак. Глыбіня ракі каля гораду мясцамі дасягае 230 сантым., шыруня—0,5 клм., шпаркасьць цячэньня—3,2 клм. у гадзіну. Нормальна ўзровень вады лічыцца ў 200 сантым., але ў гады найвялікшых паводак, якімі ў апошнія часы былі 1917, 1924, 1926 г., узровень вады падымаўся на 360 сантым. (1926 г.) і нават на 413 см. (1924 г.) [1]). Самы нізкі ўзровень вады быў у 1925 г., калі ён дасягаў 68 см. [2]). У часе паводак рака ля гораду разьліваецца зьверх 4 кілёмэтраў у шырыню, затапляючы левы, нізкі бераг да барханістых узгоркаў, якія зьяўляюцца нібы левым берагам даліны р. Прыпяці. У гэтай мясцовасьці раскідана значная колькасьць вазёр рознае формы і велічыні, але выцягнутых у кірунку цячэньня р. Прыпяці.

Апрача паказаных дарог, праз Мазыр праходзіць Ленінградзка-Кіеўскі гасьцінец, ці так званы „Кацярынінскі“. (Паводле паданьня гэты шлях быў нібыта пралажаны да праезду Кацярыны II у Крым). Гэты шлях злучае Мазыр на поўначы з ст. Мормаль, Жлобінам, Рагачовам, на поўдні—з Оўручам і Жытомірам. Вучастак гэтага шляху паміж Мазыром і Каленкавічамі брукаваны. Ленінгр.-Кіеўскі гасьцінец, злучаючы з Мазыром значна залюдненыя пункты акругі, як, напрыкл., Каленкавічы (горад з 3.086 жых.), Каралін, Скароднае (мястэчкі), Дудзічы, Дашановічы, Міхалкі, Санюкі (сёлы), грае значную ролю ў жыцьці акругі. На поўдзень ад Мазыра, у кірунку да Міхалак Ленінградзка-Кіеўскі шлях праразае, выходзячы з гораду, Капітанскую горку і выходзіць на высокую частку Мазырскіх узгоркаў, зрэзаных мясцамі раўчагамі. Шлях,


Ленінградзка-Кіеўскі гасьцінец у 1½ клм. ад г. Мазыра.
*(Фот. Жалігоўскага).*

[1]) Паводле апавяданьня селяніна в. Баравікі (аб ім будзе гаварыцца ніжэй) Шумака Сямёна Іванавага (60 год), узровень вады ў Прыпяці ў 1845 г. быў настолькі высокі, што разьліў ракі даходзіў да цагельні, якая ў 1 вярсьце ад г. Каленкавіч у кірунку да Мазыра.

[2]) Зьвесткі ўзяты ў воднае прыстані.



абсаджаны тут паабапал бярозамі, вабіць вока сваёю прыгожасьцью (гл. мал. 2).

Часта г. Мазыр і яго ваколіцы завуць „Мазырская Швэйцарыя“ па тэй прычыне, што распаложаны на ўзвышшах на правым беразе р. Прыпяці.

II.

## Раўчагі.

Узвышшы каля Мазыра зрэзаны раўчагамі, якія дасягаюць у глыбіню да 20 сажняў. Кірунак раўчагоў тут, агульна кажучы, паўночнаўсходні і ўсходні. Раўчагі маюць стромкія, абрывістыя спады, дно іх мясцамі пазарастала лесам, расьце лес і на грэбнях, што паміж раўчагамі, а ўсё гэта надае мясцовасьці надзвычайна прыгожы горны краявід, узорам якога можа служыць фотографія, якая тут зьмяшчаецца. Праўда, угледзеўшыся ў апошнюю, можна заўважыць узгоркі ня надта высокія, вяршыні іх даволі палогія, але-ж агульны выгляд мясцовасьці напамінае горны краявід. Рост раўчагоў адбываецца штогодна, хоць спады іх і апрануты расьліннасьцю (гл. мал. 3).



Краявід на Мазырскіх узвышшах у 2,5 кілём. ад гораду, налева ад Міхалкоўскага тракту. *(Фот. Жалігоўскага).*

На схілах Мазырскіх узвышшаў, якія прылягаюць да р. Прыпяці, мясцамі ля падэшвы ўзвышшаў, часткаю на схілах раўчагоў і ў іх далінах, якія праразаюць узвышша ў кірунку да ракі, часткаю на грэбнях узвышшаў паміж раўчагамі і распаложаны г. Мазыр—цэнтр акругі, якая носіць яго назву. Дзякуючы распалажэньню гораду на няроўным месцы, ён мае прыгожы від, асабліва ўвекалі на яго пазіраць з-за ракі чары, пры электрычным асьвятленьні, ці з узгоркаў (гл. мал. 4).



Агульны від часткі г. Мазыра з-за ракі (з поўначы) *(Фот. Жалігоўскага).*

Прастора занятая горадам, перарэзана раўчагамі ў 5 мясцох*), што дало мажлівасьць разьмясьціцца частцы вуліц у далінах раўчагоў. Да такіх вуліц, напрыклад, належыць: Калінік, Ленінская, ад верхняга канца якое адыходзіць па раўчагу вул. Сьвідоўка, а ў шырокай даліне аднаго раўчага, на больш высокіх частках яе распалажаны аж 2 вуліцы—Папоўшчына і Пятніцкая (гл. плян гораду), адна-ж вуліца, па прычыне разьмяшчэньня яе ў раўчагу, насіла назву „Рымашова Рова“.

*) Гаворыцца пра галоўныя раўчагі.

Дзякуючы такому распалажэньню часткі вуліц, па іх у часе вялікіх ліўняў бягуць значныя патокі, заносячы брукаваныя вуліцы пяском і глінаю, а таксама размываючы раўчакі, на небрукаваных вуліцах, што вымагае ад Акркомгасу наладжваньня аховы вуліц ад размываньня. У 1924 годзе быў такі выпадак, што патокам зьнесла ў раку некалькі кароў. Апрача таго, ад вялікага ліўню на працягу 1—2 гадзін быў размыты раўчаг на вул. Калініна (б. Калінік) глыбінёю на 6—10 сажняў. Стаяўшы ў гэтых мясцох дом напалову павіс у паветры і толькі хуткае мерапрыемства Комунальнага Аддзелу абараніла яго ад распаду. Паводле апавяданьняў насельніцтва, у даваенную пару, прыблізна, у працягу часу ад 1911 па 1913 г., у часе ліўню патокам было зьнесена ў раку з рынку некалькі кароў і падвода з канём. З Ленінскае вул. (б. Пакроўская) тэлеграфныя слупы былі звалены патокам.

III.

### Вуліцы і плошчы.

У горадзе ўсяго 17 вуліц: 1) Ленінская (б. Пакроўская), 2) Новае Страеньне, 3) Сьвідоўка, 4) Розы Люксэмбург (б. Слуцкая), 5) Слуцкая Набережная, 6) вул. Лекерта (б. Мікалаеўская), 7) Аляксандраўская




[A].

8) Комсамольская (б. Замкавая), 9) Гара Комунараў (б. Спаска-Замкавая і Спаская), 10) Карла Лібкнэхта (б. Кіеўская), 11) Житомірская, 12) Кіеўская Набережная, 13) вул. Калініна (б. Калінік), 14) Нагорная, 15) І Пролетарская (б. Папоўшчына), 16) ІІ Пролетарская (б. Пятніцкая), 17) вул. док-ра Саета (б. Рымашоў Роў); завулкаў—5: 1) Гімназічны, 2) Комсамольскі (б. Сьвята-Міхайлаўская вул.), 3) Лекерта (б. Мала-Мікалаеўская), 4) Кіеўскі, 5) Праразны завулак, 1 пляц, маючы назву „Плошча Свабоды“ (б. Базарная).

Будуецца новая частка гораду, маючая назву „Рабочы гарадок“.

Прыгарадамі зьяўляюцца: Кімбараўка (яна часта завецца Кімбараўскай вул.), Салаўёўка і х. Целяпуны, каля якога знаходзіцца фабрыка „Чырвоны Кастрычнік“. Брукаваныя толькі наступныя вуліцы: Новае Страеньне, Ленінская, Аляксандраўская, Карла Лібкнэхта, Комсамольская, частка Слуцкае Набережнае, Комсамольскі завулак ды Плошча Свабоды.

Праз раўчагі, якія разьдзяляюць абшар, заняты горадам, пароблены масткі; такіх—4. Праз р. Прыпяць па Ленінградзка-Кіеўскім шляху ёсьць таксама мост, недалёка ад гораду знаходзіцца і чыгуначны мост па Паўднёва-Заходняй чыгунцы *).

У горадзе—2 сады, адзін на Плошчы Свабоды, другі „Гарадзкі сад“—на краі ўзгорку, які завецца „Ксяндзоўка“. Гэта—бярозавы гаёк, распаложаны на вышыні да 165 мэтраў, над схіламі ўзгорку. Па някрутым схіле ўзгорку з Ленінскае вуліцы зроблены ўсходкі для праходу ў сад, лік усходак—164.

Трэба адзначыць яшчэ тое, што паміж раўчаговымі далінамі, якія пераразаюць, як сказана вышэй, горад, знаходзяцца ўзгоркі; кожны з іх мае сваю назву, так, напрыклад: паміж Ленінскай і Мікалаеўскай вул. знаходзіцца ўзгорак „Жучка“ (гл. плян), а на ім могілкі з царквою; паміж Ленінскай вул. і Калінікам—Ксяндзоўка, у чатырохкутніку, бакамі



Агульны від г. Мазыра з узгорку „Жучка“.
*(Фот. Жалігоўскага).*
На пярэдняй частцы—Ленінская вуліца, двухпавярховы дом направа—будынак Пэдтэхнікуму, за ім Ксяндзоўка. На задняй частцы фотографіі—касьцёл і Міхайлаўскі сабор, налева ад іх, за белым домікам, відаць будынкі, распаложаныя на гары Комунараў, б. Замкавай.

якога служаць Плошча Свабоды, Комсамольскі завулак (б. Міхайлаўская вул.), вул. Карла Лібкнэхта, Комсамольская вуліца—гістарычная Спаска-Замкавая гара (цяпер гара Комунараў); каля Калініка, прылягаючы да Житомірскае вул.,—Капітанская горка, прарэзаная раўчагом, па якім, у кірунку да в. Міхалак, праходзіць Ленінградзка-Кіеўскі гасьцінец. Узгоркі, хоць рэдка, але пакрыты рознымі дрэвамі, ад чаго набываюць больш характва і прыхарошваюць горад, асабліва, калі на яго глянуць, падняўшыся на які-колечы ўзгорак (гл. мал. 5). Вуліцы-ж у горадзе пакрыўленыя і вузкія. Больш простымі і шырокімі зьяўляюцца: Ленінская, Розы Люксэмбург і Карла Лібкнэхта.

*) Абодва масты былі зьнішчаны ў часе окупацыі палякамі, але Савецкая ўлада адбудавала іх нанова.

Асьвятляецца Мазыр электрычнасьцю, устаноўлена 24 фонары, на асьвятленьне якімі ў сьнежні м-цы 1926 г. трацілася 720 кілёват энэргіі. Ні конкі, ні трамваю, ні аўтобусаў у Мазыры няма. З прычыны невялікіх канцоў гораду і да возьнікаў насельніцтва зварочваецца звычайна тады толькі, калі трэба прывезьці доктара да хворага або калі трэба адвезьці хворага ў больніцу.

## IV.

## Будынкі.

Аб жылых і няжылых будынках г. Мазыра пэўных лічбаў пакуль што няма, а ёсьць лічбы, толькі прыблізна высьвятляючыя гэтае пытаньне. Так, у 1923 годзе было:

| Усяго Будынкаў | Лік жыл. кват. | | Лік занятых памяшканьняў | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Занятых | Пустуючых | Установамі | Фабрычна-заводзк. майстэрні | Іншыя прамысл. памяшк. | Гандлёв. памяшк. | Склепаў | Стайняў | Гаражаў |
| 1.436 | 1.387 | 11 | 43 | 11 | 165 | 126 | 24 | 4 | 1 |

(Паводле зьвестак акруговага статбюро за 1923 год).

У 1924-25 будаўнічым годзе адбываўся, галоўным чынам, рамонт будынкаў, а таму новае будаўніцтва ў горадзе было мала разгорнута, было пабудавана за гэты год 6 будынкаў, у 1924-25—21 будынак.

У 1925-26 будаўнічым годзе ў горадзе праведзена наступнае будаўніцтва:

| Збудавана комгасп. | | | Жыльлёвай коопэрацыяй | | | Прыватнымі асобамі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Драўлян. дамоў | З лікам кватэр у іх | З жылою плошчаю ў кв. м. | Драўлян. дамоў | З лікам кватэр у іх | З жылою плошчаю ў кв. саж | Драўлян. будынкаў | У іх кватэр | З жылою плошчаю ў кв. саж. |
| 3 | 6 | 318 | 9 | 18 | 360 | 41 | 123 | 379 |

Дадаўшы да ліку будынкаў 1923 г. той лік будынкаў, што збудаваны ў наступныя гады, і вылічыўшы праданыя будынкі за тыя-ж гады на знос, будзем мець у г. Мазыры ў 1926 г., прыблізна, 1.517 будынкаў. Комунальных будынкаў у 1925 годзе налічвалася 166 з жылою плошчаю ў 6.024 квадр. саж., лавак было 285. У 1926 г. комунальных будынкаў у горадзе паводле даных комгасп., налічваецца 418, яны разьмяркоўваюцца так:

| Усяго | Лік будынкаў камен. жылых | | | | Лік будынкаў драўл. жылых | | | Лік буд. мяшаных жылых | | | Лік няжылых будынкаў | | | | Будынкі з дахам | | Матар'ял падмуроўкі драўл. буд. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | 1 пав. | 2 пав. | 3 пав. | Усяго | 1 пав. | 2 пав. | Усяго | 1 пав. | 2 пав. | Усяго | Камен. | Драўл. | 1 пав. | Бляш. | Цесавыя | Цагляны | Драўл. |
| 157 | 63 | 26 | 35 | 2 | 85 | 80 | 5 | 9 | — | 9 | 261 | 93 | 168 | 261 | 75% [1] | 25% | 25% | 75% [2] |

[1]) Лічбы прыблізныя.
[2]) Лічбы прыблізныя.

Асабліва выдатных будынкаў у г. Мазыры няма, а да больш-менш выдатных трэба залічыць будынак больніцы (дабудаваны ў 1926 г.) і Пэдтэхнікуму (был. мужч. гімназія). У пажарных адносінах распалажэньне будынкаў гораду трэба прызнаць нездавальняючым з прычыны іх скучанасьці, а таксама і дзеля няроўнасьці месца, што перашкаджае працы па затушэньні ўзьнікаючых пажараў, якіх налічвалася: у 1922 г. 7 малых, стратай кожны ад 25 да 150 руб., у 1923 г. 4 малыя пажары, у 1924 г. 7 малых, у 1925 г. 10 малых і 1 вялікі пажар, у часе якога згарэла 25 будынкаў, стратай у 12.224 руб., у 1926 г. было 7 малых пажараў.

Самы вялікі пажар быў у г. Мазыры 3 жніўня 1892 году, калі згарэлі наступныя вуліцы: Розы Люксэмбург, пачынаючы ад Дому Селяніна і да Плошчы Свабоды, д-ра Саета, Лекерта, Слуцкая Набярэжная, Ленінская ад Плошчы Свабоды да цяперашняга будынку Пэдтэхнікуму, Гара Комунараў, Комсамольская і Карла Лібкнэхта да мосту праз роў, што каля Жытомірскае вуліцы.

Для аховы гораду ад магчымых пажараў існуе профэсіянальная пажарная каманда ў ліку 20 чал., добравольная—89 чал., на фабрыцы „Чырвоны Кастрычнік“—89 ч. На комбінаце комхозу ёсьць на ўвазе організаваць пажарную дружыну ў ліку 33 чал. Пажарнае абарудаваньне складаецца з 7 машын, 7 труб, 11 аднаконных бочак, 3 параконных, 1 багорнага ходу, 7 лесак, 25 сякер, 4 ломаў, 29 лапат, 11 штук коняй. У пажарным дэпо заўсёды на варце 5 пажарнікаў.

## V.
## Помнікі старасьветчыны.

Першыя зьвесткі аб Мазыры, як гарадзкім паселішчы, належаць да XII ст. У літоўскі час Мазырскі замак і яго воласьць належалі да гаспадарскае маемасьці вялікага князя Беларуска-Літоўскага ў складзе рускіх (беларускіх) валасьцей.

Займаўшы канцавы, паўднёва-ўсходні пункт даўнейшае Полаччыны, Мазыр быў першым горадам, які нішчыўся, калі быў паход на Полаччыну ці кіеўскіх князёў ці татар, ці ў часы барацьбы казацтва з польскім панаваньнем. Так, напрыклад, у 1241 г. Мазыр быў зрабаваны татарамі. Крымскія татары некалькі разоў спальвалі горад, у 1497 і 1521 г. г. ён быў спалены перакопскімі татарамі, тое-ж было і ў 1534 г.

У часы барацьбы казацтва з польскім уціскам вядома, што сялянства Мазыршчыны прылучалася часта да казацтва, а таму і Мазыр у гэтай барацьбе адыгрываў часта пэўную ролю. Тут упарта, пры дапамозе насельніцтва гораду, абараняўся супроць польскіх войск казацкі палкоўнік Міхненка, адданы сьмерці пасьля таго, як войска Януша Радзівіла забрала горад. Думаецца, што і самы горад за падтрыманьне яго насельніцтвам Міхненка ласкі ад Я. Радзівіла не атрымаў.

З тае прычыны, што ў палове XVIII стал. Мазыр некалькі разоў быў зьнішчаны, ён быў звольнены ад усіх замкавых павіннасьцяй, ды плаціць іх ужо ня было каму. Ня быў вольны Мазыр і ад рэлігійнае барацьбы, якая вялася тут значны час паміж каталіцызмам і праваслаўем. Аб барацьбе гэтай ў XVIII ст. могуць сьведчыць такія зьвесткі: 25 красавіка 1765 г. праваслаўны поп Спаскае царквы гор. Мазыра Грыгор Каржанеўскі пісаў да намесьніка Кіеўскага біскупства *), што

*) „Сборник документов, уясняющих отношения латино-польской пропаганды к русской вере и народности“, вып. 2, Вільна, 1866 г., ст. 217—218“.

калі ён паехаў у Скрыгалаў спавядаць сваіх парахвіян, то Скрыгалаўскі ўправіцель Рэперына, не дазволіў гэтага, кажучы: „я имею приказание от моего пана, и приказываю тебе поп-флейтух (оборванец, сволочь), чтобы ты впредь в имения моего пана не ездил... Такие, как ты, у меня мололи в жерновах для собак и с собаками сидели на псарни“. А вось другі малюнак рэлігійнае барацьбы ў Мазыры: „Пользуясь поддержкою Оскерков, ландвойт мозырский Опока вступил в открытую борьбу с базилианами. Он выстроил сарай на церковной земле около самого кляштора базилиан, захватил их имения; собрав толпу мозырских рыбаков и крестьян, выловил в монастырских озерах рыбу, забрал с лугов сено и т. д“. [1]).

Г. Мазыр, ляжаўшы на заходняй артэрыі воднага шляху „з Варагаў у Грэкі“—Прыпяці, павінен быў рана прыняць удзел у гандлі, які адбываўся на гэтым шляху. Але ён ня меў багатага росквіту. У палове XVI ст. ён быў вельмі маленькім гарадком.

Тут былі двары: старасты, гараднічага з дзякамі, 7 шляхоцкіх двароў, два папоўскія, 4 пушкарскія, 6 путных слуг таксама 217 мяшчанскіх двароў, 44 дваранскіх прыгоньнікаў. Усё насельніцтва гораду складалася з 230 гаспадароў і 51 „хлопа“ [2]). Паводле копіі пляну г. Мазыра ад 1769 году і тлумачальнай да яго запіскі [3]) трэба лічыць, што ў ім (горадзе) у другой палове XVIII ст. было 211 двароў (сядзіб), 6 царкоўных сядзіб, 1 пад ратушай, частка зямлі была занята крамамі і 2-ма цагельнямі.

У прадмесьці гор.—Кімбараўцы тады было 17 сядзіб, 2 царкоўныя, але апрача гэтага прадмесьця, было яшчэ 5 бліжэйшых хут., якія належалі Якімовічу, Язерскаму, Пятроўскаму, Бакачу і шляхтам Яхімовічам.

Калі разглядзець зьмяшчаемую тут фотографію з копіі пляну г. Мазыра ад 1769 году і паясьняльную запіску да самое копіі пляну, дык выявіцца аб Мазыры шмат цікавых зьвестак, асабліва, калі гэтыя зьвесткі (ад 2-ое паловы XVIII ст.) параўнаць з весткамі аб цяперашнім стане гораду. У верхняй частцы фотографіі відаць пасаджаныя ў радок дрэвы, гэта абазначана мяжа гарадзкое зямлі. Спускаючыся ад гэтае мяжы ўніз, у кірунку да ракі, сустрэнем наступныя залюдненыя пункты: Калачоўку (цяпер Гумнішча Сядзельніцкае), Ясеньшчыну, Пянькі, хут. Матрункі, Козенкі, Бабры, Булаўкі, Пранькі, Лычажэвічы, Целяпуны. Усе пералічаныя залюдненыя пункты ёсьць і цяпер, некаторыя з іх, як, напрыклад, Козенкі, Бабры, разрасьліся ў значныя вёскі, але па традыцыі завуцца хутарамі. Калі разгледзець самы горад Мазыр, дык выявіцца, што ён складаўся у той час толькі з наступных вуліц: II Пролетарскае (б. Пятніцкая), Розы Люксэмбург (б. Слуцкае), але яна толькі забудавалася, вул. Карла Лібкнэхта (б. Кіеўская), якая зьяўлялася самай залюдненай вуліцай, але былі распаложаны будынкі толькі па адзін бок яе, прылягаючы да ракі, Житомірскае вул. і Плошчы Свабоды (б. Базарнае). Такіх-жа вуліц, як Ленінская, Новае

[1]) Россия, под ред. В. П. Семенова, т. IX, стар. 566.
[2]) Там-жа. Стар. 265-266.
[3]) Копія пляну захоўваецца ў Мазырскім Акружным Праўленьні кр-ва, яна зьнята з орыгіналу пакойным краязнаўцай Мазыршчыны К. Б. Шпакоўскім; орыгінал захоўваўся ў Мазырскай Земскай Управе. Паясьняльная запіска на падставе быўшых пры пляне матар'ялаў складзена таксама Шпакоўскім.

Страеньне, Сьвідоўка, І Пролетарская, Слуцкая Набережная, вул. Калініна, Кіеўская Набережная, Комсамольская і завулкаў зусім ня было.




Б) Копія пляну г. Мазыра 1769 году[1]).

Да старых будынкаў, якія існавалі ў II палове XVIII ст. і частка з якіх захавалася да нашых дзён, належаць наступныя: каля ніжняга левага куту фотографіі (месца абазначана лічбінай „1“ знаходзіўся Базыльлянскі манастыр, які быў распаложаны на цяперашняй Яснай Гары. Цяпер ад яго засталіся толькі кавалкі цэглы ды падане, што манастыр быў зачынены па загаду Мікалая І за бясчынства манахаў і яшчэ наступная легенда: „Каля манастыра рос вялікі лес, дзе былі нават мядзьведзі. Недалёка ад манастыра жыла красуня-дзяўчына, у якую закахаліся і манах і прыор манастыра. Дзяўчына-ж аддавала перавагу манаху. Даведаўся аб гэтым прыор і наважыў забіць манаха. Завёў манаха ў лес, забіў там, навязаў яму на шыю камень і ўкінуў у вазярцо. Праз некаторы час праходзіў каля вазярца мядзьведзь і пачаў у ім купацца і ўчуў пах чалавека. Мядзьведзь нырнуў і выцягнуў цела манаха на бераг, але не чапіў яго. Праз колькі часу цела манаха знайшлі і даведаліся, хто забіў яго і за што. Пасьля гэтага манастыр зачынілі“ [1]).

Направа ад гэтага месца лічбаю „2“ абазначаны крыж, які ёсьць і цяпер (каля шляху ў в. Слабаду). У тлумачальнай запісцы да пляну 1769 ёсьць зьвесткі, што гэты крыж пастаўлены тут місыянэрамі, а паводле апавяданьняў некаторых насельнікаў, што крыж пастаўлены на месцы, дзе пахованы памёршыя ад чумы. Спускаючыся адсюль па дарозе ўніз да ракі, напаткаем царкву, якая завецца „Пятніцкая“ ці „Параскевіеўская“. У „Минских епархиальных ведомостях № 11 от 1 июня 1884 г.“ знаходзім дапушчэньне, што яна налічвала тады (у 1884 г.) 150 г., а таму зьяўляецца самаю старажытнаю ў гарадзе. У „Историческом очерке Минской губ. в начальную пору существования Русского государства,

[1]) Калі зьвярнуць увагу на р. Прыпяць, адзначаную на фотографіі, дык выходзіць, што яна нібыта робіць круты залом каля Мазыра. У рачавістасьці гэта ня так. Аўтар, ня маючы месца для нанясеньня часткі ракі і прылягаючага да яе гораду, павярнуў на пляне раку пад простым кутам. Копія пляну і орыгінал былі без маштабу.

[2]) Легенда запісана не літаральна.

А. Товарова, Минск, 1910 года", на стар. 38 знаходзім весткі, што ў XI—XIII ст. ў Мазыры ўжо існаваў жаночы Параскевінскі манастыр. Ніякіх-жа зьвестак аб існаваньні ў горадзе другое Параскевінскае царквы, апрача той, якая ёсьць, няма, дык можна думаць, што ў 1884 г. самы будынак памянёнае царквы можа і налічваў 150 г., а сама царква хутчэй за ўсё была заснавана раней.

Каля гэтае царквы—існаваўшая тады—цяперашняя II-я Пролетарская вуліца (б. Пятніцкая). Направа ад яе знаходзяцца зачаткі цяперашняе вуліцы Розы Люксэмбург, а за ёю, паміж двума роўналежнымі чорнымі палоскамі (роўналежна спачатку)—цяпер Плошча Свабоды, недалёка, уніз ад яе, была ратуша, а паміж ёю і вышэйляжачай вуліцай, знаходзіўся Міхайлаўскі сабор (на фот. абазн. лічб. „4“, але ратуша і сабор зьліліся ў вадно). Гэты сабор быў распалажаны на месцы цяперашняга двара электрастанцыі. На месцы б. сабору ў 1926 г. пры капаньні ямы для ўстаноўкі трубы знаходзілі чалавечыя чарапы. Вышэй гэтага, над лічбаю „5“ знаходзіцца Мікалаеўская царква, вядомая ўжо, як базыльлянская царква, у палове XVI ст.

За ёю (абазн. лічб. „7“) знаходзілася б. Спаская царква, якая існавала ўжо ў палове XVI ст. Магчыма, што ад гэтае царквы і гара атрымала назву „Спаскай“. Управа ад Спаскае царквы была яшчэ нейкая царква (абазн. лічб. „6“), на месцы яе цяпер знаходзіцца капліца.

Вышэй Спаскае царквы і капліцы знаходзілася Мазырская крэпасьць-замак, адчаго і гара атрымала назву „Замкавай“ (замак абазн. лічб. „8“). За замкам, каля лічб. „9“—езуіцкі касьцёл, заснованы ў 1730 год., а направа ад яго (пад лічб. „10“) плябаня, за ёю, каля лічб. „11“—бэрнардынскі манастыр, заснаваны ў 1645 г. Цяпер гэта Міхайлаўскі сабор, а пры ім будынак, дзе быў інтэрнат манахаў.

Пад саборам—склеп, у якім ёсьць трупы, а з гэтага склепу быў нібыта ход аж у прадмесьце гораду—Кімбараўкі.

У Кімбараўцы ўжо былі два манастыры, каля лічбы „12“—мужчынскі, каля „13“—жаночы, ордэну Марыявітак.



Зьлева—спад Замкавае Гары, а на ён знаходзіцца былая кладоўка крэпасьці.
(*Фот. Жалігоўскага*).

З пералічэньня старажытных помнікаў г. Мазыра відаць, што да такіх належаць пераважна цэрквы да б. манастыры бэрнардынцаў, базыльлян, езуітаў, а з ліку іх да нашых дзён захаваліся наступныя: замчышча з былою замкаваю кладоўкай на ім (гл. фотогр. 6), Пятніцкая царква, Міхайлаўскі сабор (былы манастыр бэрнардынцаў) і пры ім будынак был. інтэрнату манастыра, руіны манастыра на Кімбараўцы і будынкі манастыра ордэну марыявітак (цяпер Сьвята-Духаўская царква).

Да параўнаўча старых будынкаў трэба прылічыць вялікую сынагогу, якая, па надпісе ў ёй, налічвае ўжо 91 год, а паводле апавяданьняў да 130 гадоў. З ліку пералічаных помнікаў больш падрабязныя зьвесткі падаю аб. б. манастыры ордэну марыявітак ды Замкавай Гары.

Да нашых дзён захаваўся ў значнай сахраннасьці б. манастыр Марыявітак (гл. фотогр. 7). Манастырскі цьвінтар, абгароджаны цаглянаю сьцяною, вышынёю ад сажня да 2-х і таўшчынёю ў паўтара аршына.




Былы жаночы манастыр ордэну марыявітак (ц. С.-Духаўская ц-ва).
*(Фотог. Жалігоўскага).*

На абгароджаным цьвінтары апрача царквы яшчэ ёсьць і такія будынкі: двохпавярховы будынак, служыўшы інтэрнатам для манашак, дом, дзе жыла ігуменьня манастыра, пякарня і яшчэ ёсьць 4-ты дом, невядома якога прызначэньня. Усе будынкі зроблены з цэглы большае па разьмерах, чым цяперашняга вырабу і большаю часткаю слаістае па будове. Дах будынкаў, апрача царквы, чарапічны. У манастырскай сьцяне 3 варот. Сядзіба-ж манастырская была высаджана вербамі і ліпамі, частка, якіх захавалася і да нашых дзён. Існаваўшы даўней у Мазыры Замак, быў распаложаны блізка цэнтру цяперашняга гораду. Ад замку ў нашыя дні захаваўся ўзгорак прадаўгавата-круглае формы, правільнасьць якое нарушае прылягаючая з усходняга боку значна ніжэйшая пляцоўка.

Замчышча мае ўдаўжыню больш як 63 сажні, ушырыню—28 саж., увышыню над узроўнем ракі Прыпяці—блізка 35 сажняў. Пажар 3 жніўня 1892 г. перакінуўся, як вядома, і на гэтую частку гораду, дык былыя будынкі і на замчышчы згарэлі. Не згарэла толькі




[B.]

кладоўка замку (на пляне яна абазн. лічб. „1“), якая знаходзіцца ў левай частцы чатырохкутніка, каля схілу ўзгорку, яна і цяпер служыць кладоўкай Акрфінаддзелу. Крыху вышэй кладоўкі, у кірунку да Польскага касьцёлу былі Замкавыя вароты [1]), пад‘ёмны-ж мост быў у кірунку да Міхайлаўскаго сабору. Часткі цяперашняга Комсамольскага завулку, які прылягае да ўзгорку, служылі крэпасным ровам.

Цяперашняе замчышча (на пляне—Замкавая Гара) і Спаская Гара былі абнесены парканам, рэшткі якога можна сям-там назіраць і цяпер при вопаўзьнях узгоркаў.

Найбольш моцнаю стараною замку зьяўлялася ўсходняя і паўночна-ўсходняя, бо схілы ўзгорку тут надта крутыя і ўскарабкацца па іх было надзвычайна цяжка, затое найбольш небясьпечнай стараной зьяўлялася заходняя. З пляну відаць, што праз няшырокую даліну ад месца, занятага калісь замкам, знаходзіцца ўзгоракаватая мясцовасьць такое-ж вышыні, як і замкавая. Такім чынам, вораг, заняўшы паказаныя ўзвышшы (цяп. Ксяндзоўку), мог паралiжаваць абарону замку. Блізка-ж такою небясьпечнаю стараною зьяўлялася і частка б. Спаскай Гары, прылягаўшая да ц. Плошчы Свабоды, бо вораг, заняўшы ўзгоркі за плошчаю, мог таксама паралiжаваць абарону гэтае часткі крэпасьці [2]).

На Замкавай Гары цяпер знаходзіцца Акрфінаддзел, Спаская Гара залюднена, абедзьве-ж горкі атрымалі назву „Гара Комунараў“. (Плян В).

## VI.

## Ваколіцы Мазыра.

З ваколічных месц гораду варта адзначыць узгорак, які завецца „Кальварыя“ і знаходзіцца на поўвярсты ад Ксяндзоўкі (Ксяндзоўка вызначана на пляне) у паўднёва-заходнім кірунку. За Кальварыяй на адлегласьці 100 сажняў у паўднёвым кірунку знаходзіцца яйкавідны ўзгорак „Шайтан“. З фотографіі (8) гэтага ўзгорку можна ўявіць сабе, што ўзгорак „Шайтан“ зьяўляецца цікавым з боку свайго пахаджэньня. Ён складзены пераважна з бурае гліны, у якой шмат каменьня, у той час як прылягаючая да яго мясцовасьць пяшчаная. Рост раўчагоў адбываўся таму за кошт больш лёгкага грунту, у выніку чаго і ўтварыўся „Шайтан“, як складзены з больш цяжкіх грунтоў. Трэба адзначыць яшчэ і тое, што вада ў кірунку да „Шайтана“ сьцякае з 3-х бокоў так, што дапамагае акругленьню ўзгорку; ад чыннасьці вады, зразумела, акруглілася і вяршына ўзгорку. Апроча гэтага пра ўтварэньне ўзгорку „Шайтан“ існуе такая легенда: „Чорт разлаваўся на Мазыр і захацеў яго раздавіць. Схапіў гару і панёс, каб кінуць



Узгорак „Шайтан“.
(*Фот. Жаліґоўскага*).

[1]) Паводле пляну 1769 г.
[2]) Аб маёмасьці замку гл. „Россия под ред. В. П. Семенова“, т. IX.

яе на Мазыр, але трошкі не данёс, як закрычаў певень. Чорт упусьціў гару і стаў „Шайтан“.

Зарэчная частка ваколіц (распаложаная за р. Прыпяцьцю) г. Мазыра складаецца з рачное даліны р. Прыпяці, краем якое з процілежнага боку ад гораду зьяўляюцца барханы, складзеныя з сыпучага пяску, які пад напорам ветру перасоўваецца і цяпер. Пясок з барханаў прыгодны для шкляных вырабаў. Немцы ў часе окупацыі спэцыяльна дасьледвалі вартасьць гэтага пяску ў мясцовасьці „Пхове“ (яна ў куту паміж р. Прапяцьцю і Падольскай чыгункай) і прышлі да тых-жа вынікаў.

На барханах, у 2-х вярстах ад Мазыра, каля шашы ў Каленкавічы распаложана в. Баравікі. Гэтая назва кажа аб прысутнасьці тут у мінулым лесу-бору, за гэта кажа таксама і невялікі хваёвы лясок, распаложаны каля вёскі (вялікі хваёвы бор, пачынаецца ў вярсьце за Баравікамі ў кірунку да Каленкавіч). Паводле апавяданьняў старажыла в. Баравікі Шумака Сямёна Іванавага, даўней мясцовасьць, дзе цяпер барханы, дасягаючыя мясцамі да 15 саж. над роўнем вады ў Прыпяці, была роўнай, крыху ўзьнятай, але, калі лес павысякалі, дык вецер параздзьмуваў пясок і пачалі ўтварацца ўзгоркі-барханы.

Паміж узгоркамі і руслам р. Прыпяці ляжыць балоцістая рачная даліна. На ёй раскіданы, як аб гэтым сказана ў пачатку, значная колькасьць вазёр, выцягнутых у кірунку цячэньня ракі Прыпяці. З прычыны нізкасьці мясцовасьці, каля берагу самое ракі Прыпяці сустракаюцца прыгожыя затокі (затоні). Адна з іх тут і падаецца.




Затонь (затока) р. Прыпяці каля Мазыра, на задняй частцы фотографіі—Кімбараўскія ўзвышшы. (*Фот. Жалігоўскага*).

У мясцовасьці працякае і невялікая прытока Прыпяці—Марлявіца, якая, па ўсіх прыкметах, зьяўляецца старым руслам ракі. З найбольш вялікіх і цікавых вазёр, тут распаложаных, варта адзначыць вазёры: Гусь, Уюнішча і Сьвятое. Пра апошняе існуе легенда, што на месцы яго было сяло з царквою, але яно правалілася і стала на яго месцы возера, а пад вечар, на вялікдзень каля возера можна чуць, як з-пад зямлі званы звоняць.

Левы бераг Прыпяці каля Мазыра, берагі вазёр і затонаў пазарасталі лазою, чаротам, асакою і іншымі балотнымі травамі. Каля берагоў у вазёрах і затонах расьце вадзяная лілея (Hymphaea alba Z), куўшынка жоўтая (Huphar luteum Lm.).

У зарэчных ваколіцах Мазыра распаложаны гарадзкія сенажаці і паша для жывёлы. У гэтай-жа мясцовасьці водзіцца і значная колькасьць птушынае дзічы, а таму яна служыць і месцам паляваньня, у вазёрах і рацэ ловіцца значная колькасьць рыбы.

**В. Самцэвіч.**

# Экономічна-культурнае становішча мястэчка Багушэвічы

*Бярэзінскага р. Барысаўскай акругі *).*

### Палажэньне і надворны выгляд мястэчка.

Да раёнаваньня 1924 г. м. Багушэвічы ўваходзіла ў склад Ігуменскага (Чэрвенскага) павету б. Менскай губ., а пасьля раёнаваньня 1924 г. увайшло ў склад утворанага Бярэзінскага раёну і далучана да Барысаўскай акругі.

Мястэчка ляжыць пад 53°41′ паўн. шыр. і 28°40′ усх. даўжыні (ад Грынвіча) і знаходзіцца на адлегласьці 95 клм. ад г. Менску, 70 клм. (па грунтавой дарозе) ад акруговага г. Барысава, 23 клм. да раённага цэнтру м. Бярэзіны. Ёсьць рачная прыстань, больніца і да бліжэйшай чыгуначнай ст. Градзянкі П.-З. чыг. 23 клм. Бліжэйшыя рачныя прыстані па р. Бярэзіне знаходзяцца ў м. Бярэзіне на адлегласьці 23 клм. і пры в. Якшыцы на адлегласьці 12,5 клм. Сувязь з Менскам і Барысавам зімой па грунтавых дарогах, летам з Барысавам па р. Бярэзіне параходам.

Грунтавыя дарогі даюць магчымасьць зносіцца з акаляючымі вёскамі Барысаўскай і Менскай акруг ва ўсе поры году; масты і грэблі адноўлены і знаходзяцца ў лепшым становішчы, чымся былі ў даваенныя часы; найлепшымі грунтавымі дарогамі зьяўляюцца: дарога на Чэрвень (Ігумен) і шлях з Бабруйску на Барысаў (у 5 клм. ад мястэчка).

У кірунку з паўн. зах. на паўднёвы ўсход праз м. Багушэвічы па ледавіковай даліне працякае р. Уса, правая ўтока р. Бярэзіны. Шырыня ракі каля мястэчка дасягае 13 мэтраў, глыбыня ад 0,75 м. да 2 м., а мясцамі і глыбей. Вясной Уса выходзіць з берагаў і залівае лугі. Сіла рачное вады выкарыстоўваецца для прывядзеньня ў дзейнасьць вадзяных турбін-рухавікоў; у мястэчку ёсьць вадзяны млын і крупадзёрка.

Паверхня на абодвых берагох рэчкі і навокал мястэчка хвалістая, пакрытая лесам і гаямі. Мясцовасьць досыць прыгожая.

Мястэчка распаложана на ўзгорку па абодвых бакох р. Усы; абедзьве часткі злучаюцца праз раку 2 драўлянымі мастамі. У асяродку мястэчка ёсьць невялікая кірмашная плошча і старая драўляная царква. Непасрэдна да цэнтральнай, найбольш старой часткі мястэчка прылягае пазьнейшая частка мястэчка „Канец“; мост праз раку злучае мястэчка з т. зв. „Зарэччам“. Паміж „мястэчкам“ (цэнтральнай часткай) і ракой ёсьць пладовы сад у 1,5 дз., які ў сучасны момант належыць школе сямілетцы. Жылых будынкаў у мястэчку налічваецца 210; будынкі драўляныя ў цэнтральнай частцы маюць каменныя падмуркі і крыты гонтай; будынкі „Зарэчча“ і „Канца“ на 50% крыты саломай.

---

*) Пры напісаньні артыкулу аўтар карыстаўся матар'яламі краязнаўчага гуртка пры Багушэвіцкай сямілетцы.—В. С.

Найлепшымі будынкамі ў мястэчку зьяўляюцца: каменны касьцёл і драўляны будынак школы сямілеткі (б. настаўніцкая школа). Толькі адна вуліца ў цэнтральнай часьці „мястэчка“ мае і раней мела назву „мяшчанская“, а рэшта „Зарэчча“ і „Канец“ (альбо сяло) асобных назваў вуліц ня маюць.

У 1925 г. у м. з'арганізавана пажарная дружына ў ліку 25 асоб; ёсьць неабходныя пажарныя прылады.

У мястэчку ёсьць паштовае аддзяленьне.

### Гістарычныя весткі.

Аб часе заснаваньня мястэчка дакладных вестак няма ды і наогул гісторыя Багушэвіч не напісана. Ва ўсякім выпадку мястэчка заснавана ў досыць даўныя часы. Старыя насельнікі мястэчка лічаць, што Багушэвічы існавалі раней, чымся Ігумен (Цяпер Чэрвень), але падставы для такога меркаваньня няма. У мястэчку ёсьць старыя яўрэйскія могілкі, якім старыя людзі налічваюць больш за 500 гадоў. Сюды, па іх апавяданьні, прывозілі хаваць яўрэяў з Ігумена. Цяпер у мястэчку налічваецца каля 200 чал. яўрэйскага насельніцтва, а даўней у мястэчку яўрэяў налічвалася каля 1.500 чал. Займаліся яўрэі рамесьніцтвам і падзяляліся на розныя цэхі. У сучасны момант у сынагозе ёсьць кавалак ручкі ад насілак „торы“, на якой захаваўся надпіс,—зробленая цэхам сталяроў: „Оц хоім, нідвас хэврос, пеалэй цэдак“. У мястэчку было 4 сынагогі.

Сялян у Бугашэвічах у старыя часы, кажуць, было вельмі мала (6—7 сем'яў).

Мястэчка некалькі разоў перажывала часы эканомічнага ўздыму і заняпаду, адначасна з чым наглядаўся прыліў і адліў рамесьнікаў у Багушэвічах. Устанавіць прычыны гэтых зьявішч зараз вельмі трудна.

Ёсьць весткі, што Багушэвічы былі прыватным маёнткам графаў Завішаў, а потым ужо ў XIX ст. да 1863 г.—Сьвентаржэцкіх; з 1875 г. мястэчка належала Шалгунову, які атрымаў м. Багушэвічы ў якасьці нагароды ад Аляксандра II.

Насельніцтва мястэчка выплачвала чыншавы падатак і залежала экономічна ад паноў зямляўласьнікаў. Як адбівалася гэтая залежнасьць паказвае наступнае паданьне.

Да Сьвентаржэцкіх наехала шмат гасьцей. Пані Сьвентаржэцкая запатрабавала ад насельніцтва дзеля якойсьці патрэбны 100 коняй. Насельніцтва не змагло к часу выканаць панскага загаду. Разгневаная пані загадала адабраць у насельніцтва загатоўлены на зіму апал. Набліжалася зіма, холад. Каб ня згінуць ад холаду, насельніцтва стала сем'ямі пераходзіць да суседзяў, а пустыя дамы разьбіраць на апал. Праз нейкі час прышлося спаліць сваімі рукамі большую частку дамоў, а потым каля 300 сем'яў мусіла кінуць мястэчка і шукаць сабе прытулку ў другім месцы.

Раскошны паляц пана Сьвентаржэцкага знаходзіўся каля самага мястэчка Багушэвічы. Сьвентаржэцкі быў багацейшым ува ўсёй акрузе зямляўласьнікам. У 1863 г. Баляслаў Сьвентаржэцкі стаяў на чале паўстаньня польскага магнацтва на Ігуменшчыне. У вялікім мураваным склепе пад каменным касьцёлам зьбіралася і захоўвалася зброя. Касьцёл захаваўся і да сучаснага моманту і распаложаны на гладкай пляцоўцы, з трох бакоў абведзенай валамі і 3 равамі і адным бокам пры-

ціснутай да р. Усы з стромкім абрывістым берагам. Можна думаць, што гэта старое гарадзішча.

У палацах Сьвентаржэцкага абгаварваліся пляны паўстанцкага руху, а скляпы касьцёлу і лясы былі месцам узброенай падрыхтоўкі паўстанцаў. Мясцовае насельніцтва, якое несла на сваіх плячох увесь цяжар прыгоннага права ў таго-ж Сьвентаржэцкага, вельмі няпрыхільна адносілася да паўстанцаў і актыўнага ўдзелу ў паўстаньні ня прымала.

Пры ліквідацыі паўстаньня палацы Сьвентаржэцкага па загаду Мураўёва былі спалены і зруйнаваны, а на месцы іх да сучаснага моманту захаваліся руіны. Касьцёл быў перароблены ў царкву, а з часоў польскай окупацыі—зноў у касьцёл.

**Насельнікі мястэчка і іх занняткі.**

У мястэчку лік насельнікаў у сучасны момант вылічваецца ў 783 ч., з якіх 24% яўрэяў, 72% беларусоў і каля 4% іншых.

Па ўзросту насельніцтва разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Род | Да 7 г. | Ад 7 да 10 г. | Ад 10 да 16 г. | Ад 16 да 55 г. | Вышэй 55 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| м. . . | 52 | 27 | 63 | 187 | 46 | 375 |
| ж. . . | 57 | 29 | 66 | 207 | 49 | 408 |
| Усяго . | 109 | 56 | 129 | 394 | 95 | 783 |

Беларуская частка насельніцтва ў пераважнай большасьці ў ліку 107 двароў і частка яўрэяў займаюцца сельскай гаспадаркай (каля 75% насельніцтва); частка яўрэяў займаецца дробным прыватным гандлем.

Па колькасьці зямлі гаспадаркі разьмяркоўваюцца такім чынам:

| Колькасьць зямлі | Да 1 дз. | Ад 1 да 2 дз. | Ад 2 да 3 дз. | Ад 3 да 5 дз. | Ад 5 да 8 дз. | Ад 8 да 11 дз. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік гаспадарак . . | 5 | 12 | 30 | 40 | 18 | 2 | 107 |

З агульнага ліку гаспадарак да серадняцкіх можна аднесьці 77,3% і бядняцкіх 22,7%, у 25 гаспадарках няма коняй і ў 1 гаспадарцы няма каровы.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі ў землякарыстаньні сялян было 382,15 дз., а пасьля рэволюцыі колькасьць зямлі павялічылася на 40 дз. (каля 10,5%) за кошт памешчыцкіх і царкоўных зямель. Апрача таго, утварылася адна сельска-гаспадарчая арцель з 3 яўрэйскіх сем'яў (24 ч.), якая мае 55 дз. пахатнай зямлі, 20 дз. сенажаці.

Прырэзка зямлі яшчэ ў поўнай меры не задавольвае сялян, асабліва, калі прыняць пад увагу нізкую тэхніку і вузкую цераспалосіцу, прычым лік палос у некаторых гаспадароў даходзіць да 30. Сыстэма гаспадаркі зернавая, сыстэма паляводзтва—парушаная трохпалёвая. Пераважнымі палявымі культурамі зьяўляюцца: жыта, авёс, пшаніца яравая, бульба.

Сярэдняя ўраджайнасьць наступная:

| Назва культур | Жыта | Авёс | Ячмень | Пшаніца яравая | Пшаніца азімая | Бульба |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ураджайнасьць у пудох . . | 50 | 45 | 30 | 40 | 40 | 600—700 |

За апошнія 2 гады сталі ўводзіцца і пашырацца новыя культуры, як сэрадэля, кармавыя буракі, турнэпс.

Гародніцтва, садоўніцтва і пчалярства разьвіты слаба і маюць спажывецкі характар.

Цесната і вузкая цераспалосіца вымушаюць некаторых гаспадароў высяляцца з мястэчка; было некалькі выпадкаў перасяленьня ў Ленінград для працы на фабрыках. Мясцовая-ж прамысловасьць зусім ня разьвіта, калі ня лічыць млыну, некалькіх кузьняй і інш.

Саматужная прамысловасьць у мястэчку ў сучасны момант наступная.

| Віды заняткаў | Лік сем'яў | Колькі чалавек працуе |
|---|---|---|
| Сталяроў . . . . . | 2 | 3 |
| Кавалёў . . . . . . | 3 | 4 |
| Шаўцоў . . . . . . | 5 | 5 |
| Краўцоў . . . . . . | 5 | 6 |
| Выробляюць аўчыны . | 2 | 2 |
| Робяць самапрадкі . . | 1 | 2 |
| УСЯГО . . . | 18 | 22 |

У літаратуры (гл. „Верхнее Поднепровье и Белоруссия“, под ред. В. П. Семенова, т. IX, ст. 525, СПБ, 1905 г.) ёсьць весткі, што лясы каля Багушэвіч выключна ліпавыя і што гэта акалічнасьць выклікала разьвіцьцё лапцёвага і рагожнага промыслаў. Вырабам рагож і зьдзіраньнем лык на лапці займаюцца ня толькі мясцовыя сяляне, але і прыежджыя здалёку, гандаль-жа гэтымі вырабамі знаходзіцца ў руках яўрэяў. Пры праверцы гэтых вестак як мной, гэтак і Багушэвіцкім гуртком краязнаўства весткі гэтыя ня спраўдзіліся. Ліпавага лесу каля Багушэвіч амаль што няма, і насельніцтва вышэйпаказаным промыслам, прынамсі ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі, не займалася. Паводле вестак Багушэвіцкага краязнаўчага гуртка ліпняк ёсьць каля Градзянкі, у 20 вярстах ад Багушэвіч.

### Тэхніка сельскай гаспадаркі і агрономічная дапамога.

Першы плуг у мястэчку зьявіўся гадоў 40 таму назад. І гадоў праз 15—20 зусім выціснуў саху. У сучасны момант сохамі зямлі не абрабляюць, і сохі ўжываюцца толькі для акучваньня бульбы, а за апошнія гады ў мястэчку зьявілася ўжо 3 спэцыяльныя акучнікі. Вышаў з ужываньня і смык; яго замяніла драўляная барана з жалезнымі зубамі. У сяле ёсьць тры малатарні і тры веялкі (у найбольш заможных гаспадароў) і адна сартоўка ў Камітэце Узаемадапамогі. Усе сельска-гаспадарчыя прылады можна купіць на месцы ў сельск.-гасп. коопэратыве па цане: плуг „швэдзкі"—12 руб., каса—1 р. 50 к., серп—2 руб. (мясцовага вырабу).

Агрономічнага вучастку ў мястэчку няма, але агроном ёсьць, які чытае лекцыі ў хаце чытальні і залажыў некалькі паказальных вучасткаў у сялян перадавікоў. За апошнія часы стала выяўляцца зацікаўленасьць да пасеву кармавых траў і караньплодаў.

Распачала культурную сельска-гаспадарчую працу і мясцовая школа сямілетка, якая ўжо залажыла невялікі гадавальнік пладовых дрэў, разводзіць з паказальнай мэтай лепшыя сарты капусты, караньплоды і мысьліць з вясны новага году наладзіць працу на паказальным чатырох ці шасьці-палосным вучастку.

### Коопэрацыя і гандаль.

Да 1917 г. у мястэчку ніякай коопэратыўнай установы ня было і ўвесь гандаль знаходзіўся ў руках прыватных гандляроў—яўрэяў. У сучасны момант у мястэчку ёсьць спажывецкае т-ва з лікам 700 сяброў і 4.000 руб. зваротнага капіталу і сельска-гаспадарчае Т-ва з лікам 400 пайшчыкаў і 2.000 руб. зваротнага капіталу. Прыватных крам у мястэчку ёсьць 2, тавары ў якіх прадаюцца даражэй, чым у коопэратыве.

У мястэчку з 1922 г. існуе Камітэт сялянскай-узаемадапамогі з 400 руб. зваротнага капіталу. Камітэт аказвае дапамогу беднаце купіць насеньне, лес на хату і інш.

Два разы ў год (на „Ўшэсьце" і на „Ўзьвіжаньне"—14 верасьня па ст. ст.) адбываюцца кірмашы, на якія зьяжджаецца насельніцтва прылягаючых да Багушэвіч вёсак. Кірмашы маюць мясцовае значэньне; тут прадаюцца: вёдры, цабры, баранкі, яблыкі (на „Ўзьвіжаньне").

Цэны на продукты штодзённага ўжываньня (у студзені месяцы г. г.) наступныя: фунт сала—50 кап., масла—80 кап., дзесятак яец—50 кап., масла і мёд узімку трудна достаць. Жыта прадаецца па 1 руб. 50 кап. за пуд, авёс і ячмень па 1 руб. 50 кап., пшаніца—2 руб.

### Народная асьвета і культ.-асьвет. праца.

Першая народная школа была адчынена ў мястэчку ў 1862 г. Школа была бедная, дзяўчаты ў школу зусім не даведваліся да 1865 г., калі мясцовая ўлада сілком загнала ў школу 3 дзяўчат, якія скончылі школу і жывуць да сучаснага моманту.

За апошнія 10 год пісьменнасьць у мястэчку значна пашырылася, і цяпер няпісьменных падлёткаў вельмі мала. Агульны лік няпісьменных дасягае 17% усяго насельніцтва. У сучасны момант у мястэчку існуе беларуская сямілетка (1—7 гр.) і яўрэйская аднакомплектная школа. У першай навучаецца 300 вучняў і ў другой—40. Перашкодамі ў працы школ зьяўляюцца: дрэннае абсталяваньне школ, адсутнасьць бібліотэкі, габінэтаў і нагдядных дапамог, адсутнасьць інтэрнату пры

сямілетцы, з прычыны чаго вясковыя дзеці ня могуць даведвацца сямілеткі і мусяць кожны дзень хадзіць за 6—8 клм. Школа сямілетка паступова пачынае набываць аўторытэт сярод сялянства і становіцца культ-асьветным асяродкам. Вясной г. г. скончыла сямілетку 12 ч., 8 з якіх паступіла ў Пэдтэхнікум.

Шкадліва адбілася на працы сямілеткі частая зьмена загадчыкаў і настаўнікаў у апошнія гады.

У мястэчку ёсьць хата-чытальня, пры якой працуюць гурткі: сельска-гаспадарчы, палітычны; гурткі галоўным чынам складаюцца з комсамольцаў, сяброў КПБ і старэйшых вучняў сямілеткі, насельніцтва ў працу гурткоў уцягнута слаба.

Пры хаце-чытальні ёсьць бібліотэка.

Насельніцтва (пераважна мясцовая інтэлігенцыя, комсамольцы, партыйцы і служачыя) выпісвае наступныя газэты: „Беларуская веска"—4 экз., „Звезда"—10, „Савецкая Беларусь"—6, „Чырвоная Зьмена"—4, „Малады араты"—4, „Комсамольская праўда"—3, „Крестьянская газета"—16, „Правда"—8, „Беднота"—1, „Учительская газета"—3, „Молодой Ленінец" — 5, „Піонэрская праўда" — 4, „Орка" (польская)—4, „Октябрь" (яўрэйская)—2, „Юнгер Арбайтэр" (яўрэйская)—4, „Кустарь и артель"—4, „Кооперат. жизнь"—2, „Новая деревня"—1, „Крестьянка"—2, і інш. 5, усяго—102 экз.

Творы прыгожай пісьменнасьці і сельска-гаспадарчая літаратура пашыраны слаба. У сялян часамі сустракаюцца яшчэ кнігі рэлігійнага зьместу (маліцьвеньнікі, эвангельле), а таксама старыя сьпэўнікі.

Пошта, дапамагае акуратна атрымліваць газэты і лісты.

У жніўні м-цы 1926 г. за актыўнасьць насельніцтва сельсавету, за колектыўную дапамогу на пабудову самалёту ўрадам у м. Багушэвічах быў адчынены моцнагаварыцель (радыо), якім сяляне вельмі зацікаўлены, а спачатку адносіліся з недавер'ем, зараз сапсуты.

Новы быт паступова выцясьняе стары. Моладзь ужо перастала хадзіць у царкву і любіць больш бываць на спэктаклях і сходах. У царкву і касьцёл больш ходзяць старыя і кабеты. У сяле адбылося 6 шлюбаў і 8 хрэсьбін без папа.

## Санітарны стан і ахова здароўя.

Санітарны стан мястэчка—кепскі. Увясну і ўвосень на вуліцах гразь, вуліцы нямошчаныя; двары ў большасьці таксама досыць брудныя. Вадой насельніцтва карыстаецца ў большасьці з калодзежаў (якіх ёсьць 15), а часткай з р. Усы і крыніц.

Хатнія ўмовы жыцьця ў большасьці дрэнныя: малыя хаты з нізкай стольлю, адсутнасьць вэнтыляцыі, брудныя падлогі; у некаторых гаспадароў разам з сям'ёй у хаце жывуць парасяты, куры.

Найбольш пашыранымі хваробамі ў мястэчку зьяўляюцца: сухоты (25%), прастудныя хваробы, кароста (каля 50% усіх хвароб), „грып", шкарлятына. У мястэчку ёсьць яшчэ шмат бабак-шаптух, павітух, ёсьць і знахар-яўрэй. Лечаць ад усіх хвароб: ад шалёнага сабакі, ад „зьлёку" (спалох), прыпадкаў і г. д. Лекары-шаптуны загаварваюць на вадзе, даюць зельле. Некаторыя з гэтых шаптуноў і павітух карыстаюцца ў насельніцтва аўторытэтам, хаця ў мястэчку ёсьць мэдыцынскі пункт з фэльчарам і акушэркай. Мэдпункт прыцягвае найбольш сьвядомую і пісьменную частку насельніцтва.

І. К. Мацьвяёнак.

# Некаторыя краязнаўчыя тэмы Магілеўшчыны.

*(З дакладу, зробленага на Магілеўскай Акруговай Краязнаўчай конфэрэнцыі).*

Сваёй мэтай у гэтым артыкуле я стаўлю—даць некаторую дапамогу і кірунак краязнаўцам Магілеўшчыны ў сваёй дасьледчай працы. Гэтую дапамогу я мысьлю сабе, як пералічэньне найбольш важных і цікавых гістарычных этапаў і элемэнтаў сучаснага жыцьця Магілеўшчыны з паказаньнем матар'ялаў і сродкаў да іх вывучэньня. Спынюся толькі на пытаньнях яшчэ дагэтуль нявывучаных, але самых цікавых і складаных, вывучэньні і пазнаньне якіх унясе ў гісторыю Беларусі каштоўны ўклад. Павінен папярэдзіць, што іх вывучэньне настолькі цяжкае, што патрабавала-б спэцыяльнай навукова-дасьледчай працы, але пры цеснай лучнасьці працы ўсіх краязнаўцаў акругі, у колектыўнай апрацоўцы сабранага матар'ялу магчыма гэтую задачу вырашыць і нашымі ўласнымі сіламі.

У даным артыкуле будзе сустракацца даволі значны лік заўваг агульнага характару, якія маюць значэньне для пачынаючых краязнаўцаў усяе Беларусі.

У мэтах, так сказаць, дыдактычных і дзеля кароткасьці часу будую даны матар'ял хронолёгічна.

## Якіх досьледаў патрабуе гісторыя Магілеўшчыны?

а) У галіне археолёгіі—на падставе вывучэньня літаратуры па археолёгічных раскопках даць нарыс жыцьця і побыту ў тым, або іншым кутку Магілеўшчыны.

б) Адносна вывучэньня духоўнай культуры гэтага часу можна што-колечы зрабіць толькі ў галіне вывучэньня тагачасных рэлігійных вераваньняў і яшчэ менш—сямейнага ладу. Рэлігійныя вераваньні можна аднавіць па рэлігійна-паганскіх перажытках і прыхамецях, якія захаваліся да цяперашняга часу, а таксама—па разборы значнага ліку шэптаў і забабонаў, маючых непасрэднае пахаджэньне ад тых часоў.

Хрысьціянства на нашай тэрыторыі было прынята ў той час, калі белар. пляменьні мелі рэлігію тотэмізму, якая на падставе соцыяльных тагачасных адносін (радавы быт з вылучэньнем індывідуальных сем'яў) зьяўляецца унівэрсальнай сыстэмай, першабытным філёзофскім сьветапоглядам, які абымае ў аднэй аўторытарнай ідэі ўсе зьявы жыцьця. У старэйшым фолькёрным матар'яле знаходзяцца тыя ці іншыя адбіткі тотэмізму. Чым больш будзе сабрана такога матар'ялу, тым ясьней можна будзе сабе ўявіць гэтую рэлігійную сыстэму.

З таго матар'ялу, які цяпер ужо сабраны і апрацаваны ясна толькі адно,—тотэмы падзяляліся на непасрэдных (прадметы харчаваньня, як хлеб, масла, сьвініна), натуралістычных або асмысьленых (розныя жывёлы і дрэвы, якія рабілі такі ці іншы ўплыў на жыцьцё роду і

часткова на спосаб іх харчаваньня (сьвіньня, карова, воўк, вужака, дуб), адцягненых (багі сямейна-радавыя—душы памёршых: патрыарха, русалкі, інш. багі хатняга дабрабыту—дамавы, жытні дзед, хваробы—трасцы, ваўкалакі, крывасмокі).

Самымі старымі па пахаджэньні шэптамі і прыхамацямі трэба лічыць тыя, у якіх не памінаюцца хрысьціянскія сьвятыя. Але-ж такіх шэптаў надта мала. Трэба зазначыць, што даволі часта хрысьціянскія сьвятыя памінаюцца ў шэптах, дзякуючы пазьнейшым устаўкам. Зразумець гэта даволі лёгка па контэксту. Калі ў шэпце на ўсім працягу памінаецца, напр. божая маці з апісаньнем яе дзеяньняў (з кім яна гаварыла, дзе хадзіла), як шэпт ад залатніка (ад жывата)—магчыма, што яго пахаджэньне—нядаўняе. Калі ў пачатку памінаюцца адзін ці некалькі сьвятых, а далей гаворыцца зусім іншае (чорная карова, жалезнае вымя, залатое каромысла і інш. як у шэпце „ад людзей")—яго, у большасьці выпадкаў трэба прызнаць дахрысьціянскім па пахаджэньні.

Важна зьвярнуць увагу на наступнае: паколькі сялянствам і цяпер хлеб зьвязваецца з імем бога і самы хлеб разглядаецца, як бажаство ці месцазнаходжаньне бога (так, ёсьць павер'е на Магілеўшчыне, што бог удзень сядзіць на верхняй скарынцы хлеба, а ўночы сьпіць пад выразанай ніжняй скарынкай, дзякуючы чаму ў хлебе ўдзень рэжацца толькі верхняя, а ўночы—толькі ніжняя скарынка); наколькі часта памінаецца ў шэптах карова, як увасабленьне чагосьці вышэйшага і фатальнага; за якімі дрэвамі, апрача дубу, прызнаецца наліччa цудадзейнае сілы; якія павер'і зьвязаны ў сялян з імем патрыархаў (напр. Радзім—„радзімец цябе вазьмі") і ці можна лічыць гэта ўспамінамі ўласьціва аб патрыарху; ці прызнаюцца за русалкамі якія добрыя якасьці; якія павер'і зьвязаны з імем дамавога, жытняга дзеда і г. д.

Пералічаныя пытаньні найменш усяго высьветлены і таму перашкаджаюць поўнаму ўстанаўленьню адзінства першабытных рэлігійных вераваньняў. Патрабуюць праверкі прычыны такіх поглядаў, як забарона хадзіць па сьцежцы праз жыта, калі яно красуе; павер'е аб „чудах", якія жывуць у гумне і ўночы пад Міхайлу (21 лістапада), Каляды і Вялікадня кідаюць у гумне сьляды свайго існаваньня (перавернутая салома і інш.) і шмат якіх яшчэ. Толькі тады, калі будуць раздабыты і выкарыстаны ўсе гэтыя павер'і, можна будзе па 1) ўстанавіць стройную тэорыю першабытнага сьветапогляду, таксама павесьці практычную барацьбу за яго зьнішчэньне, бо ён даволі значна пашыраны сярод сялянства, разумеецца, часткова і цяпер.

Сямейны быт таго часу можна апрацаваць таксама-ж перажыткамі павер'яў. У прыватнасьці, важна высьветліць ці засталіся якія сьляды крывавай родавай помсты (асабліва ў патомкаў был. дрыгавічоў).

Цікава высьветліць таксама ў задняпроўі (патомкі радзімічаў), чаму ў іх надта вялізны страх, каб не сказаць на блізкага па крыві чалавека: „радзімец цябе вазьмі". Ці няма тут спэцыфічнай родавай ідэолёгіі і ці не адбываецца на ёй вось гэты, апісаны Нестарам, звычай міжродавых узаемаадносін.

в) Часы гістарычныя Магілеўшчыны, таксама патрабуюць апрацаваньня, бо тыя зьвесткі, якія чытаем у выданьні Дэмбавецкага „Опыт описания Могилевской губернии" і ў т. IX выданьня Сямёнава „Белоруссия и Верхнее Приднепровье",—даюць няпоўны і, галоўнае, аднабока асьветлены малюнак мінуўшчыны Магілеўскага Краю.

На падставе Баркалабаўскага Летапісу, Летапісу Трубніцкага,

Беларускіх летапісаў (XVII т. Полн. Скор. рус. летописей), а таксама шэрагу докумэнтаў, якія надрукаваны ў выданьні „Историко-Юридические Материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской“ (томы 1—32) і ў іншых выданьнях актаў можна добра апрацаваць гісторыю паасобных мест, мястэчак і вёсак Магілеўшчыны, гісторыю паасобных Магілеўскіх цэхаў, сялянскіх рухаў у XVI—XVII сталецьці і г. д.

1812 год лёгка паддаецца вывучэньню. Даволі багаты фактычны матар'ял ёсьць у Дэмбавецкага і яго толькі трэба трохі выправіць, выкасаваўшы з яго ўсе тэндэнцыйныя разважаньні аўтара. Частка апошніх фактычна скасавана ім самім, як напр. заўвага, што ў часы Напалеона на Магілеўшчыне надта прыхільна да яго адносіліся толькі яўрэі, якія нават шпігавалі ў яго карысьць. А далей ён зазначае, што і духавенства (нават архірэй) адносіліся да французаў зусім ня воража і маліліся за іх у царквах. Некаторыя хібы яго разважаньняў зьнішчаюцца пры супастаўленьні з паданьнямі сялян. Спроба зьбіраньня матар‘ялаў сялян аб дзейнасьці французаў у 1812 г. у нас ёсьць, паводле гэтых матар‘ялаў, рабункі панскіх хвальваркаў у той час праводзіліся, галоўным чынам, сялянствам пры некаторым паслабленьні з боку французаў, а не наадварот, як даводзіць Дэмбавецкі. Наогул кажучы, аб гэтай пары ў сялян можна ўзяць вельмі значны лік фактаў, гісторы яшчэ невядомых, і даволі пэўных і дакладных.




Пэрыод 1812—1861 г. г. прадстаўлены ў магілеўскім архіве даволі багата і толькі чакае сваіх дасьледчыкаў. Па іх можна дасканала вывучыць наступныя тэмы: перадрэформеная экономіка, жыцьцё сялян пад прыгонам і продаж прыгонных сялян, пашырэньні расійскага зямляўладаньня, асьвета гэтага часу, паўстаньне 1830 г. на Магілеўшчыне і інш. Яшчэ больш багаты аддзел архіву з 1861 г. па 1900 г. Па іх можна поўнасьцю вывучыць—ход сялянскай рэформы, яе ўплыў на дыфэрэнцыяцыю вёскі, судовыя спрэчкі паноў і сялян з-за зямельных надзелаў апошнім, якія цягнуліся часта па 30—40 г. г., становішча асьветы і дабрабыту ў гэты час, рост прамысловасьці і рабочае клясы; у справах па асьвеце можна знайсьці некаторыя адбіткі паўстаньня 1863 г.

З матар‘ялаў XX сталецьця можна вывучыць—экономіку 1900—1917 г. г., ход высяленьня на сталыпінскія хутары, асьвету і дабрабыт гэтых гадоў. Можна выкарыстаць і багаты матар‘ял—справы былых вайсковых начальнікаў, але я не асьмелюся, дзякуючы незнаёмству з імі, параіць якую-небудзь пэўную тэму па гэтых матар‘ялах.

Матар‘ялы палітычнага жыцьця і рэволюц. руху гэтага часу ёсьць у магілеўскім музэі. Праўда, іх малавата, і тыя, якія ёсьць, сабраны загадчыкам музэю т. Вянковым пэрсанальна і толькі дзякуючы яго шчырай самаадданасьці гэтай працы. Адносна гэтага пэрыоду, больш як якога-б то ні было іншага, надта востра ставіцца перад краязнаўцамі задача зьбіраньня ўспамінаў ад сялянства і самых удзельнікаў рэволюцыйнага руху на Магілеўшчыне.

Ёсьць ў музэі значны матар'ял па вывучэньні 1917 г. Матар'ял гэты пакуль што ня прыведзены ў парадак і таму апрацоўцы мала паддаецца.

## Галоўныя задачы вывучэньня мясцовай экономікі.

Першай задачай у гэтым кірунку зьяўляецца дасьледваньне гістарычных падстаў сучаснага эконом. становішча Магілеўшчыны. Матар'ялу па гэтай галіне ёсьць. Можна апрацаваць шмат цікавых тэм, як „Што дала рэформа 1861 г. сялянам“, „Прырост насяленьня па Магілеўшчыне“ (па якім яна стаяла некі час на 1-м месцы ва ўсім сьвеце), „Высяленьне з Магілеўшчыны ў Сібір, Туркестан і Каўказ“, „Зямельная пералюднёнасьць на Магілеўшчыне перад рэволюцыяй 1917 г.“, „Інтэнсіфікацыя с.-гаспадаркі ў 1905—1917 г. г.—пашырэньне жывёлаводзтва, пчалярства, птушніцтва, шматпольля“ (асабліва гадоўля сьвіней) і інш. Апрацоўка шэрагу такіх тэм пакажа агульную тэндэнцыю ў разьвіцьці с.-гаспадаркі і цяпер, а значыць дапаможа ўразуменьню цяперашніх эконом. мерапрыемстваў мясцовых савецкіх органаў і пазнаньню іх мэтазгоднасьці.

Пасьля-рэволюцыйную экономіку Магілеўшчыны (таксама ёсьць шмат матар'ялу) можна вывучыць па гадох, або па асобных галінах. Апошняе—лепш, бо яно паказвае дынаміку нашага эконом. ўзросту і яе кірунак. Пры такім мэтодзе вывучэньня проблема росту социялістычных элемэнтаў нашай экономікі робіцца ня пустой фразай, а поўнай конкрэтнага зьместу дэмонстрацыяй нашых дасягненьняў. Я-б параіў разьбіць вывучэньне нашай экономікі і гарадзкімі і раённымі таварыствамі на такія тэмы і падтэмы, якія-б далі магчымасьць з найменшай тратай сіл і энэргіі, дабіцца найбольшай яснасьці і чытэльнасьці ў пазнаньні зьместу і кірунку развіцьця мясцовай экономікі. Вось—мая схэма экономічных досьледаў:

*I. Прамысловасьць Магілеўшчыны:* а) фабрыкі, якія працавалі да рэволюцыі, іх продукцыя, лік рабочых; параўнальная экономіка іх па гадох з 1918 па 1927 г., б) адчыненьне новых фабрык, або аддзяленьняў пры старых, іх тэхнічнае абсталяваньне, лік рабочых, продукцыя; в) асноўны і зваротны капітал мясцовай цэнзавай прамысловасьці; г) пэрспэктывы разьвіцьця апошняй; д) прамысловасьць арандаваная; е) прамысловасьць саматужная паасобна па розных яе відах; ж) абслугоўваньне прамысловасьці мясцовым і прывозным сырцом; з) шляхі сувязі прамысловасьці з сельскай гаспадаркай праз сырэц і фабрыкаты.

*II. Сельская гаспадарка:* а) колькасьць зямлі па акрузе—пахатнай, пад лясамі, нявартай для земляробства, патрабуючай мэліорацыі; б) лік сялянства, надзеленага зямлёй і ненадзеленага, ці надзеленага не па норме; в) прырост насяленьня; г) лік патрэбнай для надзяленьня па норме зямлі для сялян (у прыватнасьці — для земляробаў - яўрэяў); д) высяленьне з Магілеўшчыны ў інш. мясцовасьці СССР і яго далейшыя пэрспэктывы; е) сыстэма земляробства—трохполка, чатырохпольле, шматпольле; ж) пасяўная плошча пад рознымі культурамі з 1918 па 1927 г. і тэндэнцыя пашырэньня засеву тэхнічных культур, кармавых траў і бульбы; з) становішча жывёлаводзтва па розных яго відах і тэндэнцыя росту сьвінаводзтва і коняводзтва з 1918 па 1927 г.—лік сялян, якія ня мелі коняй за гэтыя гады; і) дыфэрэнцыяцыя сялянства на парабкаў, беднату, серадніакоў, заможных і кулакоў па гадох і тэндэнцыя нівэліроўкі вёскі; к) разьмер праведзенага зямлябудаўніцтва і яго пэрспэктывы—значэньне яго дзеля асераднячваньня вёскі; л) конкрэтныя

праявы інтэнсіфікацыі сельскай гаспадркі і іх пашыранасьць; м) рост пасёлкаў, хутароў, арцеляй і комун за 1918—26 г. г.; н) становішча савецкіх гаспадарак за гэтыя-ж гады; о) пашырэньне машын у сельск.-гаспадарцы і колектыўных формаў апрацоўкі зямлі; п) сялянскі бюджэт і яго рост; р) сума падаткаў з сялянства з 1918—26 г. г.; с) бюджэт часу селяніна; т) сялянскі быт, вопратка, харчаваньне, правядзеньне сьвят, сямейных урачыстасьцяй і г. д.

*III. Гандаль:* а) суадносіны гандлю дзяржаўнага, коопэратыўнага, і прыватнага па гадох у %% і масе капіталу; б) перавага дзяржгандлю ў оптавым гандлі; в) рост пайшчыкаў у коопэрацыі розных відаў; г) прадметы гандлю; д) разыходжаньне цэн—оптавых і паасобных, коопэрацыйных і прыватных, прамысловых і сельска-гаспадарчых; е) сельска-гаспадарчая коопэрацыя і яе віды (лік розных таварыстваў); ж) апісаньне дзейнасьці розных яе відаў з лічбовымі данымі аб іх росьце; з) чыннасьць крэдытнай коопэрацыі; і) гандаль на мясцовым рынку фабрыкатамі мясцовай прамысловасьці і продуктамі сельскай гаспадаркі, і наколькі імі здавальняюцца мясцовыя патрэбы; к) патрэбы насельніцтва ў прывзоных таварах з іншых мясцовасьцяй СССР і заграніцы.

Калі-б нам удалася сабраць поўныя і ясныя адказы на ўсе гэтыя пытаньні ад усіх раёнаў, а потым аб‘яднаць іх у акруговым маштабе, наша краязнаўчая організацыя мела-б магчымасьць зазначыць, што яна запраўды пазнала экономічную сутнасьць нашага краю і нават можа практычна дапамагчы сваімі парадамі экономічным органам Савецкай улады. Запраўды, што можа быць больш прыемным дзеля краязнаўцы, як не сьвядомасьць, што якраз кропля яго навуковай працы дапамагла экономічным органам правесьці якое-небудзь практычнае мерапрыемства. Бачыць практычнае ажыцьцяўленьне сваіх досьледаў, працаваць ня толькі дзеля таго, каб пазнаць сьвет, а і „каб перабудаваць яго“ (Маркс)—вось надзвычайна адказная задача, выпаўненьню якой краязнаўцы з магчымым энтузыязмам павінны аддаць свае сілы і энэргію.

Адносна прыродазнаўчых досьледаў, як неспэцыялісты, я магу даць толькі 2 парады: 1) перагледзець і абнавіць даволі падрабязнае апісаньне Дэмбавецкім магілеўскай флёры і фаўны, 2) па магчымасьці вывучаць багацьці нетраў нашай зямлі карыснымі выкапнямі, пачынаючы ад гліны і вапны і канчаючы жалезнай рудой, якой багаты нашы магілеўскія балоты (напр. у Тошчыцы, Быхаўск. р.).

---

**Проф. С. П. Мельнік.**

# Фэнолёгічныя нагляданьні над дрэўнай расьліннасьцю.

*(З програмай нагляданьняў і кароткай інструкцыяй).*

I.

Усім вядома, што фэнолёгічныя нагляданьні цікавы як з чыста навуковага боку, так і з практычнага. Яны даюць магчымасьць пазнаць для данага віду расьліны, калі пачынаецца яе рост, калі ён канчаецца, пазнаць працяжнасьць, г. зв. вэгэтацыйнага пэрыоду, працяжнасьць зімовага спакою. Фэнолёгічныя нагляданьні ўсталёўваюць для данай мясцовасьці сярэднія тэрміны надыходу тых фаз разьвіцьця расьліны альбо жывёліны, якія цікавы ці з навуковага, ці з практычнага боку, напрыклад: час зьяўленьня першага ліста на дубе, час пачатку красаваньня яблыні, час пачатку дасьпяваньня парэчак, пазёмак і маліны ў лесе альбо ў садзе, час прылёту і адлёту птушак і да т. п., і да т. п. Фэнолёгічнымі нагляданьнямі карыстаюцца для вывучэньня залежнасьці жыцьця расьліны ад мэтэоролёгічных і кліматолёгічных фактараў. Так, пры дапамозе фэнолёгічных і адпаведных мэтэоролёгічных нагляданьняў вызначаюць тыя дрэўныя тэмпэратуры, пры якіх даныя расьліны пачынаюць расьці, пры якіх яны красуюць і г. д., альбо тыя сумы цяпла, якія патрэбны для таго, каб пэўная фаза разьвіцьця ў пэўнае расьліны пачалася. Гэткія, чыста практычныя пытаньні, як вызначэньне часу пачатку і магчымага канца збору пладоў і насеньня культурных і дзікіх, травяных і дрэўных расьлін у поўнай меры высьвятляюцца фэнолёгічнымі нагляданьнямі.

II.

Фэнолёгічныя нагляданьні вядуцца шмат якімі краязнаўцамі, аматарамі і вучонымі, асобнымі пэрсонамі і навуковымі ўстановамі. Шмат ёсьць і програм, якія прапануюцца для гэткіх нагляданьняў. Асабліва многа програм запрапанавана і надрукавана ў розных выданьнях за апошнія гады. Іншыя краязнаўцы самі складаюць для сябе програмы і па іх вядуць свае нагляданьні і запісы. Некаторыя-ж пачынаюць весьці нагляданьні зусім без усялякіх зараней складзеных і строга прадуманых програм, а проста запісваюць тыя зьявы, якія ім трапляюцца ў прыродзе.

Трэба сказаць, што выпадковыя запісы без зараней прынятай програмы і бяз вытрыманых патрэбных правіл у пераважнай большасьці выпадкаў ніякай навуковай, да і практычнай вартасьці ня маюць. Таксама далёка ня ўсе апублікаваныя програмы фэнолёгічных нагляданьняў мы можам раіць краязнаўцам. Некаторыя з гэтых програм зьяўляюцца перадрукам з вельмі старых падручнікаў і таму вымагаюць вялікіх выправак. Другія складзены насьпех і таму зьяўляюцца зборам выпадковых пытаньняў і навукова апрацаваць нагляданьні па гэткіх

програмах вельмі цяжка. Іншыя-ж складзены альбо ў няясных пытаньнях, альбо залішне грамоздкія і цяжкія для выкананьня.

Трэба прыняць пад увагу і тое, што вядзеньне нагляданьняў па складанай праграме і над вялікай колькасьцю відаў расьлін (і жывёлін, зразумела) зьяўляецца нялёгкаю задачаю. Наглядальнік у гэткім выпадку павінен быць добра падгатаваны. Трэба добра ведаць усе адзнакі кожнага віду расьліны, трэба добра ведаць біолёгію (г. зн. жыцьцё) кожнага віду, што наглядаецца. А розныя віды жывуць і разьвіваюцца розна. Іншы раз два альбо некалькі відаў, якія растуць у адным і тым самым месцы, настолькі падобны адзін да другога, што адрозьніць іх можа толькі спэцыялісты альбо, ва ўсякім разе, толькі асоба добра да таго падрыхтаваная. Напрыклад, бадай-што ва ўсіх фэнолёгічных праграмах фігуруюць нагляданьні над бярозай, прычым ня ўказваецца дакладна, якую бярозу трэба наглядаць. У нас-жа на Беларусі побач адна з другой і ў лесе, і на ўскраінах і абапал шляхоў растуць дзьве бярозы, дакладней, два віды бярозы: 1) бяроза гузаватая (па лат. Betula verrucosa Ehrh.) і 2) бяроза пухнатая (Betula pubescens Ehrh.). У першай маладыя галінкі густа пакрыты смаляна-васковымі бародаўкамі, у другой маладыя галінкі густа-пухнатыя, але без бародавак. У першай лісьці на верхавіне доўга-завостраныя і голыя, у другой лісьці каротка-завостраныя і пакрыты пушком, асабліва зьнізу. У першай пад старасьць ствол губляе белы колер кары, у другой ствол астаецца белым і пад старасьць. Ёсьць паміж іх і біолёгічная розьніца. Значыць, ня ўсё роўна, ці запісваць нагляданьні над бярозай гузаватай альбо над бярозай пухнатай.

Іншы раз, наадварот, адзін і той самы від расьце ў адным і тым самым месцы, мае такія адменьнікі, якія ў сваім разьвіцьці вельмі значна адзін ад другога адразьняюцца. Усім вядомы наш дуб чаранковы. Назву сваю ён атрымаў таму, што ў яго жолуд сядзіць на доўгім чаранку. У нас на Беларусі толькі адзін гэты від вольна і расьце (па лат. Quercus pedunculata Ehrh). Але ён мае два адменьнікі: дуб лядны (Quercus pedunculata Ehrh. var. praecox Czern) і дуб звычайны (Quercus pedunculata Ehrh. var tardiflora Czern.). Улетку і ўвосень адрозьніць іх адзін ад другога немагчыма. Узімку таксама вельмі цяжка. Але ўвесну вельмі лёгка і проста. Менавіта: адменьнік „звычайны“ пачынае распускаць свае лісьці на 2 альбо нават на 3 тыдні пазьней, чымся гэта робіць дуб „лядны“. І пачынае красаваць дуб „звычайны“ таксама на 2-3 тыдні пазьней, чымся „лядны“ Таму і бывае так, што калі дуб „лядны“ ўжо зусім апрануўся ў лісьце і нават пасьпеў ужо даць новыя галінкі, у той-жа час тут-жа, побач частка дубоў яшчэ зусім ня трогалася ў рост і мае пучкі яшчэ зусім нераскрытыя. Гэта дуб „звычайны“ чакае большага цяпла. Зразумела, калі адзін наглядальнік-фэнолёг, скажам, у Барысаўскай акрузе, свае нагляданьні вядзе над дубамі „лядным“, а другі, скажам, у Аршанскай, Рэчыцкай, альбо Бабруйскай, над „звычайным“, дык атрымаем блытаніну, атрымаем такія даныя, якіх раўняць і навукова апрацоўваць нельга. Трэба, каб і Барысаўскі, і Рэчыцкі, і Аршанскі і ўсе іншыя наглядальнікі напісалі, што яны свае нагляданьні вялі ня проста над дубам, а над дубам „звычайным“ альбо „лядным“. Блізкі да прыроды беларускі селянін, аказваецца, вельмі добра заўважыў, што ў нас не адзін дуб, а два, хоць іх можна адрозьніць і не ўва ўсякую пару года. Так, сяляне Бабруйскае акругі дуб „звычайны“ называюць „лянівым“ дубам і кажуць, што яго драўтніна лепшая і мацнейшая. Яны вельмі добра пазнаюць

яго і калі маюць магчымасьць выбіраць на свае патрэбы, дык заўсёды сьсякаюць дуб „звычайны“.

Прывяду трэці прыклад. Усе ведаюць елку. У нас гэта від звычайнай елкі (Picea excelsa Lk.). Але зусім таксама як і дуб чаранковы яна ў нас трапляецца ў двух адменьніках, якія часта не адразьняюцца нават у вялікіх батанічных вызначніках (напрыклад, у вызначніку расьлін П. Маеўскага—„Флора средней России“, 5-е выд., М. 1917 г., у вызначніку Б. А. Федчанка і А. Ф. Флёраў—„Флора Европейской России“, СПБ., 1910 г. і інш.). Адзін адменьнік магчыма назваць—зялёна-шышачны (Picea excelsa Lk. var. chlorocarpa Purk.), другі—чырвона-шышачны (Picea excelsa Lk. var. erythrocarpa Purk.). Як і ў дуба адменьнікі гэтыя па порах году дыморфны, г. зн., што адрозьніць іх магчыма толькі ў пэўную пару году, менавіта толькі ўвесну ці ў пачатку лета. Маладыя шышкі ў першым адменьніку—бледна-зялёныя, у другім—чырвоныя. Перад дасьпяваньнем розьніца робіцца няпрыметнаю і ўвосень, а таксама ўзімку іх адрозьніць нельга. Фэнолёгічныя нагляданьні трэба весьці асобна для кожнага адменьніку; іначай атрымаецца блытаніна і нельга будзе раўняць нагляданьні двух наглядальнікаў і нават запісы двух год таго самага наглядальніка, калі не адрозьніваць для елкі паказаных двух адменьнікаў, бо жыцьцё іх вельмі розьніцца паміж сабою. Зялёна-шышачная елка ўвесну распускае свае пучкі і красуе на 2-3 тыдні пазьней за елку чырвонашышачную.

Тое самае трэба памятаць і пры нагляданьнях за культурнымі расьлінамі. Перш, чымся весьці нагляданьні, трэба ўсталяваць гатункі, напр., для яблыні, ігрушы, сьлівы, вішні, жыта, аўса, ячменя, капусты і г. д.

Дрэнна складзеныя праграмы і цяжкасьць весьці ўпоўне навуковыя нагляданьні зьяўляюцца прычынаю таго, што многа з апублікаваных фэнолёгічных нагляданьняў, пры спробе навукова іх апрацаваць і зрабіць з іх патрэбныя для практыкі вывады, прыходзіцца бракаваць, а часта яны зусім ня маюць ніякае вартасьці.

А між тым, дакладныя і пэўныя фэнолёгічныя нагляданьні мясцовых краязнаўцаў, хоць-бы над самым нязначным лікам расьлін (і жывёлін), вельмі пажаданы, вельмі патрэбны для вывучэньня нашага роднага краю і бязумоўна могуць мець вялікую навуковую вартасьць. Для гэтага неабходна толькі, каб наглядальнік добра ведаў тыя зьявы, якія ён наглядае, меў-бы патрэбную інструкцыю для нагляданьняў, прытрымліваўся ў сваёй працы пэўнае праграмы і ўладаў-бы здольнасьцю не раскідацца, а рабіць „менш, ды лепш“. Для справы больш карысна выканаць нагляданьні над 2-3 расьлінамі, жывёламі альбо зьявамі прыроды, ды добра і дакладна іх выканаць, чымся захапіць сотню расьлін, поўсотні птушак і г. д., ды выканаць іх прыблізна, недакладна і нядбала.

III.

Кожны фэнолёг, перш чымся пачаць нагляданьні, мусіць даць сабе дакладны і ясны адказ на наступныя чатыры пытаньні: Якая асноўная мэта яго фэнолёгічных нагляданьняў? Якую праграму прыняць для нагляданьняў? Як выбраць у натуры об‘екты для нагляданьняў? Як весьці запісы нагляданьняў?

*Асноўная мэта фэнолёгічных нагляданьняў—рэгістрацыя таго дня, калі пэўная фаза жыцьця альбо разьвіцьця ў пэўнае расьліны альбо жывёлы альбо якой зьявы прыроды* (*напр., замярзаньне альбо*

*ўзьніманьне рэк і да т. п.*), *папершае* **пачалася,** *падругое, калі яна ў* **найбольшым разьвіцьці** *і патрэцяе, калі яна* **скончылася.** Напрыклад, 1) *пачатак красаваньня* (калі зьявілася першая кветка), 2) масавае альбо *найбольшае красаваньне*, 3) *канец красаваньня*, скажам, вярбы-брэдніку, яблыні дзікай і г. д.

Атрыманы за год ці за цэлы рад гадоў матар'ял можа быць выкарыстаны парознаму. Яго можна пакінуць у сябе для хатніх і гаспадарчых справак. Яго можна накіраваць у якую-небудзь навуковую альбо краязнаўчую ўстанову для апрацоўкі, далучэньня да зводак другіх наглядальнікаў у інтарэсах колектыўным шляхам набраць значны лік матар'ялаў для больш шырокіх вывадаў і больш дэтальнага вывучэньня сваёй краіны. Нарэшце, здабыты фэнолёгічны матар'ял можа быць апрацаваны і апублікаваны самім наглядальнікам. У апошнім выпадку трэба быць асабліва строгім у адносінах даных сваіх нагляданьняў. Апублікоўваць можна толькі тую частку нагляданьняў, якая вызначаецца абсолютнаю пэўнасьцю ўва ўсіх адносінах. Усё няпэўнае лепш выкінуць, яшчэ раз альбо два разы праверыць.

Якую ўзяць програму для нагляданьняў? Краязнаўца, фэнолёг, аматар прыроды, той, хто жадае дапамагчы вывучэньню свайго краю, павінен абраць для сваіх нагляданьняў толькі пасільную для сябе програму і толькі над тымі об'ектамі (расьлінамі, жывёлінамі, пагодай і г. д.), якія добра вядомы наглядальніку. Мне давялося нядаўна бачыць працу аднаго краязнаўца Аршанскае акругі, які на працягу 3 год вёў фэнолёгічныя нагляданьні пад Воршаю над шмат якімі расьлінамі. Запісаў вельмі многа. Запісы былі-б вельмі цікавы з навуковага боку. Але праца ў канцы канцоў бескарысная, бо многія расьліны вызначаны няверна. Дакладней кажучы, няма ніякае магчымасьці даведацца, якія віды расьлін краязнаўца наглядаў. Значна больш было-б карысьці, каб паказаны наглядальнік узяў ня сотню мала яму вядомых расьлін, а толькі дзесятак, але такіх, назвы якіх яму дакладна вядомы.

Часта фэнолёгічныя нагляданьні вядуцца па програмах, у якія ўваходзяць нагляданьні і над расьлінамі дрэўнымі і над расьлінамі травянымі шматгадовымі і аднагадовымі, і над жывёламі (зьвярмі, птушкамі, шасьціногімі), і над пагодай, над сьнегавым акрыцьцём, над замярзаньнем ракі і пачаткам лёдаходу, над такімі зьявамі, як пачатак і канец сенакосу, пачатак і канец жніва збожжа, пачатак палявых работ увесну і г. д., і г. д. Такія нагляданьні можна назваць *агульна-фэнолёгічнымі*. Нагляданьні па гэткіх програмах цікавы толькі для элемэнтарнага (самага пачатковага і самага простага) азнаямленьня з прыродай мясцовага краю.

Значна большы навуковы інтарэс маюць фэнолёгічныя нагляданьні, калі яны вядуцца не па такіх *агульных програмах*, а па *спэцыяльных програмах*. Папершае, спэцыяльныя програмы заўсёды зьяўляюцца лепшымі програмамі, чымся агульныя. Спэцыяльныя програмы складаюцца асобамі, якія добра вывучылі жыцьцё нагляданых об'ектаў (г. зн. расьлін, жывёлін і г. д.). А вядома, што нельга аднолькава добра ведаць і жыцьцё ўсіх расьлін і жыцьцё шматлікіх і featured рознастайных жывёлін і зьявы пагоды і г. д. Падругое, і запісы краязнаўца будуць больш дакладны ў тым выпадку, калі ён наглядае тую частку прыроды і зьяў, жыцьцё якой яму добра вядома; напрыклад, калі садоўнік вядзе нагляданьні над садовымі расьлінамі, гароднік над гароднымі, той, хто займаецца паляводзтвам—над палявымі расьлінамі, лесавод над ляснымі, паляўнічы над дзікімі птушкамі і зьвярмі, аматар-работанік над

вядомымі яму дзікімі расьлінамі ў лузе, у лесе, у полі, у фальварку і г. д.

Зразумела, калі краязнаўца вядзе свае нагляданьні па заданьні якой-небудзь краязнаўчай альбо навуковай організацыі, якая прыслала агульна-фэнолёгічныя програмы, дык трэба прытрымлівацца іх і таксама строга прытрымлівацца тых тлумачэньняў і інструкцый, якія гэтая організацыя прапануе. Іначай запісы могуць быць нявыкарыстаны нікім.

Але ўсё-ж такі больш дакладнымі, больш каштоўнымі, упоўне навуковымі пры сучасным стане і разьвіцьці навук, заўсёды будуць фэнолёгічныя нагляданьні, якія вядуцца па спэцыяльных програмах.

Складаньне такіх спэцыяльных програм выгадней за ўсё разьбіць на 3 аддзелы.

У першы аддзел уваходзяць програмы фэнолёгічных нагляданьняў над расьлінамі. У другі аддзел—програмы нагляданьняў над жыцьцем жывёл. У трэці аддзел—програмы нагляданьняў над такімі зьявамі прыроды, якія не належаць ні да жыцьця жывёлін, ні да жыцьця расьлін, але маюць гаспадарчае значэньне ў жыцьці мясцовага краю, напрыклад,—пачатак зімовае саннае дарогі, канец яе, пачатак вясною палявых работ, вызваленьне ракі ад лёду, час апошняга вясновага і першага васеньняга замаразку і г. д., і г. д.

Па трэцім аддзеле можа быць складзена і адна програма для мясцовых працаўнікоў-краязнаўцаў.

Па другім аддзеле павінна быць складзена некалькі спэцыяльных програм, бо жыцьцё розных жывёлін праходзіць розна і кожнаму краязнаўцу-наглядальніку больш вядома жыцьцё якой-небудзь аднэй групы жывёлін.

У якасьці прыкладу можна ўказаць, што выгодна мець асобныя програмы фэнолёгічных нагляданьняў: 1) над жыцьцём хатніх жывёлін, 2) над жыцьцём дзікіх сысуноў, 3) над дзікімі птушкамі, 4) над найбольш шкоднымі шасьціногімі для поля, 5) для сада, 6) для гароду, 7) для лесу.

Па першым аддзеле таксама, зразумела, павінна быць некалькі спэцыяльных програм, бо featureнастайнасьць у жыцьці расьлін яшчэ большая. Адны расьліны бываюць аднагадовыя, другія—двухгадовыя, трэція—шматгадовыя. Адны—культурныя і разводзяцца толькі штучна чалавекам, другія—і культывуюцца чалавекам і трапляюцца сярод прыроднай расьліннасьці, трэція трапляюцца толькі сярод прыроднай расьліннасьці. Адны маюць выгляд травы, другія—выгляд поўкустоў, трэція зьяўляюцца кустамі і чацьвертая—дрэвамі. Адны вырашчваюцца толькі пры фальварках дзеля іх красы, другія—толькі на гародах, трэція—толькі ў полі, чацьвертыя—толькі на лузе, пятыя—у лес. Адны прыносяць карысьць чалавеку, галоўным чынам, сваім насеньнем, другія—пладамі, трэція—карэньнямі альбо сьцяблокоранямі, чацьвертыя—сваёй драўнінай, пятыя—кветкамі; некаторыя расьліны карысны ўсімі сваймі часткамі, другія некалькімі, трэція аднэй.

Маючы гэткую featureнастайнасьць у пабудове, у жыцьці расьлін і ў адносінах да іх чалавека, трэба мець і некалькі спэцыяльных програм для нагляданьняў над расьлінамі. Гэткія фэнолёгічныя програмы нагляданьняў і ўжываюцца вопытна-дасьледчымі ўстановамі асобна для зярновага збожжа, асобна для палявых караньплодаў і клубеньплодаў, для палявых траў, для расьліннасьці лугоў, для расьліннасьці лясоў, для расьлін саду, гароду. Некаторыя аўтары пры складаньні програм

фэнолёгічных нагляданьняў групуюць расьліны некалькі інакш: складаюць програмы асобна для палявых злакаў, для палявых і гародных кораньплодаў і клубеньплодаў, для дрэў і кустоў і г. д.

У наступным разьдзеле (IV) я і даю програму фэнолёгічных нагляданьняў над дрэвамі і кустамі ў тым відзе, у якім яна ў мяне выпрацавалася на працягу маіх дванаццацігадовых нагляданьняў.

Адказ на пытаньне, як трэба абіраць у натуры об'екты для нагляданяў, я прывяду ў V разьдзеле гэтага артыкулу ў выглядзе кароткай інструкцыі для фэнолёгічных нагляданьняў над дрэвамі і кустамі.

Запісы фэнолёгічных нагляданьняў вядуць 1) альбо ў выглядзе дзеньніку, 2) альбо ў выглядзе нататак умоўнымі знакамі, 3) альбо шляхам запаўненьня зараней складзенай табліцы.

Першы спосаб складаецца з таго, што на працягу вясны, лета і восені, а то і на працягу ўсяго году штодня запісваюць усё тое, што наглядаюць. Некаторыя фэнолёгі і дагэтуль яшчэ вядуць запісы ў выглядзе такіх дзеньнікаў і нават так іх і друкуюць. Атрымліваецца доўгі артыкул з вялікім лікам рознахарактарных фактаў, якія ніхто ніколі не сыстэматызуе і не апрацоўвае навукова па тэй простай прычыне, што іх і нельга навукова апрацаваць. Звычайна ў такіх дзеньніках 3/4 матар'ялу лішняга, непатрэбнага, а рэшта—1/4 не паддаецца навуковай апрацоўцы дзякуючы сваёй рознахарактарнасьці і выпадковасьці. Калі я чытаю ў гэткай фэнолёгічнай справаздачы, што 15 мая нагля-дальнік бачыў то-та, 16 мая заўважыў такія-та зьявы, 17 мая ён напаткаў яшчэ іншыя зьявы з жыцьця расьлін альбо жывёлін і г. д., і г. д. дык перада мной прабягае толькі рознастайнасьць зьяў і больш нічога. Ніякага цэльнага, яснага і пэўнага прадстаўленьня аб жыцьці жыта, яблыні, дуба, грака альбо дзікай качкі я не атрымаю. У лепшым выпадку гэта чарнавыя запісы, вельмі грамоздкія, неапрацаваныя і нікому непатрэбныя. Дзеля таго я рашуча ня раю гэткія дзеньнікі прадстаўляць у выглядзе справаздачы, а асабліва апублікоўваць іх. У такой форме магчыма весьці толькі падсобныя запісы пры фэнолёгічных нагляданьнях, інакш кажучы, толькі для сябе.

З мэтаю спрашчэньня запісаў, каб зрабіць іх больш выгоднымі для чытаньня і апрацоўкі некаторымі фэнолёгамі і батанікамі прапанаваліся спэцыяльныя ўмоўныя знакі для азначэньня розных фаз (стадый) разьвіцьця расьліны. Такая сыстэма азначэньняў і запісаў бывае вельмі карысна пры некаторых спэцыяльных досьледах расьліннасьці, але для рэгістрацыі фэнолёгічных нагляданьняў яе раіць таксама нельга.

Самым простым і выгодным спосабам вядзеньня фэнолёгічных запісаў трэба лічыць трэці спосаб, г. зн. спосаб, пры якім запаўняюцца клеткі ў загатаванай раней табліцы. Сутнасьць яго заключаецца ў тым, што загадзя складаюць сьпісы тых об'ектаў (расьлін, жывёл, другіх зьяў прыроды і зьяў гаспадарчага жыцьця краю), якія фэнолёг альбо краязнаўца будзе наглядаць. У кожны такі сьпіс уносяцца толькі об'екты, якія маюць аднолькавы ход разьвіцьця. Для кожнага такога сьпісу гатуецца ведамасьць з паземнымі і простастаўнымі графамі. З левага боку ў паземныя графы ўпісваюць назвы об'ектаў нагляданьня, напр., назвы расьлін. Зьверху ў простастаўныя графы ўносяць назвы тых фаз (стадый) разьвіцьця (напр., расьлін), час пачатку, сярэдзіны і канца якіх будуць наглядаць.

Наглядальніку ў такім выпадку астаецца толькі сачыць за сваімі об'ектамі і своечасна ў адпаведнай клетцы, якая атрымаецца ад пера-

сячэньня простастаўнай і паземнай графы, паставіць дату і месяц, калі даная фаза пачалася. Калі 13/V пры абходзе сваіх расьлін я заўважыў, што ў барбарыса звычайнага зьявілася першая раскрытая кветка, я зараз-жа ў сваёй ведамасьці шукаю простастаўную графу з надпісам „пачатак красаваньня“ і паземную графу з надпісам „барбарыс звычайны“, а ў клетцы, што атрымалася ад перасячэньня іх пішу—„13/V“. Атрымліваецца вялікая экономія часу, выгоднасьць параўнаньня жыцьця розных расьлін, прастата і нагляднасьць пры апрацоўцы матар'ялу. Вельмі важна і тое, што тут наглядальнік забясьпечаны ад пропуску якой-небудзь фазы разьвіцьця ў якой-колечы расьліны. Дзякуючы таму, што глянуўшы на табліцу, наглядальнік за самы кароткі час можа прагледзець усе свае расьліны і ўсё, што трэба для кожнае з іх запісаць, ня бывае ніякае перагрузкі памяці. У памяці можна нічога ня трымаць, бо адразу відаць, што ўжо наглядалася і што яшчэ трэба ня ўпусьціць пры наглядaньнях.

Прыклад гэткае табліцы я прыводжу ў канцы наступнага IV разьдзелу, узяты з запраўды зробленых мною запісаў.

Трэба яшчэ сказать некалькі слоў аб тым, як ня трэба і як трэба рэдагаваць запісы ў фэнолёгічных дзеньніках і табліцах. Калі мы чытаем у дзеньніку, што ў 1925 г. „22 мая красуе барбарыс, а елка ўбрана чырвонымі шышкамі“, дык нічога з гэтых запісаў навуковага і практычнага ня выведзеш. Гэта ўсё роўна, што запісаць—„25 мая на рацэ плавалі качкі“. Барбарыс красаваў ня толькі 22 мая, а і 16 мая, і 25 мая, а качкі плавалі ня толькі 25 мая, але і 25 чэрвеня і 25 жніўня. І нічога тут навучальнага няма. Калі-ж з фэнолёгічных запісаў мы даведаемся, што ў 1925 годзе барбарыс звычайны (абавязкова трэба зазначыць, які барбарыс, бо апроч звычайнага бываюць барбарысы і іншыя, напрыклад, барбарыс пурпуровы) *пачаў красаваць* 13 мая, *быў у самым поўным росквіце* 16 мая, а *скончыў сваё красаваньне* 26 мая, дык гэта ўжо нам дасьць дакладныя і навукова патрэбныя весткі. Мы ведаем працяжнасьць пэрыоду красаваньня, можам вылічыць, колькі патрэбна цяпла, каб барбарыс пачаў красаваць. Раўняючы з другімі расьлінамі мы даведваемся, якія расьліны красуюць раней, чымся барбарыс, якія пазьней і г. д. Тое самае можна сказать і адносна качак. Калі-б краязнаўцу ўдалася зарэгістраваць на працягу пэўнага раду гадоў той дзень, калі першы раз у гэтым годзе зьяўляюцца качкі якога-небудзь пэўнага віду на рацэ, дык гэта ўжо-б мела значнасьць і было-б цікава для біолёгаў, заолёгаў, паляўнічых і г. д. У запісах не павінна быць, па магчымасьці, нічога лішняга, але ня трэба абмінаць і нічога істотнага. Трэба заўсёды памятаць, што асноўная мэта фэнолёгічных наглядaньняў—рэгістрацыя таго дня, калі пэўная фаза разьвіцьця альбо жыцьця, папершае, *пачалася*, падругое, у *пэрыодзе найбольшага разьвіцьця* і, патрэцяе, калі яна *скончылася*.

## IV.

Фэнолёгічныя наглядaньні над дрэўнай расьліннасьцю могуць мець розныя мэты і могуць адбывацца над групамі расьлін, якія значна розьняцца паміж сабою. Дзеля таго немагчыма скласьці адну, аднолькавую для ўсіх выпадкаў фэнолёгічных наглядaньняў над дрэўнаю расьліннасьцю програму.

У інтарэсах складаньня нормальных програм і ў інтарэсах продукцыйнасьці працы наглядальнікаў наглядaньні над дрэўнаю расьліннасьцю трэба падзяліць на наступныя 5 відаў:

*1. Нагляданьні над асобнымі экзэмплярамі дрэў і кустоў.*

*2. Нагляданьні над цэлымі дрэвастанамі.*

*3. Нагляданьні над гадаваньнем у гадавальніках пасадачнага матар'ялу (сеянцамі і саджанцамі).*

*4. Нагляданьні больш глыбокага характару над ходам разьвіцьця якой-небудзь аднэй фазы ў жыцьці дрэва альбо хмызьняку.*

*5. Нагляданьні фіто-фэно-мэтрычныя*, г. зн. такія фэнолёгічныя нагляданьні, якія адбываюцца не на вока, а пры дапамозе вымераў праз 10, праз 5, альбо праз 2 дні, альбо праз 24 гадзіны, 12 гадз., 6 гадзін якіх-небудзь частак дрэва альбо хмызьняку (напрыклад, парастку, плоду, ліста і г. д.).

Першы від нагляданьняў атрымліваецца ў тым выпадку, калі мы возьмем па адным экзэмпляры розных дрэў і хмызьнякоў і будзем іх наглядаць.

Другі від будзе ў тым выпадку, калі мы вядзем нагляданьні над цэльнай вялікай групай адных і тых самых дрэў альбо хмызьнякоў, напрыклад, над дубовым лесам, сасновым лесам, бярозавым гаем, над садам альбо часткаю саду з аднаго гатунку яблынь, над маліньнікам у садзе і г. д.

Трэці выпадак зразумелы без тлумачэньняў.

Чацьверты выпадак маем тады, калі нас цікавіць ня ўсё жыцьцё дрэва, а які-небудзь адзін, але вельмі важны для нас пэрыод у яго жыцьці, напрыклад, пэрыод красаваньня, альбо пэрыод дасьпяваньня пладоў, альбо толькі пэрыодападаньня насеньня і пладоў.

Пяты від фэнолэгічных нагляданьняў зьяўляецца ў нас новым. Ён ужываецца ў тым выпадку, калі хочуць глыбей азнаёміцца з законамернасьцю росту і нарастаньня якога-небудзь органу расьліны. Спосабам вымераў у 1924 годзе ў многіх экзэмпляраў 15-ці відаў 4—5 гадовых дрэў і хмызьнякоў праз кожныя 5 дзён адных і тых самых парасткаў мне ўдалася, напрыклад, устанавіць, што верхавінныя парасткі растуць у вышыню ў клёна востраліснага з 26/IV па 22/IX, г. зн. на працягу 150 дзён, у вяза і лёма—з 6/V па 22/IX, г. зн. на працягу 140 дзён, у бярозы гузаватай і вярбы крохкай з 1/V па 18/VIII, г. зн.—100 дзён, а ў хвоі звычайнай з 1/V па 10/VI, г. зн. ужо толькі на працягу 50 дзён, таксама і ў елі звычайнай з 6/V па 24/VI, г. зн. усяго 50 дзён. Найбольшы прырост у вышыню аказаўся ў клёнаў, напрыклад, у канцы ліпня і пачатку жніўня, у вяза і лёма ў пачатку жніўня, у хвоі—паміж 26 і 30 мая, а ў елкі паміж 10 і 14 чэрвеня *). Ня трэба думаць, што для фіто-фэно-мэтрычных нагляданьняў абавязкова патрэбны асобныя складаныя і дарагія прылады. Ужо на працягу 3 год я і мае вучні, студэнты і маладыя вучоныя лесаводы, робім іх пры дапамозе самай звычайнай лінейкі, падзеленай на мілімэтры. Адзін з маіх вучняў, вучоны лесавод Б. Я. Бычкоў, улетку 1926 году такім способам здолеў вымяраць парасткі праз кожныя 4 гадзіны на працягу 6 сутак і атрымаў крывую сутачнага росту для клёна, вольхі, софары японскай і іншых дрэў. Справа ў тым, што ў кожнага віду дрэва бываюць улетку свае такія дні, калі парасткі іх растуць асабліва сільна. Напрыклад, у такія дні парастак у клёна востраліснага прырастаў за суткі на 5 сантымэтраў, у лёма—на 4,5 см., у вярбы крохкай—на 3,6 см., у хвоі звычайнай—на 1 см., у елкі звычайнай—на

*) Падрабязьней аб гэтым гл. „Проф. С. П. Мельнік—фіто-фэно-мэтрычныя назіраньні“ (Запіскі Беларускае Дзяржаўнае Акадэміі Сельскае Гаспадаркі, № 2).

0,8 см. Ведаючы наперад прыблізна гэтыя дні з нагляданьняў за папярэднія гады, мы і можам простай мілімэтравай лінейкай вымяраць прырост нават па гадзінах, а ня толькі па днёх.

Разьбіўшы фэнолёгічныя нагляданьні над дрэўнай расьліннасьцю на 5 вышэйпаказаных катэгорый, мы мусім сказаць, што для кожнай з гэтых катэгорый павінны быць складзены свае програмы і свае інструкцыі нагляданьняў, а таксама для кожнай катэгорыі павінны быць распрацаваны і свае мэтоды нагляданьняў.

Тут я прывяду програму самай пашыранай у нас катэгорыі нагляданьняў, першай, г. зн. *програму нагляданьняў над асобнымі экзэмплярамі дрэў і хмызьнякоў*. Програма складаецца з тых пытаньняў, на якія наглядальнік павінен адказаць паказаньнем даты і месяца, калі даная фаза разьвіцьця данага дрэва альбо куста пачалася. Пытаньні 9, 10 і 18 вымагаюць якаснай ацэнкі зьявы. Адказ на 26 пытаньне атрымліваецца пры дапамозе вылічэньняў.

*Програма фэнолёгічных нагляданьняў над асобнымі экзэмплярамі дрэў і хмызьнякоў.*

1. Пачатак ясна выразнага набраканьня пучкоў.
2. Раскрыцьцё ліставых пучкоў.
3. Раскрыцьцё кветкавых пучкоў.
4. Зьяўленьне першых лісьцяў.
5. Пачатак поўнага аблісьцьвеньня.
6. Пачатак красаваньня.
7. Поўнае красаваньне.
8. Канец красаваньня.
9. Ступень красаваньня.
10. Ступень закладаньня плодазавязі.
11. Зьяўленьне на парастках новых пучкоў.
    - 11а.) Новыя пучкі зьявіліся, але ледзь прыметны.
    - 11б.) Новыя пучкі вырасьлі бадай да нормальнай велічыні.
    - 11в.) Новыя пучкі набылі ўжо зусім нормальную велічыню, форму, афарбоўку і выгляд сваіх лусачак.
12. Пачатак дасьпяваньня пладоў альбо насеньня.
13. Масавае дасьпяваньне пладоў альбо насеньня.
14. Канец дасьпяваньня пладоў альбо насеньня.
15. Пачатак натуральнагаападаньня пладоў альбо насеньня.
16. Найбольшаеападаньне пладоў альбо насеньня.
17. Канецападаньня пладоў альбо насеньня.
18. Ступень ураджайнасьці пладоў альбо насеньня.
19. Пачатак зьмены афарбоўкі лісьцяў.
20. Агульная зьмена афарбоўкі лісьцяў.
21. Пачатак васеньнягаападаньня лісьцяў.
22. Найбольшае (масавае)ападаньне лісьцяў.
23. Канецападаньня лісьцяў.
24. Пачатак адзервяненьня парасткаў.
25. Канец адзервяненьня парасткаў.
26. Працяжнасьць вэгэтацыйнага пэрыоду.
    - 26а.) З якога да якога часу.
    - 26б.) Лік дзён.

Цікавымі будуць нагляданьні, калі пры адказе на запытаньне № 20 наглядальнік запіша ня толькі месяц і дату, калі пачалася агуль-

ная зьмена афарбоўкі лісьцяў“, але калі ён дадасьць яшчэ, які пераважае ўвосень колер у лісьцяў данага віду дрэва альбо хмызьняку.

Прыводжу прыклад ведамасьці, форму якой я лічу найбольш выгоднай для фэнолегічных запісаў. (Ведамасьць глядзі стар. 50—51).

V.

Каб атрымаць надзейныя і годныя для навуковай апрацоўкі даныя, неабходна прытрымлівацца пры выбары об‘ектаў для нагляданьняў і пры самых нагляданьнях некаторых правіл. Правілы гэтыя я прыводжу ў выглядзе кароткай інструкцыі, палажэньнямі якой кіруюцца нагляданікі дасьледчых вучасткаў Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі.

**Правілы для фітофэнолёгічных нагляданьняў над асобнымі экзэмплярамі дрэў і хмызьнякоў.**

1.

Калі нагляданік мае магчымасьць выбіраць, дык пажадана ў першую чаргу ахапіць нагляданьнямі тыя віды дрэўнай расьліннасьці, якія для данай мясцовасьці цікавы ў гаспадарчых адносінах, альбо якія ў данай мясцовасьці найбольш пашыраны альбо якія пажадана пашырыць (бо ў фэнолёгічных справаздачах вельмі часта фігуруе бэз і іншыя хмызьнякі і вельмі рэдка наглядаюць сасну, елку, бярозу, яблыню, ігрушу, асіну і г. д.).

2.

Для нагляданьняў трэба абраць не адзін экзэмпляр кожнага віду, а два, альбо нават тры. Першы экзэмпляр служыць для нагляданьняў. Другі і трэці павінны быць запаснымі.

3.

Узрост усіх экзэмпляраў, што наглядаюцца, павінен быць прыблізна аднолькавым. Належыць аддаваць перавагу сярэдняўзросным дрэвам.

4.

Аддаваць перавагу насеннаму паходжаньню дрэў. Калі наглядаюцца парасткавыя дрэвы, дык гэта агаварваецца ў журнале.

5.

Унікаць выразна markрознага рэльефу мясцовасьці, дзе растуць экзэмпляры, над якімі адбываюцца нагляданьні.

6.

Ступень асьвятленьня нагляданых экзэмпляраў дрэў і хмызнякоў павінна быць па магчымасьці аднолькава.

7.

Глеба-грунтовыя ўмовы трэба выбіраць таксама аднолькавыя і, ва ўсякім выпадку, калі і магчыма некаторая рознасьць глебы пад рознымі відамі нагляданых дрэў і хмызьнякоў, дык толькі тыповая для нормальнага ўзрастаньня кожнай пароды паасобку.

8.

Нельга рабіць фэнолёгічныя нагляданьні над дрэвамі і хмызьнякамі, якія растуць у выразна штучных умовах, напрыклад для сьцен будынкаў, у жывой загарадзі якую заўсёды падстрыгаюць, на дарозе і г. д.

9.

Экзэмпляры для нагляданьняў трэба выбіраць зусім здаровыя і нормальна разьвітыя.

# ВЕДАМ
## фэнолёгічных нагляданьняў над асобн

| №№ па парадку | Назва віду дрэва або хмызьняку | Месца знаходжаньня. Узрост. Вышыня. Ступень асьвятленьня. Для рознапнёвых пол нагляданага экзэмпляру. Глеба. | Пачат. выразна прым. набрак. пучкоў | Раскрыцьцё ліставых пучкоў | Раскрыцьцё кветкавых пучкоў | Зьяўленьне першых лісьцяў | Пачатак поўнага аблісьцьвеньня | Пачатак красаваньня | Поўнае красаваньне | Канец красаваньня | Ступень красаваньня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 1 | Барбарыс звычайны Berberis vulgaris, L. | Новы Парк. Каля 40 год. Куст 3 м. Асьвятленьне добрае. Глеба—падзолісты суглінак. | 23/IV | 4/V | — | 7/V | 14/V | 28/V | 31/V | 5/VI | 5 |
| 2 | Каштан конскі. Aesculus Hippocastanum, L. | Вуч. В. Дэндролёгічнага саду. Каля 50 г. Каля 19 м. Асьвятленьне добрае. Глеба—падзолісты лёсаваты суглінак. | 25/IV | 4/V | — | 6/V | 18/V | 23/V | 30/V | 6/VI | 5 |
| 3 | Вяз разложысты. Ulmus effusa, Willd. | Новы Парк. Каля 70 год. Асьвятленьне сярэдняе. Глеба—тая самая. | 26/IV | 4/V | 30/IV | 16/V | 22/V | 1/V | 3/V | 4/V | 3 |
| 4 | Ясакар. Populus nigra, L. | Вуч. № 14. Дэндролёгічн. саду. Каля 80 г. 30 м. Асьвятл. зьверху, з бакоў зацянёны. Жаночы экз. Глеба тая самая | 27/IV | 13/V | 3/V | 14/V | 25/V | 9/V | 12/V | 15/V | 5 |
| 5 | Сасна звычайная. Pinus silvestris, L. | Вучастак № 6. Каля 85 год. 28 м. Асьвятленьне добрае. Глеба тая самая. | 29/IV | 23/V | 21/V | 2/VI | — | 24/V | 27/V | 29/V | 5 |
| 6 | Чарэмха. Prunus Podus, L. | У межах гадавальніку № 1. Каля 20 г. Вышыня 6 м. З паўдн.-захаду зацянёна бярозамі. Глеба з намытым пластом. | 18/IV | 24/IV | — | 26/IV | 4/V | 18/V | 21/V | 24/V | 5 |
| 7 | Жоўтая акацыя. Caragana arborescens, D. C. | Вуч. № 17. Каля 20 г. Вышыня 3 м. Напалову зацянёна дрэвамі. Глеба—падзолісты суглінак. | 26/IV | 15/V | — | 17/V | 23/V | 26/V | 29/V | 1/VI | 5 |
| 8 | Морва белая. Morus alba, L. | На тэрыт. гадав. № 1. Каля 30 год. Выш. 6 м. З паўдн.-захаду напалову зацян. бярозамі. Глеба з намыт. пласт. | 16/V | 21/V | 23/V | 23/V | 8/VI | 31/V | 3/VI | 6/VI | 5 |
| 9 | Вярба-брэднік Salix Caprea, L. | Вучастак № 14. Каля 40 г. Асьвятленьне добрае. *Мужчынскі экзэмпл.* | 23/III | 24/IV | 25/III | 4/V | 15/V | 1/V | 2/V | 4/V | 5 |
| 10 | Вярба-брэднік Salix Caprea, L. | Вучастак № 14. Каля 30 г. Асьвятленьне добрае. *Жаночы экзэмпляр.* | 21/III | 24/IV | 27/III | 4/V | 10/V | 1/V | 3/V | 8/V | 5 |

УВАГА. У 26 пытаньні програмы за пачатак вэгэтацыі паўсюды ўзяты час раскрыцьця ліставых пучкоў.

# АСЬЦЬ

**ымі экзэмплярамі дрэў і хмызьнякоў.**

| Ступень закладаньня плодазавязі | Зьяўленьне на парастках новых пучкоў: Новыя пучкі зьявіліся, але ледзь прыметны | Новыя пучкі вырасьлі бадай да нормальнай велічыні | Новыя пучкі набылі норм. вел., форму, афарб. і выгл. лусачак | Пачат. дасьпяв. пладоў альбо насеньня | Масав. дасьпяв. пладоў альбо насеньня | Канец дасьпяв. пладоў альбо насеньня | Пачатак натуральнага ападаньня пладоў альбо насеньня (дасьпелых) | Найбольшае ападаньне пладоў альбо насеньня. | Канец ападаньня пладоў альбо насеньня | Ступень урадж. пладоў альбо насеньня | Пачат. вас. зьмены афарбоўкі лісьцяў | Агульная зьмена афарбоўкі лісьцяў | Пачатак васеньняга апад. лісьцяў | Масавае (найбольшае) ападаньне лісьцяў | Канец ападаньня лісьцяў | Пачатак адзервяненьня парасткаў | Канец адзервяненьня парасткаў | Працяжн. вэгэтацыйнага пэрыоду: Ад якога да якога часу | Лік дзён |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 10 | 11а | 11б | 11в | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | |
| 5 | ? | 20/VII | ? | 11/VIII | 8/IX | 20/IX | 6/IX | 25—30/IX | ? | 4 | 14/IX | 8/X | 20/IX | 27/X | 5/XI | 25/VI | 15/VIII | с 4/V да 8/X | 158 |
| 5 | ? | 1/VII | ? | 15/VIII | 12/IX | 29/IX | 8/IX | 20/IX | 2/X | 4 | 9/IX | 29—30/IX | 27/IX | 3—4/X | 9/X | 8/VI | 2/VIII | с 4/V да 29/IX | 149 |
| 3 | ? | 25/VI | ? | 31/V | 6—8/V | 11/VI | 3/VI | 6—7/VI | 19/VI | 3 | 2/IX | 30/IX | 6/IX | 4—6/X | 22/X | 19/VI | 12/VIII | 4/V 30/IX | 154 |
| 1 | ? | 9/VII | ? | 24/V | 10/VI | 11/VI | 26/V | 7/VI | 21/VI | 1 | 4/IX | 11/X | 8/IX | 22/X | 25/X | 18/VI | 10/VIII | 13/V 11/X | 152 |
| 4 | ? | 20/VII | ? | 25/VIII | шышак 1/X | 1/X | ападуць у вясну 1927 г. | | | 3 | 2/IX | 10/IX | 6/IX | 15—20/IX | 12/X | 12/VII | 15/IX | 23/V 10/IX | 111 |
| 4 | ? | 29/VI | ? | 27/VI | 5/VII | 10/VII | 15/VII | 10/VII | 21/VII | 3 | 6/IX | 23/IX | 8/IX | 25—29/IX | 4/X | 3/VI | 30/VII | 24/IV 23/IX | 154 |
| 4 | ? | 4/VII | ? | 21/VII | 2/VIII | 11/VIII | 21/VI | 18/VIII | 25/VIII | 5 | 15/IX | 2/X | 18/IX | 11/X | 18/X | 14/VI | 8/VIII | 15/V 2/X | 141 |
| 4 | ? | 4/VII | ? | 13/VII | 21/VII | 5/IX | 18/VII | 21/VII | 9/IX | 4 | 13/IX | 6/X | 20/IX | 8—9/X | 25/X | 20/VII | 23/VIII | 21/V 6/VIII | 139 |
| — | ? | 9/VII | ? | — | — | — | — | — | — | — | 17/IX | 11/X | 25/IX | 22/X | 28/X | 23/VI | 2/IX | 24/IV 11/X | 171 |
| 5 | ? | 9/VII | ? | 18/V | 24/V | 28/V | 25/V | 26/V | 30/V | 5 | 14/IX | 11/X | 21/IX | 21—22/X | 23/X | 27/VI | 25/VIII | 24/IУ 11/X | 171 |

Прыклады ўзяты з запраўднай ведамасьці нагляданьняў, зробленых у Гарэцкім Дэндролёгічным Садзе пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі ў 1926 годзе. З 118 нагляданых экзэмпляраў тут прыведзена 10. Выбраны наўмысьля вядомыя ўсім віды, але па магчымасьці рознастайныя па пабудове кветкі і характары росту.

10.

У рознапнёвых відаў (вярбы, топаля, асіны, ялаўца звычайнага, клёна амэрыканскага і інш.) трэба весьці нагляданьні асобна над мужчынскімі і асобна над жаночымі экзэмплярамі.

11.

Выбраныя паводле ўсіх паказаных умоў экзэмпляры нумаруюцца (лепш алейнай фарбай) і пад адпаведным нумарам заносяцца ў сшытак для нагляданьняў. Запасныя экзэмпляры не нумаруюцца, а адзначаюцца якім-небудзь іншым знакам.

12.

Каб зьберагчы час на рэгулярным абходзе об'ектаў нагляданьня складаецца сталы маршрут для абходу выбраных экзэмпляраў.

Выбраныя экзэмпляры заносяцца ў сшытак у парадку гэтага сталага маршруту. У парадку гэтага-ж маршруту ідуць і нумары нагляданых дрэў і хмызьнякоў (гл. § 11).

13.

Для ўсіх занумараваных і нагляданых экзэмпляраў складаецца спэцыяльнае апісаньне з паказаньнем для кожнага з іх: месца знаходжаньня, характару глебы, умоў асьвятленьня, узросту, стану здароўя, дыямэтру на вышыні грудзей сярэдняга чалавека, вышыні, клясы па Крафту (калі экзэмпляр расьце ў лесе альбо ў густым дрэвастане) і г. д.

14.

Нагляданьні вядуцца над адным і тым самым экзэмплярам (занумараваным) данага віду дрэва альбо хмызьняку ня толькі на працягу ўсяго вэгэтацыйнага пэрыоду альбо году, але над адным і тым самым экзэмплярам на працягу магчыма большага ліку гадоў.

15.

У часе нагляданьняў трэба сачыць за тым, каб не пашкодзіць парасткаў і галінак, асабліва на мала разьвітых экзэмплярах. Мернае зразаньне галінак дазваляецца толькі у крайнім выпадку і толькі на добра разьвітых дарослых дрэвах і хмызьнякох, калі нельга абыйсьціся для добрага агляду прыгінаньнем галінак пры дапамозе кручка, складанай альбо наогул пераноснай драбінай, аглядам пры дапамозе падзорнай трубы, бінокля і г. д.

16.

Разьвіцьцё пучкоў і парасткаў лепш наглядаць у сярэдняй частцы кароны.

17.

Калі заўважана розьніца ў часе разьвіцьця пучкоў і парасткаў на розных бакох кароны, дык запісы весьці адносна заходняй яе часткі.

18.

У тым выпадку, калі розныя часткі кароны заценены ў выбраных экзэмпляраў другімі дрэвамі выразна неаднолькова, дык нагляданьні трэба рабіць над адкрытаю часткаю кароны.

19.

Ад пачатку набраканьня пучкоў у відаў, якія раней за другія распускаюцца (воўчыя ягады, вербы, ляшчына), прыблізна да часу ападаньня насеньня лёмавых (вяз, лём, бераст), выбраныя экзэмпляры трэба наглядаць штодзённа. Ад часу ападаньня насеньня лёмавых да высьпяваньня пладоў бружмелю альбо насеньня бярозы нагляданьні

можна рабіць праз 5 дзён. Пасьля гэтага і да пачатку зьмены афарбоўкі лісьцяў у відаў, якія рана мяняюць гэтую афарбоўку—праз 2 дні. З моманту пачатку зьмены афарбоўкі лісьцяў нагляданьні зноў робяцца штодзённа да канчатковага ападаньня лісьця і пладоў альбо насеньня.

20.

Усе нагляданьні заносяцца ў сшытак (у ведамасьць), не адыходзячы ад экзэмпляру, які наглядаеш. На сваю памяць наглядальнік ні ў якім выпадку не павінен спадзявацца.

21.

У сшытку для нагляданьняў месяц азначаецца рымскай лічбай, а дата месяца арабскай лічбай.

22.

Працяжнасьць вэгэтацыйнага пэрыоду лічыцца ў днях ад часу раскрыцьця ліставых альбо кветкавых (якія раней раскрыліся) пучкоў да агульнае зьмены афарбоўкі лісьцяў.

23.

У іглястых „зьмена афарбоўкі лісьцяў“ і „ападаньне лісьцяў“ адносіцца да старой ігліцы, за выключэньнем мадрыны.

24.

„Ступень красаваньня“, „ступень утварэньня плодазавязі“ і „ступень ураджайнасьці пладоў і насеньня“ ацэньваецца па пяцібальнай сыстэме: 5—поўны ўраджай, 4—добры, 3—сярэдні, 2—дрэнны, 1—вельмі дрэнны, 0—поўная адсутнасьць ураджаю. Зразумела, такая ацэнка ўжываецца ў адносінах да дарослых экзэмпляраў.

25.

Штодзённыя нагляданьні неабходна прыстасоўваць прыблізна да аднэй і тэй самай гадзіны, па магчымасьці, да сярэдзіны дня.

VI.

Програма, даная ў главе IV-ай, зьяўляецца поўнай програмай фітофэнолёгічных нагляданьняў. Калі наглядальнік-аматар альбо краязнаўца ня мае магчымасьці і часу выканаць яе цалком, дык трэба весьці нагляданьні па скарочанай програме. Гэткая скарочаная програма атрымаецца, калі ўзяць толькі пытаньні ў програме за наступнымі нумарамі: 1, 2, 3, 4, 6, 7, 8, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 19, 20, 21, 22, 23, 26. Можна програму яшчэ больш скараціць, узяўшы пытаньні за нумарамі: 2, 3, 4, 6, 7, 8, 12, 13, 14, 20, 21, 22, 23, 26. Нарэшце, можна ўзяць яшчэ меншы лік пытаньняў, але пры гэтым трэба мець на ўвазе, што для навуковай апрацоўкі матар'ялу і параўнаньня яго з данымі наглядальнікаў другіх месц пытаньні—2, 4, 6, 20, 22 і 26 зьяўляюцца абавязковымі, а пытаньні 1, 3, 12, 13, 14, 15, 16, 17 і 23 зьяўляюцца вельмі пажаданымі.

Усё выкладзенае ў разьдзелах IV і V і вышэйсказаныя словы разьдзелу VI адносяцца да нагляданьняў над асобнымі экзэмплярамі дрэў і хмызьнякоў.

Програму нагляданьняў над цэльнымі дрэвастанамі мы тут зараз прыводзіць ня будзем з прычыны яе грамоздкасьці і складанасьці. Зазначым толькі, што фэнолёгічныя нагляданьні над дрэвастанамі маюць на мэце прасачыць і зафіксаваць жыцьцё і разьвіцьцё на працягу вэгэтацыйнага пэрыоду не для аднаго тыповага экзэмпляру данага віду, але для цэльнае расьліннае грамады. Сымы просты выпадак будзе, калі мы пачнем наглядаць разьвіцьцё чыстага дрэвастану,

напрыклад, чыстага сасновага лесу на пяскох, маліньніку ў садзе і г. д. У гэтым выпадку рэгіструюцца тыя самыя фазы жыцьця і разьвіцьця, што і для асобных дрэў, але запіс ускладняецца тым, што фаза або ступень фазы адзначаецца: 1) „у адзіночных экзэмпляраў“, 2) „у большасьці экзэмпляраў“ і 3) агульны пачатак фазы або ступені яе.

Для нагляданьняў у гадавальніку над узрастаньнем аднагадовых сеянцаў можна даць наступную скарочаную програму нагляданьняў:

1. Час пасеву.
2. Час прарастаньня (зьяўленьне карэньчыка).
3. Час зьяўленьня першых усходаў.
4. Час зьяўленьня масавых усходаў.
5. Час зьніманьня пакрышкі (калі пасеў прыкрываецца).
6. Час зьяўленьня першага лістка (ня лісьценю).
7. Час пухленьняў.
8. Час полак.
9. Час прарэджваньня, калі гэта было патрэбна.
10. Час паліваньня, калі яно было патрэбна.
11. Час зацяненьня, калі яно патрэбна было.
12. Час пачатку і канца пажоўкласьці лісьценяў.
13. Час пачатку і канца ападаньня лісьценяў.
14. Час пачатку зьмены афарбоўкі лісьцяў.
15. Пачатак агульнае зьмены афарбоўкі лісьцяў.
16. Пачатак васеньняга ападаньня лісьцяў.
17. Найбольш моцнае ападаньне лісьцяў.
18. Канец ападаньня лісьцяў.

Карысна дадаць час закладаньня верхавіннага пучка.

Для двухгадовых і трохгадовых сеянцаў, а таксама для саджанцаў, што вырашчваюцца ў школе, нагляданьні можна весьці па програме, складзенай для паасобных экзэмпляраў дарослых дрэў і хмызьнякоў. Тут толькі ня будзе пытаньняў аб раскрыцьці кветкавых пучкоў, аб красаваньні, плоданашэньні, дасьпяваньні і ападаньні пладоў або насеньня. Апроч таго, тут мэтазгодна весьці нагляданьні не над паасобнымі экзэмплярамі, а над групай экзэмпляраў, найбольш тыповых па разьвіцьці.

Нагляданьні паглыбленага характару над ходам разьвіцьця якой-небудзь аднэй фазы ў жыцьці дрэва вымагаюць ужо некаторых спэцыяльных вед, а часта і некаторых прылад. Часьцей такога роду нагляданьні належыць даручаць не асобным пэрсонам, а навукова-дасьледчым установам.

Аб сутнасьці фіто-фэно-мэтрычных нагляданьняў коратка ўжо гаварылася. Яны зьяўляюцца мэтодам пры шмат якіх біолёгічных навукова-дасьледчых працах. Але яны зусім даступны і асобным дасьледчыкам, у тым ліку і больш падгатаваным краязнаўцам. Гэтага роду нагляданьні вымагаюць, праўда, большай дакладнасьці і сумленнасьці ў працы, але затое яны зьяўляюцца найлепшым спосабам пры больш паглыбленым вывучэньні дрэўнай расьліннасьці.

# Анкеты, програмы і інструкцыі.

## Аб зьбіраньні народнага слоўнікавага матар'ялу ў беларускай мове ў 1927 г.

Для наладжаньня справы збору слоў, запісаных беспасярэдна з вуснаў народу, Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў 1925 г. была выдадзена „Інструкцыя да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове", прычым было паказана, што трэба запісваць усе беларускія словы розных катэгорый, ужываныя ў пэўнай мясцовасьці, а тэрмінам сканчэньня гэтае працы было вызначана 1 студзеня 1927 г.

У адказ на гэтую інструкцыю ў працягу 1926 г. у Камісію і мясцовыя краязнаўчыя організацыі паступіла больш за 130.000 слоў, запісанных ў розных мясцовасьцях Беларусі беспасярэдна з вуснаў народу, і сярод іх ёсьць словы, яшчэ не зарэгістраваныя ў слоўніках беларускай мовы.

Аднак, з месц дастаўляецца значная колькасьць слоў звычайных і зьбіраньне такіх звычайных слоў можа толькі ўскладніць задачу сыстэматызацыі слоўнікавага матар'ялу.

Адсюль вынікае патрэба ў далейшым працягу працы запісваньня слоў з народных вуснаў абмежаваць задачу корэспондэнтаў запісам слоў, не зарегістраваных яшчэ ў слоўніках беларускай мовы, і дадаткаў да гэтых слоўнікаў.

Які-ж слоўнік можа быць скарыстаны для гэтай мэты? Выдадзены яшчэ ў 1871 г. Расійскай Акадэміяй Навук „Словарь белорусского наречия" Ів. Насовіча, блізка што вышаў з продажы і прытым не адпавядае сучаснаму стану беларускай мовы.

„Беларуска-Маскоўскі слоўнічак" М. Гарэцкага—занадта кароткі, асабліва ў трэцім апошнім выданьні, скарочаным у параўнаньні з першымі.

Для гэтай мэты больш за ўсё падходзіць „Беларуска-Расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча, выдадзены ў пачатку 1927 г. Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі, як найбольш даступным для карыстаньня і разам з тым больш-менш поўны слоўнік беларускай мовы, апрацаваны на падставе ранейшых друкаваных і рукапісных слоўнікаў і прыстасаваны да сучаснай літаратурнай беларускай мовы.

У далейшым працягу слоўнікавай працы на мясцох у 1927 г. пры зборы матар'ялу для *акадэмічнага слоўніка беларускай мовы**) Слоўнікавая Камісія і знайшла магчымым абмежаваць корэспондэнтаў дастаўленьнем у Камісію дадаткаў да „Беларуска-Расійскага слоўніка" М. Байкова і С. Некрашэвіча.

---

*) Пры зябіраньні карткавага матар'ялу для ўкладаньня краёвых слоўнікаў можа быць скарыстана выдадзеная ў 1925 г. інструкцыя Слоўнікавай Камісіі.

Да дадаткаў належаць:

1. *Незарэгістраваныя ў слоўніку словы,* якія ўжываюцца ў вуснах народу ў пэўнай мясцовасьці;

2. *Непаказаныя ў слоўніку значэньні слоў,* хаця-бы гэтыя словы і былі зарэгістраванымі ў слоўніку.

Асаблівую ўвагу патрэбна зьвярнуць на:

а) *анатомічныя і мэдычныя назвы* (назвы часьцін організму і назвы хвароб), зарэгістраваныя ў слоўніку ў параўнальна нязначнай колькасьці з прычыны нераспрацаванасьці адпаведных тэрмінолёгій;

б) словы *рэдкія*, уласьцівыя толькі мясцовым гутаркам,—провінцыялізмы, якія не сустракаюцца ў літаратурнай мове;

в) *чужаземныя словы,* якія ўвайшлі ў народнае ўжываньне, асабліва-ж тыя з іх, якія пры гэтым ужываньні зьмянілі свой фонэтычны і морфолёгічны склад (напр. „камунізма“, „камунец“, „сыцыяліст“ і г. д.);

г) *фразэолёгічныя звароты,* уласьцівыя беларускай мове (напрыклад, „лазам лезьці“, „скінуць вокам“ і г. д.).

Паасобку можна адзначыць розьніцу іменьнікаў у родзе і дзеясловаў у злучэньні з прыйменьнікамі супраць паказаньняў слоўніка.

Дадаткі да слоўніка належыць запісваць на картках у $^{1}/_{16}$ долю аркуша звычайнай паперы, запісваючы на кожную картку адно слова ў пэўным яго значэньні.

На картцы належыць запісваць:

а) Азначанае беларускае слова,—з знакам націску, падчыркнутае рыскай (у верхнім левым рагу карткі).

б) Дакладны пераклад гэтага слова ў расійскую ці польскую мову або, калі слова запішчык зусім ня можа перакласьці, яго тлумачэньне ў беларускай-жа мове (у левым баку карткі пад беларускім словам).

в) Прыклад-фразу, дзе сустракаецца дадзенае на картцы беларускае слова (у сярэдзіне карткі).

г) Месца запісу (горад, мястэчка, вёска, раён або павет) і прозьвішча запішчыка (унізе карткі).

Скланяльныя словы,—іменьнікі і прыметнікі (у верхнім левым рагу карткі) запісваюцца ў назоўным склоне, а дзеясловы—у неазначальнай форме.

Пры запісе прыкладаў неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на дакладнасьць і паўнату фразы, якая бярэцца з народных вуснаў для вытлумачэньня значэньня пэўнага слова. Пры гэтым словы *абавязкова* запісваюцца на слух, як яны вымаўляюцца ў вуснах народу (такім спасабам, там, дзе чуецца „о“ ня трэба пісаць „а“; дзе чуецца „ы“— „а“ і г. д.).

У тым выпадку, калі даецца на картцы новае значэньне слова, належыць пад беларускім словам паказаць: *„апрача значэньня, паказанага ў слоўніку БН“*.

У выпадку запісу рэдка ўжываных слоў у *правым* верхнім рагу карткі належыць прыпісваць *„рэдкаўжыванае“*, а ўнізе карткі пад адзначэньнем месца запісу ды прозьвішча запішчыка пісаць *„чуў, (чула) ад . . . . . . . . . . . год“*.

Патрэбна асабліва падкрэсьліць неабходнасьць чытэльнага запісу слоў і подпісу запішчыка (поўнасьцю павінны пісацца імя і прозьвішча на кожнай картцы).

Найлепшыя слоўныя запісы корэспондэнтаў будуць Слоўнікавай Камісіяй прэм'явацца ў 1927 г., але ў далейшым пры вызначэньні

прэмій і аплаце картак будуць прымацца пад увагу толькі карткі з словамі, незарэгістраванымі ў вышэйпаказаным слоўніку.

Апроч дадаткаў да слоўніка, Камісія мае на ўвазе сабраць у 1927 г. выпраўленьні да яго за дапамагаю мясцовых краязнаўцаў шляхам дакладнага разгляду слоўніка.

Тым асобам, якія пажадалі-б заняцца такім разглядам, будуць дасланы адпаведныя матар'ялы і дадатковыя паказаньні.

Сабраныя матар'ялы можна накіроўваць або ў мясцовыя краязнаўчыя організацыі для адасланьня ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства БССР або непасрэдна на адрэс Камісіі: г. Менск, Рэволюцыйная, д. № 21, Інбелкульт, Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.

Корэспондэнцыя, накіраваная на імя Інстытуту Беларускай Культуры, аслабаняецца ад паштовай аплаты.

Навуковы Сакратар Слоўнікавай Камісіі ІБК *М. Байкоў*.

---

# Да пытаньня аб шляхох пралётаў птушак.

Прыродазнаўчая Сэкцыя Інстытуту Беларускае Культуры вывучае пытаньне аб шляхох пралётаў птушак. Каб усебакова вывучыць гэтае пытаньне, трэба мець адначасна як-мага больш даных аб тэрмінах пралёту тэй ці іншай птушкі ў розных месцах.

Зьвесткі аб веснавым прылёце птушак трэба зьбіраць па такой форме.

Прозьвішча і імя наглядальніка ..........

Месца нагляданьня (акруга, раён, сельсавет, вёска) ..........

| №№ | Назва птушкі (мясцовая або расійская, калі-ж ведаеце, дык і навуковая — лацінская) | Калі зьявіліся першыя экзэмпляры | Агульны лёт | Характар пралётнага статка (адзінокія экзэмпляры ці група, колькі прыблізна) | Кірунак лёту | Пара дня | Надвор'е | Пачатак паркаваньня | Першыя адкладаньні ячэк | Першая песьня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Напр.** | | | | | | | | | |
| 1 | Жаўранка. | 6/III 1927 г. | 9—12 сакавіка | | Па Пн. Усх. | Пасьля ўсходу сонца | Хмарна, ветрана | | | |
| 2 | Бакас . . | 19/III 1927 г. | 30/III многа | | Па Пн. Усх. | Уночы (чуваць крык) | | | | |

Паведамленьні трэба даваць толькі аб тых птушках, якіх Вы добра ведаеце і аб гатунку якіх ня можа быць спрэчак, напр.: бусел (бацян), журавель, кнігаўка (чыбіс), шпак (скворец), жаўранка. Нельга адзначаць, напрыклад „качкі“ (вуткі), бо качак на Беларусі многа відаў; трэба іх адзначаць дакладней, напр. „качкі-крыжанкі“ (кряквы), „чыркі-сьвістункі“ і г. д.

Весткі трэба прысла́ць у ЦБК не пазьней 1 чэрвеня г. г. па адрэсу: *Менск, Рэволюцыйная, 21. Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства. Бясплатна.*

Прыродазнаўчая сэкцыя.

# ХРОНІКА.

## Краязнаўчая праца па акругах.

Краязнаўчая сетка Аршаншчыны яшчэ патрабуе далейшай дзейнасьці над арганізацыйным узмацаваньнем яе і пасіленьнем узаемасувязі краязнаўчых аб'яднаньняў. Затое вытворчая дзейнасьць сеткі дала значныя вынікі, што відаць з вышэйдадзеных табліц. На месцы апрацаваны: „Гісторыя Воршы“, „Матар'ялы да гістарычна-археолёгічнае карты акругі“, „1905 г. на Аршаншчыне“, „Ворша ад XI да XVII сталецьця“, „1863 г. на Аршаншчыне“, „Апісаньне Дубровенскага і Талочынскага р. р.“ і інш., частка якіх ужо зьявілялася ў друку: у паасобных выданьнях, „Нашым Краі“, „Савецкай Беларусі“, „Комуністычным шляху“; апрача таго, Праўленьнем Акруговага Т-ва выданы свой зборнік прац: „Аршаншчына“, ч. I. Матар'ялы пасылаліся таксама і ў ЦБК і Сельска-Гаспадарчую Акадэмію. Ля в. Кліднявічы Дрыбінскага раёну знойдзена вохра; на Друцкім замчышчы Талачынскага р.—дзіда; у в. Галалобаўцы таго-ж р.—скарб; ля в. Цюльніна Коханаўскага р., в. Ліцьвінава і в. Кабыльле Ляднянскага р.—рэшткі мамантаў; у Кабыльлі Ляднянскага р.—цікавыя каменныя крыжы; на Карабанаўскіх хутарох Дрыбінскага р.—своеасаблівая вада і г. д. Выяўляліся архіўныя матар'ялы. Зроблены 2 экскурсіі па Воршы, некалькі па акрузе, і 3 экспэдыцыі на акругу для вывучэньня выкапняў і старажытнасьцяй, а таксама—1 на Далёкі-Ўсход.

З раённых таварыстваў краязнаўства лепш за ўсіх працавала Горацкае і Ляднянскае Т-ва Краязнаўства. Сярэдне працавалі Багушэўскае і Талачынскае Т-вы, што датычыцца іншых раёнаў, то там краязнаўчая праца ня мінула яшчэ свайго арганізацыйнага пэрыоду. Больш за ўсё раёнамі вядзецца зьбіраньне народнага фольклёру і слоўнікавага матар'ялу. У гэтым напрамку на першым месцы стаіць Ляднянскае Т-ва Краязнаўства, якое дало запісаў да 900 слоў і да 1.000 песен, баек, прыпевак і прыказак. Заснаваны пачаткі раённых краязнаўчых музэяў і шмат знаходак, асабліва скарбаў прыслана ў Акруговы Музэй. Але дзякуючы адсутнасьці належных памяшканьняў, усе гэтыя находкі ня вывучаны.

Сярод гурткоў краязнаўства першае месца займае гурток краязнаўства Аршанскага Рабфаку.

Гарадзкая Аршанская краязнаўчая організацыя складалася з сэкцый: этнографічна-гістарычнай, прыродна-экономічнай і яўрэйскай культуры. Польсэкцыя ў стадыі організацыі.

Сэкцыя яўрэйскай культуры таксама перажывала, галоўным чынам, сваю організацыйную пару. Распачаты працы па зьбіраньні помнікаў старажытнасьці і рэштак старадаўняй яўрэйскай культуры на Аршаншчыне. Пачалося вывучэньня колёнізацый яўрэямі Аршаншчыны, гісторыя яўрэйскай асьветы і рэволюцыйнага руху сярод яўрэяў Аршаншчыны. Самую большую працу прарабіла гістарычна-этнографічная сэкцыя, якая правяла падлік помнікаў старажытнасьці; мастацтва і побыту. Усяго зарэгістравана больш 10 курганоў і гарадзішч, руіны аднаго замку, пяць замчышч, 10 цэркваў і кляштараў. Складаньне археолёгічнай карты і помнікаў старажытнасьці яшчэ не закончана, бо некаторыя т-вы і РВК да гэтага часу ня прыслалі неабходных матар'ялаў. Гістарычны заказьнік каля вёскі Чаркасава асталбованы на плошчы 12 дзесяцін і туды ўжо праведзена навукавая экспэдыцыя супрацоўнікам Інбелкульту т. Аніхоўскім. Летам былі абгледжаны членамі Інбелкульту і Акруговага Т-ва пячэры на левым беразе Дняпра, знаходкі костак маманта каля вёскі Кабылякі. Праведзена концэнтрацыя архіўных матар'ялаў, запісана больш 5.000 слоў для слоўніка Аршанскай акругі і шмат сшыткаў з народнымі песьнямі, прыказкамі і прыпеўкамі накіравана ў ЦБ Інбелкульту. Гісторыя Воршы і мястэчка даведзена да XVII стал.

Прыродна-агрономічная сэкцыя ўсю сваю працу сконцэнтравала ў летні час каля Сельска-Гаспадарчага Музэю. Праводзіліся фэнолёгічныя назіраньні, прычым складзены весткі аб зацьвітаньні 140 відаў расьлін Аршанскай акругі, гэрбары і вялося вывучэньне птушак Аршаншчыны. Галоўная ўвага была зьвернута на вывучэньне Дубровенскага раёну, у каторым, галоўным чынам, працавалі сілы Рабфаку. Пакуль што гэтая праца ня скончана і патрабуе далейшых досьледаў і самай пільнай увагі. Распачатае вывучэньне карысных выкапняў і мінэральных крыніц па акрузе прывяло к адшуканьню жалезнай руды ў Аршанскім, Круглянскім, Багушэўскім і Ляднянскім раёнах, залежаў вохры і крэйды ў Дрыбінскім раёне і цэлы шэраг залежаў розных глін у Дубровенскім, Ляднянскім, Копаскім раёнах. Некаторыя з гэтых глін скарыстоўваюцца сялянамі для афарбаваньня тканін. Дасьледваньне тэхнікі

сялянскае гаспадаркі не дало значных вынікаў. Усяго толькі быў заслухан адзін даклад на гэтую тэму на агульным сходзе т-ва і 10 запоўненых анкет паслана ў Інбелкульт і Навуковаму Т-ву па вывучэньні Беларусі пры Беларускай С.-Г. Акадэміі.

Адбылося два агульных сходы гарадзкой краязнаўчай організацыі, а таксама дзьве акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі і каля 10 раённых. Вылучаны Дубровенскі р., як тыповы, для ўсебаковага вывучэньня.

Праўленьне Акруговага Т-ва вяло інтэнсыўную працу па організацыйным афармленьні краязнаўчага руху акругі, давёўшы лік організацый да 2 райтаварыстваў і 17 гурткоў. Сувязь і кіраўніцтва былі больш пісьмовымі з прычыны недахопу сродкаў. Больш-менш шчыльная сувязь падтрымлівалася з Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміяй, Інбелкультам і Акадэміяй Навук РСФСР і Украінскай Акадэміяй Навук. Абмен выданьнямі праведзены з краязнаўчымі організацыямі Масквы, Ленінграду, Пскова Смаленску, Калугі, Пермі, Харкаву, Кіеву, а таксама з беларускімі краязнаўчымі організацыямі. Атрыманыя выданьні розных краязнаўчых організацый у абмен на зборнік „Аршаншчына" перададзены ў краязнаўчы аддзел Бібліотэкі Дому Асьветы, бо свае бібліотэкі Т-ва не организуе. Гэты краязнаўчы аддзел бібліотэкі Дому Асьветы налічвае да 200 кніжок і брошур. Ёсьць усе працы па беларусазнаўстве, апісаньне Магілеўскай губэрні і краязнаўчыя часопісы: „Краеведение", „Наш Край" і пэрыодычныя выданьні Украінскай Акадэміі Навук і розных краязнаўчых т-ваў.

У шэрагі краязнаўцаў пачалі ўцягвацца і ня члены Саюзу Працаўнікоў Асьветы, а іншых і сяляне, комсамольцы, піонэры.

Інформацыя аб дзейнасьці сеткі зьмяшчаліся ў „Нашым Краі", „Савецкай Беларусі", „Звезде", „Комуністычным шляху", популярызацыя краязнаўства вялася шляхам шэрагу дакладаў і ў мясцовай газэце.

Нельга сказаць, што матар'яльны грунт дзейнасьці акруговага т-ва палепшыўся: у мінулы год т-ва мела 300 р. ад ЦБК (да 600 р. ад мясцовага Аддзелу Асьветы—усяго 900 р.) як дапамогі, а сёлета—600 руб. ад Акруговага Выканаўчага Камітэту па сваім каштарысе.

Культурна-гістарычны музэй ня мае сродкаў і памяшканьня. Сельска-гаспадарчы—у нездавальняючым памяшканьні, як і архіў. Таму база для працы гарадзкой організацыі далёка ня зусім здавальняючая.

З прычыны браку часу яшчэ скарачаемся. Організацыйны кругабег па Бабруйшчыне надта зацягнуўся; доўгі час ня было належнага кіраўніцтва з боку Праўленьня Акруговага Т-ва, а таксама нормальнай узаемасувязі організацый, чаму і краязнаўчая продукцыя сеткі і рэалізацыя яе значна слабейшыя, чым у другіх акругах. Да таго, продукцыя гэта мае выпадковы характар. Організацыя акруговага цэнтру складалася з сэкцый: гістарычнай, этнографічнай, экономічнай, прыродазнаўчай, яўрэйскай і польскай, якія займаліся пераважна зьбіраньнем матар'ялаў. З раённых больш актыўнае Стрэшынскае т-ва, а з гурткоў—Рагачэўскага пэдтэхнікуму. Праца Краснабераскага агротэхнікуму носіць больш беларусазнаўчы ўхіл. У акруговым горадзе грамадзкімі сіламі складзены багаты краязнаўчы музэй, які можа служыць прыкладам для іншых.

З краязнаўчае сеткі Барысаўшчыны гарадзкая краязнаўчая організацыя дала вынікі свае дзейнасьці ў друку—пераважна ў „Нашым Краі", а таксама паасобным выданьнем. У горадзе працавалі наступныя сэкцыі: школьнага краязнаўства, культурна-гістарычная, прыродазнаўчая, этнографічная, соцыяльна-экономічная і яўрэйская. Першай сэкцыяй распрацаваны шэраг дакладаў і былі організаваны экскурсіі. Культурна-гістарычная—апрача дакладаў па сваёй спэцыяльнасьці, узяла на падлік помнікі старасьветчыны і клапацілася аб ахове іх. Прыродазнаўчая сэкцыя распачала апісаньне прыроды Барысаўшчыны. Іншыя сэкцыі асабліва сябе ня выявілі. Зьбіраецца матар'ял да зборніка „Барысаўшчына". Пробавалі заснаваць музэй. З гурткоў на акрузе найбольш выявіўся Веляціцкі гурток. Найбольш дзейнае Чарэйскае, Лепельскае раённае т-ва краязнаўства, выявіла сябе ў фэнолёгічных і мэтэоролёгічных назіраньнях, апісаньнях курганоў і г. д. Знойдзена на акрузе руда і вохра, запісан фольклёр, рабіліся экскурсіі. Узаемасувязь паміж організацыямі была слабаватай, асабліва з боку месц. На Віцебскай акрузе некаторыя раённыя т-вы, як Віцебскае, Высачанскае, Лёзьненскае, Кузьняцоўскае, амаль што зусім не працуюць. На акрузе лік гурткоў даведзены да 8, апрача школьных, якія існуюць амаль пры ўсіх школах, але вельмі слаба сябе выявілі, як і памянёныя раённыя т-вы. Краязнаўчая організацыя акруговага цэнтру складаецца з сэкцый: экономічнай, прыродазнаўчай, культурна-гістарычнай, сьветазнаўчай і яўрэйскай. Апошняя больш году—у стадыі організацыі. Ёсьць пры Беларускім Пэдагогічным і Мастацкім тэхнікумах гурткі, вынікі дзейнасьці якіх невядомы. Гурток Вэтэрынарнага Інстытуту, пасьля доўгага перапынку, аднавіў сваю дзейнасьць, як т-ва. У складзе-ж гарадзкой організацыі працавалі: бібліографічная камісія, якая склала, праўда, яшчэ няпоўны, картачны бібліографічны каталёг Віцебшчыны і слоўнікавая камісія—краёвы слоўнік. Праца сеткі зьвязвалася як з мясцовымі навукова-краязнаўчымі ўстановамі і організацыямі, так і Інбелкультам і Акадэміяй Навук у Ленінградзе. Сувязь і кіраўніцтва акруговага т-ва былі добрымі. Працы, як і інформацыі аб дзейнасьці сеткі, зьмяшчаліся ў мясцовых і цэнтральных выданьнях. Акруговым Т-вым за гэты час выданы: „Крашаніна (набіванка)" Шлюбскага, „Віцебск у

гравюрах Юдовіна" Фурмана. Укладзена падарожная кніжніца па Віцебшчыне, што чакае друку. Праўленьнем зроблена спроба прыцягненьня працаўнікоў ня з Віцебшчыны для вывучэньня апошняй: Лунгэрсгаўзэн (Горкі) узяўся даць геолёгічны агляд, Сьпіцын (Ленінград) — архэолёгічны, Шыраеў (Крым, Алупка)—працу па мастацтве і г. д. Праўленьнем давалася шмат даведак аб мясцовым краі мясцовым савецкім і профсаюзным установам і організацыям, а таксама цэнтральным, прычым некаторыя члены т-ва прымалі сыстэматычны ўдзел у працы адпаведных камісій Інбелкульту. Сэкцыямі было праведзена некалькі экспэдыцый і экскурсій, а таксама лекцый і дакладаў, усяго каля 50 дакладаў.

У Гарадоцкім, Бешанкавіцкім і Сурасскім раённых таварыствах і ў Астровенскім гуртку краязнаўства заснаваны музэі; у Лёзьненскім і Азярышчанскім раённых т-вах і ў Лаўжанскім гуртку сабраны гэрбары (зельнікі). Ва ўсіх організацыях заснаваны бібліотэкі. Сярод раённых т-ваў асабліва ня вызначылася ніводнага. У патрэбных выпадках рабіўся агляд помнікаў старасьветчыны (Храпавіцкая царква, Маркаў кляштар і інш.) і рабіліся адпаведныя крокі да аховы іх. Праведзена 2 акруговых конфэрэнцыі і амаль ва ўсіх раёнах—раённыя. Палепшаньне матар'яльнай базы дае мажлівасьць далейшага росту справы і зьнішчэньня шэрагу недахопаў краязнаўчага руху Віцебшчыны: слабой узаемасувязі організацый, нядзейнасьці часткі іх, слабасьці вытворчай працы на мясцох, бесплянöвасьці, адсутнасьці належнага грамадзкага зданьня навокал справы, ня зусім сьвядомых адносін некаторых працаўнікоў і г. д.

Праўленьне Магілеўскага Акруговага Т-ва Краязнаўства, а таксама сэкцыі акруговага гораду: грамадзка-экономічная, прыродна-геаграфічная, культурна-гістарычная-прарабілі спачатку вялікую працу. Апрача іх, былі слоўнікавая і па вывучэньні гораду і мястэчак камісіі, а таксама польская і яўрэйская сэкцыі. Слабей была пастаўлена праца на акрузе, дзе больш вызначыліся Прапойскае, Чавускае і Быхаўскае раённыя т-вы краязнаўства. У горадзе працавалі гурткі пры тэхнікумах, якія далі багаты па ліку слоўнікавы матар'ял. Пасьля акруговай конфэрэнцыі справа крыху палепшылася. Ёсьць поўная матар'яльная магчымасьць выдаць першы том „Магілеўшчыны", але матар'ялы яшчэ не падрыхтаваны.

Амаль што ў адзінай організацыі акруговага цэнтру—Мазырскай—быў правільны падзел на сэкцыі: культурна-гістарычную, прыродна-географічную, грамадзка-экономічную, польскую і яўрэйскую. Працы Мазырскага акруговага таварыства друкаваліся ў „Нашым Краі", а інформацыі ў мясцовым і цэнтральным друку. Кіраўніцтва з боку праўленьня акруговага т-ва было добрае. Наогул сетка Мазыршчыны, апрача Слабодзкага і Калінкавіцкага раённых т-ваў, ува-ходзіць у кругабег вытворчай працы: знойдзена жалезная руда, каолін, праведзена абсьледваньне тэхнікі ральніцтва ў 3 раёнах і г. д.

Праца па Меншчыне ажывілася з вясны 1926 г Вытворчая праца пачалася ў пяцёх раёнах з 11, а таксама Дукорскім і пользэдтэхнік. белпэдтэхніку і Выш. Кур. Бел. гурткох. У горадзе організавана слоўнікавая камісія, якая апублікавала інструкцыю. Школьная сэкцыя прарабіла значную працу. Сувязь з раёнамі трохі палепшылася. У асноўным чарговая задача, якая стаіць перад Менскім акртаварыствам, складаецца з організацыйнага ўмацаваньня сеткі і апанаваньня мэтодолёгіяй краязнаўства, пасьля чаго ўжо наступіць вытворчая масавая праца. Сэкцыі акруговага цэнтру: культ.-гіст., прыр.-геогр., грам.-эконом., шк. кр-ва і яўр. пачалі пляновую працу. Т-ва прымае ўдзел у выданьні „Меншчыны", якое робіцца Інбелкультам. Невялікая краязнаўчая праца пачалася пры пэдгабінэце Дому Асьветы.

Увосень краязнаўчая справа на Калінін-шчыне была значна падупала. У акруговым асяродку працавалі сэкцыі: гістарычна-архэолёгічная, мовазнаўчая і прыродазнаўча-экономічная. Больш сябе выявілі дзьве першыя. Расьнянскі раён вылучаны для ўсебаковага дасьледваньня. Раённае т-ва гэтага раёну, побач з Касьцюковіцкім і Хоцімскім, дало значныя вынікі свае працы. У Клімавічах ёсьць акруговы краязнаўчы музэй з 1.000 экспонатаў, а таксама ў Расьне з 500 экспонатамі і Хоцімску з 600 экспонатамі. Наогул, у раёнах праца наладжана значна лепш, чым у акруговым горадзе. Узаемасувязь была больш-менш нормальнай, а з савецкімі і партыйнымі організацыямі—добрая.

На Полаччыне захапленьне гарадзкой організацыі зборам Полацкага музэю мела тэндэнцыю звузіць ініцыятыву месц у справе організацыі сваіх музэяў. Адчынены Полацкі музэй мае пераважна культурна-гістарычны характар. Гарадзкая організацыя складалася з гістарычна-архэолёгічнай, этнографічнай, сельска-гаспадарчай і прамысловасьці,прыродазнаўчай—яўрэйскай і польскай. Апрача таго, існавалі камісіі: па ўкладаньні краёвага слоўніка, па вывучэньні рэвруху, школьнага краязнаўства і па вывучэньні вытворчых сіл Беларусі. Спачатку трохі выявілася гістарычна-архэолёгічная сэкцыя. Актыўней за ўсіх дзейнічала прыродазнаўчая сэкцыя, вынікі працы якой ёсьць у відзе колекцый. Наогул, вытворчая праца гарадзкой організацыі распачынаецца. З раённых організацый найлепш працу паставіла Асьвейскае раённае таварыства краязнаўства, якое організавала музэй, сабраўшы досыць цікавыя экспонаты, і вядзе пляновае абсьледваньне раёну. Сталую працу распачалі Валынецкае і Вульскае раённае т-вы; пачынаецца праца ў Ветрынскім і Вушацкім раёнах. Рэшта раённых організацый яшчэ перажы-

ваюць арганізацыйны пэрыод. Сувязь паміж акруговым праўленьнем і раённымі арганізацыямі была надта слабая. У Полацкім Акртаварыстве заўважваецца недахоп падрыхтаваных працаўнікоў, якія-б маглі непасрэдна кіраваць працаю сэкцый таварыства.

На Случчыне краязнаўства мае сваю даўгую гісторыя, але ў ёй былі пэўныя перапынкі. У справаздачным годзе арганізацыя акруговага цэнтру складалася з сэкцый—музычнай, прыродазнаўчай, культурна-гістарычнай, этнографічна-экономічнай—і прабавала арганізавацца юнсэкцыя з піонэраў і школьнікаў. У Слуцку праца ішла добра. Сіламі гарадзкой арганізацыі пры дапамозе раённых аб'яднаньняў утвораны добры краязнаўчы музэй. Вынікі працы краязнаўчае сеткі яшчэ не друкаваліся, але праца гэта даволі інтэнсыўная. З гурткоў вызначаецца гурток слуцкіх агульна-адукацыйных курсаў, а з раённых—Грозаўскае Т-ва. Праўда, сетка Случчыны яшчэ патрабуе арганізацыйнага ўмацаваньня і палепшаньня ўзаемасувязі.

Аб краязнаўчых арганізацыях Гомельшчыны і Рэчыцкага павету сталых даных у ЦБК пакуль што ня было. Да далучэньня з намі зносілася Гомельскае Бюро Краязнаўства.

## Па Бабруйшчыне.

**Бабруйскае Акруговае Т-ва Краязнаўства.**

Склад Т-ва на 15 сакавіка 1927 г. такі: сяброў 96, з іх мужчын 61, жанчын 35, служачых савецкіх устаноў 91, вучняў 5, сяброў і кандыдатоў КПБ—18, сяброў ЛКСМБ—6, беспартыйных—72; па нацыянальнасьці: беларусаў—34, яўрэяў—51, расійцаў—5, палякаў—4, іншых 2.

Сувязь т-ва з ЦБК цесная, з раённымі т-вамі існуе рэгулярная сувязь, пасылаюцца протоколы пасяджэньняў праўленьня т-ва, орыентовачныя пляны працы. Раённыя т-вы перасылаюць у Акруговае Т-ва сабраныя матар'ялы. Праўда, ня ўсе раённыя т-вы аднолькава зьвязаны, некаторыя з іх цэлымі месяцамі нічога ня пішуць аб сваёй працы і не прысылаюць ніякіх матар'ялаў (Жлобінскае, Парыцкае, Будакашалёўскае). Рэгулярна зьвязаны і найбольшы лік матар'ялаў прысылаюць Асіпавіцкае, Глускае, Клічаўскае і Стрэшынскае раённыя т-вы. Апошняе цяпер аслабіла сваю працу і, як відаць, заняпала.

Партыйныя органы дапамагаюць Акруговаму Т-ву ў яго працы. Прадстаўнік АПА Акружкому зьяўляецца сябрам Акруговага Праўленьня і кіраўніком экономічнай сэкцыі. Праз яго т-ва популярызуе краязнаўчую працу сярод профсаюзных і партыйных організацый. Профсаюзныя органы таксама прыхільна адносяцца да гэтай справы. Старшыня Акрпрацасьветы зьяўляецца сябрам Акруговага Праўленьня і па яго ініцыятыве і даручэньні сябры праўленьня і т-ва даволі часта выступаюць на профсаюзных сходах з дакладамі па краязнаўстве. Што датычыцца савецкіх урадавых устаноў і асабліва АВК, дык трэба адзначыць, што яны не дапамагаюць т-ву з матар'яльнага боку. Бабруйскае Акруговае Т-ва дабівалася ад АВК хоць невялічкіх сродкаў на свае патрэбы, але нічога ня вышла. У гэтых адносінах т-ва ня ў прыклад другім Акруговым Т-вам, якім АВК часта вызначае вельмі значныя сродкі, знаходзіцца ў самых горшых умовах па ўсёй Беларусі. Нават краязнаўчы акруговы музэй, якім Бабруйск мае права ганарыцца, утрымоўваецца Акрана па яго каштарысе. Праўда, само т-ва не дабівалася ўпарта, каб яго праца, праца музэю, яго значэньне ў культурным жыцьці Бабруйшчыны былі вядомы АВК. На пасяджэньнях Прэзыдыуму АВК не заслухоўвалася справаздача Праўленьня Т-ва. У далейшым т-ва мае намер шырака інформаваць АВК у гэтым напрамку і па магчымасьці наладзіць экскурсію дэлегатаў Акруговага Зьезду Саветаў у Краязнаўчы Акруговы Муэй.

Матар'яльнае становішча т-ва, параўнальна з мінулым годам, вельмі пагоршылася. Ніякіх сродкаў на самыя неабходныя выдаткі па дзелаводзтве, па інструктаваньні, па множаньні інструкцыйнага матар'ялу няма. Сяброўскія ўзносы паступаюць марудна, іх ёсьць толькі на 10 руб. Праўда, ёсьць надзея, што АПА акружкому адшукае сродкі на патрэбы т-ва да канца бюджэтнага году, хоць і не ў вялікім разьмеры.

Сваю дасьледчую працу т-ва вядзе па сэкцыях: прыродазнаўчай, экономічнай, гістарычнай, этнографічнай, польскай і яўрэйскай. Гістарычная сэкцыя наладжвае свае сходы 1 раз у месяц, іншыя—2 разы. Больш другіх сэкцый працуе прыродазнаўчая сэкцыя. Яна дапамагае краязнаўчаму музэю ў папаўненьні экспонатамі. Сэкцыя мае добры плян працы, які, на жаль, па тэхнічных прычынах не перасылаецца раённым т-вам. Пляны іншых сэкцый таксама не перасылаюцца. Па раёнах пасылаюцца толькі агульныя орыентовачныя пляны. Экономічная сэкцыя мае сувязь з Акрплянамі і Статбюро. Гістарычная сэкцыя мае вынікі свае працы ў некалькіх нарысах па гісторыі Бабруйскага краю. У працы яна шчыльна зьвязана з Акруговым архівам. Этнографічная сэкцыя апрацоўвае фольклёрныя матар'ялы і слоўныя, якія прыходзяць з раёнаў. Словы пасьля прагляду сэкцыяй перасылаліся ў Рагачэўскі Пэдтэхнікум т. Харэвічу. Цяпер ён апрацаваў слоўнік Бабруйшчыны (3.300 слоў) і пераслаў у Слоўнікавую камісію ІБК.

Працу польскай сэкцыі вядзе бюро сэкцыі з 3 асоб. Кіраўнік сэкцыі польскі інспэктар, Акрана концэнтруе працу сэкцыі вакол 20 польскіх школ акругі у той-жа час выкарыстоўвае кожны выпадак, каб популярызаваць краязнаўства наогул. Галоўныя асяродкі польскай краязнаўчай працы: Парыцкая, Сьвіслацкая і Асіповіцкая школы і Бабруйская няпоўная сямігодка. Сэкцыя зьвя-

зана з польскай мэтодычнай камісіяй і вывучае такія моманты: гісторыю польскай колёнізацыі на Беларусі і гісторыю падпольных польскіх школ. Сэкцыя падзяляецца на камісіі: гістарычную, экономічную (вывучэньне экономікі польскай насельнасьці) і мастацкую. У далейшым сэкцыя і імкнецца пабудаваць польскі аддзел пры Акруговым краязнаўчым музэі і з гэтай мэтай зьбіраюцца матар'ялы.

Яўрэйская сэкцыя мае 3 камісіі: этнографічную, соцыяльна-політычную, гістарычна-культурную. Лік сяброў сэкцыі—35 чалавек, усе настаўнікі. Пасяджэньні сэкцыі адбываюцца рэдка. Пасьля II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду адбылося толькі адно пасяджэньне бюро сэкцыі і агульны сход сяброў яе, на якім была інформацыя аб II-м Краязнаўчым Зьезьдзе. Сэкцыя мае плян працы. Сувязь з мястэчкамі акругі яшчэ не наладжана.

Вынікі працы ўсіх сэкцый ёсьць. Рыхтуецца да друку зборнік „Бабруйшчына", які будзе мець тры разьдзелы: 1. Гісторыя гор. Бабруйску (экономіка, гісторыя, культурна-асьветны стан Бабруйску ў мінулым). 2. Гістарычна-экономічн. нарыс найбольш выдатных раёнаў акругі—Сьвіслацкага, Рагачэўскага і Глускага. 3. Этнографія і экономіка раёнаў—усебаковае апісаньне 3-х раёнаў. Матар'ялы для зборніка ўжо ёсьць і прыводзяцца ў сыстэму. Разьмер зборніка 12 арк.

Вынікі працы Т-ва таксама зьмяшчаюцца ў мясцовай газэце („гісторыя Бабруйску").

Праўленьне Т-ва працуе па каляндарным пляне. Пасяджэньні праўленьня адбываюцца рэгулярна 2 разы ў месяц па чацьвяргох. Складзены орыентовачны плян працы, у якім вызначаны найболш рэальныя, тэрміновыя і простыя заданьні. У галіне вывучэньня экономікі намечана: вывучэньне тэхнікі сялянскай гаспадаркі, зьбіраньне матар'ялаў па вывучэньні бюджэту часу селяніна, абсьледваньне неземляробскіх промыслаў і сеткі нізавой коопэрацыі. У галіне гісторыі—вывучэньне ў першую чаргу рэволюцыйнага руху ў акрузе ў XIX і XX ст. і часоў окупацыі. У галіне этнографіі першым заданьнем ёсьць зьбіраньне экспонатаў па беларускім мастацтве і фольклёрнага матар'ялу. У організацыйным напрамку плян мае на ўвазе выяўленьне жывых краязнаўчых сіл акругі—аматараў, наладжваньне вечароў народнае творчасьці, краязнаўчых экскурсій і ў мэтах пашырэньня краязнаўчай працы ў школах—скліканьне конфэрэнцыі школьных краязнаўчых гурткоў.

## Бабруйскі Акруговы Краязнаўчы Музэй.

Музэй зьмяшчаецца на Соцыялістычнай вул. г. Бабруйску ў 4-х невялікіх пакоях. Гэта адзін з самых важных асяродкаў культурнай працы гораду. Праўда, покуль што Музэй добра вядомы толькі аднэй групе насельніцтва ў горадзе—вучнёўскай, піонэрскай і комсамольскай моладзі г. Бабруйску. Найбольш цікавы аддзел музэю—экспонаты фабрычнага і заводзкага жыцьця Бабруйшчыны. Тут разьмешчаны модэлі, матар'ялы і процэс вытворчасьці мылаварнага, маслабойнага, дрэваапрацовачнага, шклянога і др. заводаў. Усё гэта ілюстравана схэмамі, статыстычнымі данымі вытворчасьці і збыту, дыяграмамі профэсіянальных хвароб і неабходнымі тлумачэньнямі па фабрычнай санітарыі і гігіене. Модэлі і ўсё абсталяваньне фабрык і заводаў зроблены самымі рабочымі.

У гэтым-жа аддзеле ёсьць аддзел электрыфікацыі; у наглядным выглядзе ўся элемэнтарная электротэхніка: тэлефон, званок, тэлеграф, лямпа, кіно. Тут-жа схэма электрыфікацыі СССР—хутка ўспыхваючыя лямпачкі моцных электростанцый па Саюзе.

Другія аддзелы музэю: сельская і лясная гаспадарка, прылады земляробства, пчалярства, мэліорацыя, саматужніцтва, паляваньне.

Сабрана музэем вялікая колькасьць экспонатаў па прыродзе Бабруйшчыны—колекцыя выкапняў, гэрбарыі, птушкі, жывёлы (чучалы). Прадстаўлена, праўда, у невялікай колькасьці, археолёгія Бабруйшчыны і яе этнографія. Ёсьць і жывы куток пры музэі: белыя мышы, заяц, каршук, сыч і інш. Было куды больш жывых экзэмпляраў, але ў халады, калі музэй ня меў апалу, яны замерзьлі.

Музэй мае яшчэ шмат матар'ялаў, якія ня прыведзены ў сыстэму і ня выстаўлены, як экспонаты. Памяшканьне для музэю ўжо цесна і не дае разьвярнуць працу. Гэта надзвычайна шкодна адбіваецца на працы, бо музэй яшчэ адчыняе цяпер аддзел санітарнай Асьветы.

Пэрспэктывы музэю вялікія, ён па маштабе мае ўсе падставы лічыцца выдатным краязнаўчым музэем на Беларусі. Ня гледзячы на гэта, матар'яльнае становішча музэю вельмі дрэннае: Акрана ўзяла на сябе толькі выплату пэнсіі загадчыку Музэю, на набыцьцё-ж экспонатаў, на папаўненьне музэю, на разгортваньне яго працы, нават на самыя звычайныя дробныя выдаткі няма сталых сродкаў, няма і памяшканьня.

## Гарадзецкае раённае т-ва краязнаўства.

Т-ва організацыйна зусім аформілася. Склад яго: 82 сябры, з іх на правох сяброў 46 вучняў краязнаўчага гуртка пры сямілетцы партыйных у т-ве 2 сябры, комсамольцаў—11, піонэраў 27, настаўнікаў 24, савецкіх служачых 7 і сялян 5. Як відаць, сяляне пачынаюць уцягвацца ў краязнаўчую працу, ёсьць заявы ад сялян аб жаданьні працаваць па заданьнях т-ва. Т-ва цесна зьвязана з ЦБК і трохі горш з Акруговым т-вам. Адносіны да т-ва з боку савецкіх, партыйных і профсаюзных органаў добрыя. РВК і

культаддзел абяцалі пры магчымасьці вылучыць невялікія сродкі на абсталяваньне раённага краязнаўчага музэю. Памяшканьне пад яго ёсьць пры сямілетцы з 2-х пакояў. Ёсьць ужо і экспонаты. Вясною музэй канчаткова аформіцца.

Т-вам праароблена яшчэ нязначная праца: складзена карта раёну, сабрана некалькі сшыткаў фолькльору, запоўнена некалькі анкет, сабрана колекцыя грошай, гэрбары, зарэгістраваны па раёне 200 курганоў. На вясновы пэрыод т-ва мае плян працы, па якім намечаны толькі самыя простыя і магчымыя для выкананьня заданьні: высьвятленьне запасаў торфу ў раёне, азначэньне іх на карце, вядзеньне элемэнтарных фэнолёгічных назіраньняў, зьбіраньне экспонатаў расьліннасьці раёну, запаўненьне прысылаемых з ЦБК анкет, нанясеньне на карту зарэгістраваных помнікаў старажытнасьці і вывучэньне рэволюцыйнага руху ў раёне.

Матар'яльныя сродкі т-ва складаюцца покуль што толькі з сяброўскіх .узносаў: 10 к. уступнага і 5 к. штомесячнага.

Дагэтуль т-ва працавала бяз сэкцый. Цяпер падзяліла працу па агульна прынятых сэкцыях і вылучыла кіраўнікоў сэкцый.

## Буда-Кашалёўская раённая краязнаўчая конфэрэнцыя.

27 лютага г. г. праўленьнем Буда-Кашалёўскага раённага т-ва краязнаўства была склікана раённая краязнаўчая конфэрэнцыя, на якую быў запрошаны прадстаўнік ЦБК і прыехаў проф.Бузук. На конфэрэнцыю, дзякуючы некаторым няспрыяючым умовам, зьявілася ўсяго каля 30 асоб, з іх 12 настаўнікаў, 15 комсамольцаў, некалькі вучняў. Конфэрэнцыя заслухала наступныя даклады і інформацыі: 1) Мэты, задачы і зьмест краязнаўчай працы — даклад прадстаўніка ЦБК; 2) Праца II Ўсебеларускага Краязнаўчага зьезду—даклад старшыні райт-ва; 3) Аб неабходнасьці зьбіраць весткі па дыялектолёгіі раёну—даклад проф. Бузука і 4) Плян працы райт-ва.

Даклады спрэчак ня выклікалі, затое быў даволі значны лік запытаньняў. Характар апошніх сьцьвярджае, што раённае т-ва зусім не папулярызавала краязнаўчай справы. Напр., былі такія запытаньні: ці ёсьць які-небудзь падручнік ці агульная програма, як весьці краязнаўчую працу? Якія галоўныя мэты ставіць раённае т-ва? Што яно можа даць рэальнага, практычнага? Якая яго роля ў культурным жыцьці? Якую працу могуць весьці аддзельныя сябры? Ці можна організаваць аддзяленьні т-ва ці гурткі ў вёсцы і г. д. Справаздачнага дакладу аб працы праўленьня раённага т-ва на конфэрэнцыі ня было заслухана. Старшыня праўленьня т. Адзярыха, зачытваючы плян далейшай працы, адзначыў, што да гэтага моманту т-ва амаль што ніякай працы не вяло і толькі цяпер пасьля II Ўсебеларускага зьезду распачнецца праца т-ва. Конфэрэнцыя ўнесла свае заўвагі ў намечаны плян. У асноўным плян концэнтруецца вакол пытаньня аб стварэньні раённага краязнаўчага музэю. Старшыня РВК, які прысутнічаў на конфэрэнцыі, абяцаў падтрымаць ініцыятыву стварэньня музэю, адпусьціць належныя сродкі, адвесьці памяшканьне для краязнаўчага аддзелу пры раённым агрогабінэце. Конфэрэнцыя даручыла праўленьню на падставе орыентовачнага пляну працы распрацаваць дакладны каляндарны плян працы, склікаць, як-мага хутчэй, больш шырокую краязнаўчую конфэрэнцыю, на якой былі-б усе сябры т-ва, шырака наладзіць агітацыю за ўдзел у гэтай конфэрэнцыі сяброў іншых саюзаў і комсамольцаў, заслухаць на конфэрэнцыі справаздачу праўленьня і пераабраць працаздольнае праўленьне, якому ня было-б перашкод рэгулярна працаваць.

Конфэрэнцыя выявіла адстутнасьць краязнаўчай працы ў раёне. Уся праца дагэтуль заключалася ў запаўненьні і адсылцы некаторых анкет ІБК. Ніякія іншыя матар'ялы ня зьбіраюцца. Пры сямілетцы толькі нядаўна пасьля зьезду заснаваўся краязнаўчы гурток. Праўленьне ня можа рэгулярна працаваць, бо палова сяброў яго знаходзіцца ў раённым цэнтры, а другая пры сямілетцы за 3 вярсты ад раёну. Мэтодычнае літаратуры ёсьць досыць, але яна не выкарыстоўваецца.

## Жлобінскае раённае т-ва краязнаўства.

Т-ва можна лічыць організацыйна аформленым. Праўленьне т-ва працаздольнае. Пасяджэньні праўленьня адбываюцца больш-менш рэгулярна. Існаваў невялікі краязнаўчы музэй, але пры пажары школы сямілеткі памяшканьне пад музэем згарэла і экспонаты часткай папсаваны, часткай зьнішчаны. Плян працы т-ва на вясновы пэрыод зводзіцца к наступнаму: 1) У галіне організацыйнай: а) правесьці компанію сярод членаў усіх саюзаў, вылучыўшы са складу праўленьня дакладчыкаў на профсаюзных сходах; б) наладзіць сувязь з мэткомісіяй і супольна з ёю намеціць кірунак краязнаўчай працы ў школах; в) пераорганізаваць т-ва па сэкцыйным прынцыпе; г) зьвязацца з мэтстанцыяй у Саланом. 2) У дасьледчым напрамку: а) скарыстаць даныя па перапісу насельніцтва ў раёне; б) скарыстаць справаздачныя матар'ялы па дзейнасьці раённых устаноў; сабраць матар'ялы для карт раёну (клімат, глеба, расьліннасьць); в) гістарычнай сэкцыі ў першую чаргу сабраць весткі аб рэволюцыйным руху ў раёне і правесьці поўны падлік помнікаў у раёне; г) двум сябром узяцца за падлічэньне бюджэту часу селяніна. У пляне намечана яшчэ злажыць нанова раённы краязнаўчы музэй.

Т-ва дагутэль яшчэ мала працавала. За-

поўнена некалькі анкет, сабрана 4 сшыткі фэнолёгічных назіраньняў за 1926 год, ёсьць у пісьмовай форме вельмі цікавая апрацоўка ў аднэй школе комплексу „Наш Край“, сабрана 8 сшыткаў гэрбарыяў (прымітывы), 96 №№ фолькльору. Сярод іншых сабраных краязнаўчых матар'ялаў асаблівую ўвагу выклікае „Апісаньне в. Лук“ наст. Капача, які ў сваёй працы дае невялікі але цікавы нарыс гісторыі вёскі і прыводзіць статыстычныя даныя нямецкай і польскай окупацыі. Ёсьць яшчэ цікавы ўзор школьнага краязнаўства пад загалоўкам „Лукаўская школа“. Ня менш цікавы сабраныя матар'ялы па вывучэньні кірмашу ў Жлобіне.

5 сакавіка ў Жлобіне адбылася раённая настаўніцкая конфэрэнцыя, на якой Жлобінскае т-ва паставіла два даклады Краязнаўчага зьместу: 1. Зьмест краязнаўчай працы—даклад прадстаўніка ЦБК; 2. краязнаўства і школа—даклад старшыні праўленьня райт-ва т. Багатава.

## Стрэшынскае раённае т-ва краязнаўства.

Т-ва існуе амаль два гады, але ў апошні момант праца заняпала. Лік сяброў т-ва 57, з іх партыйцаў 10. За гэты час т-ва сабрала 3 сотню слоў, склала карты па сельсаветах, шмат фольклёрных запісаў, якія яшчэ ня прыведзены ў сыстэму, зарэгістравала ўсе помнікі старажытнасьці ў раёне. Краязнаўчай працай т-ва вельмі зацікаўлен Райком, які ідзе насустрэчу патрэбам т-ва. Так, па яго ініцыятыве ў бліжэйшы час будзе склікана шырокая краязнаўчая раённая конфэрэнцыя і будуць зроблены ўсе захады для організацыі раённага краязнаўчага музэю. Таксама па згодзе з райкомам абраны новы старшыня праўленьня т-ва, які мае ўсе даныя, каб пасунуць уперад краязнаўчую працу ў раёне.

## Краязнаўчая праца на Гомельшчыне.

Да гэтага часу Гомельскім Бюро Краязнаўства праароблена такая работа:

1) Разасланы па 20 школах анкеты Гідролёгічнага Інстытуту аб веснавой паводцы;

2) Дадзен пералік крыніц у I выпуску мэтодычных паказаньняў Мэтодычнага Бюро;

3) Зроблена абсьледваньне Новазыбкаўскага музэю Народнай Гаспадаркі для высьвятленьня магчымасьці ператварэньня яго ў губэрскі музэй народнай гаспадаркі;

4) Знойдзена ў губэрскім архіве „Отказная кніга“ на передачы Гомельскай вотчыны Чартарыйскай графу Румянцову-Задунайскаму—1776 год;

5) Сабрана і адаслана ў Інбелкульт больш 1000 беларускіх слоў;

6) Організаваны беларускаю інспэктураю Краязнаўчыя гурткі: у Гомелі, Горвале і пры Рэчкаўскай школе;

7) Падрыхтован матар'ял для выпуску бюлетэню № 1.

Бюро знаходзіцца ў зносінах з Інбелкультам, ЦБК РСФСР і Украінскаю Акадэміяй Навук.

У працягу лістапада 1925 году інспэктарам Парсаковым і Розіным зроблена абсьледваньне мергелей у раёне Суража плошчаю каля 20 кв. вёрст, абмежаванаю вёскамі Ўльзовічы—Белаход—Зашопаўка—Каменск—Авічнец—Аўчынец—Ульзовічы.

У Гомелі існуе „отделение Общества Распространения естественно - историческіх знаний“, якое налічвае ў сваім складзе 41 члена. У 1925-26 годзе ў ім заслуханы наступныя даклады: В. Д. Памеранцаў:—1) Караеды на хвоі лясоў у Гомельскай губэрні, 2) Шкоднікі садоў Гомельскай губэрні; В. Н. Багданаў—Глебы губэрні і ўплыў падглебы на каштоўнасьць палескага дубу; Д. Д. Струнін—Значэньне гідролёгічных назіраньняў.

Гомельскі Гістарычна-Мастацкі музэй імя Луначарскага займае адно крыло былога дварца Паскевіча-Эрыванскага, сярэдняя часьць якога разбурана ў пэрыод паўстаньня 1922 году. Будынак сам зьяўляецца ня толькі гістарычным помнікам, але і помнікам будаўніцтва, на якім яскрава адбілася асоба ўладара—мешаніна романтыкі і фэўдальнага мілітарызму. З прычыны цеснаты няма магчымасьці разьмясьціць экспонаты па аддзелах, як-бы гэта трэба было. У экспозыцыйных адносінах музэй можа быць падзелены на наступныя тры асноўныя аддзелы: 1) архэолёгіі і палеонтолёгіі, 2) мастацкі (уключаючы кераміку) і 3) прыкладнога мастацтва. Апрача таго, музэй мае кнігазбор, у якім знаходзіца да 22.000 кніг на расійскай і эўропейскіх мовах. У сучасным выглядзе мае музэй паказальны характар быту вяльмож, военачальнікаў і фаварытаў двара.

Улетку мінулага году архэолёгам І. Х. Ешчанкам было нанова раскопана Любенскае гарадзішча, якое некалі было абсьледвана Раманавым. Пры гэтым былі знойдзены: рэшткі вогнішчаў, косьці розных жывёлін, рэшткі гаспадарчых прылад, вырабы з каменя, косьці і бронзы. Усе гэтыя рэчы зьяўляюцца досыць цікавым архэолёгічным матар'ялам.

## 3 Ўсерасійская Конфэрэнцыя па краязнаўстве.

8—12 мая 1927 г. ў Маскве ў будынку 2 Унівэрсытэту (Девичье поле, Мал. Пироговская ул., д. № 1) адбудзецца трэцяя Ўсерасійская Конфэрэнцыя па краязнаўстве. Згодна § 10 палажэньня аб Конфэрэнцыі на яе запрашаюцца ў *якасьці гасьцей* з правам дарадчага голасу прадстаўнікі краязнаўчых організацый іншых рэспублік СССР (значыць і БССР), але ім ня будзе прадастаўлена ні харчаваньне, *ні памяшканьне,* ні плата за праезд і г. д. Прадстаўнікі будуць пражываць у Маскве ў часе Конфэрэнцыі цалком за кошт пасылаўшых іх організацый.

## Мэдсэкцыя пры Краязнаўчым Таварыстве Б. Дз. У.

Утварылася сэкцыя яшчэ ў мінулым вучэбным годзе, але ўжо ў самым канцы яго, калі, з аднаго боку, усе ўжо былі заняты грамадзкаю працаю і за цэлы год прытаміліся нават, а з другога—пачыналася залікавая сэсія.

Гэтыя ўмовы шкодна адбіліся на працы сэкцыі. І яна амаль нічога не зрабіла. У гэтым годзе праца распачалася таксама са спазьненьнем, але праводзіцца стала больш энэргічна.

Організацыйная частка працы ўжо скончана. Абрана сталае бюро з трох асоб, вывешаны ўсюды абвесткі аб прыёме ў сэкцыю ўсіх жадаючых працаваць у ёй. А для большага азнаямленьня з мэтамі і задачамі Мэдычнае сэкцыі зроблены сябрамі бюро сэкцыі даклады на ўсіх курсах Мэдфаку, і даюцца артыкулы ў насьценгазэту. Зараз мы маем у сэкцыі 30 сяброў і праца па ўцягваньні студэнцтва ў сябры сэкцыі ўвесь час працягваецца.

Цяпер перад намі стаяць наступныя пытаньні: аканчальна перайсьці ад слоў да справы, распачаць сталую краязнаўчую працу, выхаваць з сяброў сэкцы запраўдных, карысных краязнаўцаў.

У справе дасьледваньня Беларусі мы маем наступныя дасягненьні. За час летніх вакацый сябрамі сэкцыі сабраны і апрацаваны наступныя дасьледчыя працы: „Як, чым і ў каго лечыцца зараз вёска"; другая падрыхтованая праца гэта—„Аб вальлёвасьці на Беларусі"; трэцяя праца—„Лекавыя расьліны Беларусі і іх ужытак у мэдыцыне" яшчэ толькі апрацоўваецца. На далейшыя часы вызначана дзеля дасьледваньня і распрацоўкі цэлы шэраг пытаньняў па народнай мэдыцыне, санітарна-гігіенічным дасьледваньні, па розных хваробах і інш.

Праца сэкцыі адбываецца пад кіраўніцтвам праўленьня Краязнаўчага Т-ва Б.Дз.У. і Мэдсэкцыі ІБК, прычым з Мэдсэкцыяй Інбелькульту дагаварыліся аб цеснай сувязі, якая выявіцца ў узаемным даведваньні агульных сходаў, пасяджэньняў бюро, а таксама ў тым, што наша сэкцыя будзе ставіць цікавыя даклады на агульных сходах Мэдсэкцыі ІБК і наадварот.

Я. Бараноўскі.

## Да пытаньня аб азначэньні паасобных экзэмпляраў фаўністычных колекцый.

Усе мясцовыя організацыі, музэі і да т. п. установы і організацыі могуць прысылаць у ЦБК (перасылка пасылак на адрэс ЦБК вагою да пуда—бясплатна) сысуноў, птушак, рэптыяў, амбіф і рыб паасобнымі экзэмплярамі ці колекцыямі для азначэньня ці паверкі азначэньня мясцовых краязнаўцаў ці організацый Зоолёгічным Габінэтам Б.Дз.У проф. А. В. Федзюшына. Азначэньне і праверка будуць зроблены бясплатна і рэчы пасьля азначэньня будуць зьвернуты іх уласьнікам.

# Бібліографія.

**„Советское фото“**, штомесячны часопіс, прысьвечаны пытаньням фотоаматарства і фото-рэпортажа, выд. „Огонек“. Масква. Пад рэдакцыяй М. Кальцова, №№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9 за 1926 г., стар. 270 (лік старонак—гадавы). Іп 16⁰. Цана 3 р.

У краязнаўчай працы вялікае значэньне мае фотографія. Пры вывучэньні, апісаньні помнікаў мінуўшчыны, мясцовы краязнаўца можа гэта зрабіць куды лепш, калі ён зробіць адпаведныя здымкі з об'екту апісаньня; пры назіраньні зьяў прыроды яму таксама шмат можа дапамагчы фотографія. Віды флёры, асобных прадстаўнікоў фаўны, гэолёгічнага складу, нават звычаяў, тыпаў жыхарства, гаспадаркі і г. д.—усё гэта так карысна, так неабходна адбіць, захаваць для навукі з дапамогай фотографіі.

Між тым у нашым краязнаўстве на Беларусі так мала яшчэ карыстаюцца фотографіяй... Замест яе робяцца недакладныя, скалечаныя малюнкі, якія мала нават надагадваюць орыгінал, у лепшым-жа разе—мы бачым цёмныя, нявыразныя здымкі з дапамогай фото-апарату, якія вельмі часта даюць няправіловае ўяўленьне аб прадмеце, бо фотографаматар ня ўмеў зрабіць здымак, ня ўмеў даць належнай пэрспэктывы, на ведаў пры якім асьвятленьні, з якога пункту, з якой адлегласьці рабіць здымак.

Хібы гэтыя зразумелы. Наш фотограф-краязнаўца ня мае самых элементарных вед аб фотографіі, яе сакрэтах, магчымасьцях. Калі ён зьвернецца да фотографа-профэсыянала, дык апошні парады яму ня дасьць, а то і параіць у адваротны бок.

Вось такому, так патрэбнаму нам фотографу-краязнаўцу, можа надта дапамагчы і даць карысныя веды рэцэнзуемы часопіс, які пачаў выходзіць з красавіка мінулага году. Гэты часопіс усю сваю ўвагу зьвяртае на дапамогу шырокім колам фото-аматараў, даўно ўжо чакаўшых памоцніка і сябра. Ня ставячы сабе вузка-спэцыяльных задач, ён накіроўвае сваю ўвагу і ўва ўсе галіны, дзе толькі можа быць ужываная фотографія. Гэта робіць часопіс цікавым, рознаадменным і жвавым, ня робячы ўражаньня вузкай акадэмічнасьці. Пачаўшы выходзіць тыражом у 10.000, ён хутка дасягнуў 14.000 тыражу, у той час, калі часопісы, разьлічаныя на куды большае кола чытачоў, маюць нязьмерна меншыя тыражы. Ужо адно гэта гаворыць за тое, што „Советское фото“ заваявала свайго чытача, добра выконваючы сваю ролю, здавольваючы яго запатрабаваньні.

Няма чаго казаць аб тым, што часопіс гэты вельмі карысны, проста неадкладна неабходзен нашаму фотографу-краязнаўцу. З дапамогай яго ён здолее аўладаць фотографіяй, пазнаць яе сакрэты, магчымасьці, што дасьць яму магчымасьць удасканаліць свае здымкі, на ўсе 100% скарыстаць фото-апарат, а дзякуючы гэтаму—узбагаціць свае веды і навуку наогул, фіксаванымі докумэнтамі аб родным краі.

„Советское фото“, аддаючы ўвагу, як мы казалі вышэй, усім галінам, дзе можа ўжывацца фотографія, яшчэ ў № 1 (стар. 5) дае артыкул „Фотограф-краязнаўца“, дзе падрабязна высьвятляе ролю фотографіі ў краязнаўчай працы, ілюструючы двума здымкамі фэнолёгічных і трыма здымкамі энтофаўністычных назіраньняў. На стар. 137 мы знаходзім артыкул „Фотография на службе природазнаўства“, які дае шэраг парад—як рабіць здымкі прыродазнаўцу. На стар. 139 у артыкуле „Фотографаваньне рыб“ указана як зрабіць здымкі з рыб, знаходзячыхся ў акварыуме, каб яны ня гублялі натуральнасьці, указваецца як зрабіць самы акварыум. Артыкул вельмі каштоўны, таму што зрабіць здымкі з рыб у натуральных абставінах немагчыма, бо рыбы надта рэдка зьяўляюцца блізка паверхні вады. Тут дадзена тры здымкі з вокуня—у стане спакою, трывогі і спалоху. Яны як ня трэба лепей паказваюць дасканаласьць падобных здымкаў і іх цікавасьць для прыродазнаўства.

Другая галіна краязнаўства—кліматографія знойдзе шэраг парад аб ужываньні ў назіраньнях фотографіі (Арт. „Фото-кліматографія“, стар. (168), шляхам здымак об'ектаў характарызуючых элемэнты клімату. Напр., паступовы ўзрост пшаніцы, гарбузоў, сланэчніку і г. д., прычым можна выяўляць уплыў мэтэоролёгічных элемэнтаў на расьліннасьць, як сьпякоты, холаду, вопадзяў, колькасьці сонечнага сьвятла і інш. Артыкул „Мікрофотографія“ знаёміць са спосабамі здымак праз мікроскоп, што вельмі карысна ў вывучэньні мікроорганізмаў; да артыкулу даданы здымкі крышталяў каліевай салетры, задніх лап блыхі.

Апрача гэтых больш проста датыркаючых краязнаўства, артыкулаў, цікавы артыкулы аб фотографаваньні для часопісаў (стар. 13), фотографаваньні ў натуральных колерах (стар. 171), здыманьні адбіткаў з малюнкаў, карцін і фотографіі (стар. 190), прыгатаваньні дыапозытываў (стар. 250), таварышы з мейсц дзеляцца вопытам, як яны абсталявалі сабе фото-лябораторыю (стар. 29), як рабілі павялічэньні здымкаў бяз спэцыяльнага апарату

(стар. 29, 50, 84), пазбываліся плям з негатываў (54), рэзалі меншых памераў плясьцінкі (стар. 259) і шмат інш.

Вельм, цікавы аддзелы „Па замежных часопісах", „хто чым цікавіцца", „Водгукі чытачоў". З № 2 даюцца сыстэматычныя артыкулы аб фотографіі „Крок за крокам", а з № 5—„Падваліны фотографіі".

Часопіс багаты, ілюстраваны цікавымі і рэдкімі здымкамі. Варта адмеціць, што ёсьць прыклады „як ня трэба здымаць".

За 9 месяцаў часопіс правёў тры конкурсы: „за працай", „фізкультура на вадзе" і „жыцьцё і побыт народаў СССР".

Выдаецца часопіс на добрай і трывалай паперы.

Вось кароткі пералік таго, чым можа быць карысным для краязнаўцаў часопіс „Советское фото". Ён гаворыць сам за сябе.

Неабходна, да рэчы, указаць, што з 1927 г. уводзіцца аддзел „Сыстэматычныя гутаркі з пачынаючымі", што робіць яго ня менш цікавым і карысным і для новага чытача, які ня чытаў яго ў 1926 годзе.

**Хв. Шынклер.**

**П. В. Албычев.** Как самому сделать фотографический аппарат. Москва 1926 г. „Огонек". Тыр. 1000 стар. 30, in 32°.

Тым краязнаўцам, якія разумеюць ролю фотографіі ў краязнаўстве, але, дзякуючы адсутнасьці сродкаў, пазбаўлены магчымасьці купіць і скарыстаць фото-апарат,—гэтым таварышом шмат дапаможа кніжка Албычава.

Тут апісваецца спосаб згатаваньня фотоапарату з дзюркай замест об'ектыву, якім можна рабіць вельмі ўдалыя здымкі з нярухомых, добра асьвятлёных сонцам прадметаў, як напр., помнікі старасьветчыны, курганы, гарадзішчы, будынкі, геолёгічныя разрэзы і г. д. На выраб такога апарату ня трэба ніякіх асаблівых выдаткаў. Варыянтам такога апарату зьяўляецца стэрэоскопічны апарат, з дапамогай якога можна зрабіць набор фотографій для музэю, якія даюць рэльефныя стэрэоскопічныя абразы краю.

Але гэты прымітыў-апарат не заўсёды задаволіць краязнаўца. З яго дапамогай нельга рабіць здымкаў пры малым асьвятленьні (хмарнае надвор'е, цень, нутро будынкаў і г. д.), а таксама пры здымках народных сьвяткаваньняў, абрадаў і інш.,—калі экспозыцыя павінна быць карацейшай. Тут ужо неабходзен апарат са шкляным об'ектывам. Як зрабіць яго з дапамогай ахроматычнага шкла (якое можна ўзяць з проэкцыйнага ліхтара), падзорнай трубы, падрабязна гаворыць аўтар.

Далей аўтар апісвае прыёмы здыманьня і „што здымаць", даючы шэраг тэм для конкурсаў школьных, музэйных.

Кніжка мае 19 малюнкаў і рысункаў. Мова кніжкі зусім популярная. Усё гэта дапамагае кніжцы апраўдаць сваё прызначэньне—дапамога ня маючаму сродкаў фотографу-аматару.

**Хв. Шынклер.**

---

# Паштовая скрынка.

**Калінінскаму Акруговаму т-ву Краязнаўства.** У аддзеле хронікі нашага часопісу зьмяшчаюцца подпісы аўтара толькі тады, калі заметкі дадзены самім аўтарам. Калі подпісу пад якой-колечы заметкай няма, дык гэта зусім ня значыць, што непадпісаны матар'ял укладзены Рэдакцыяй. Заметкі аддзяляюцца адна ад аднэй загалоўкам і аўтарскі подпіс аднэй якой-колечы заметкі ня мае ніякіх адносін да ўсіх іншых.

**Ів. Дабровіну. Мазыршчына.** „Манастыры і царквы і іх значэньне ў гісторыі" для „Н. Кр." не падыходзіць.

**В. І. Шавельскаму. Невель.** „Белорусский военный генерал-губернатор И. И. Михельсон в своем поместии „Иваново" не падыходзіць для нашага часопісу.

**А. Гірконт. Клімавічы.** „Некалькі слоў аб Расьне" друкавацца ня будзе. Чакаем больш апрацаваных матар'ялаў.

**Т. Кулакову, Шыдлоўскаму, П. Чайкоўскаму.**—Слаба апрацавана. Да друку не падыходзіць.

**Красьнянскаму. Віцебск.** „Памятники Витебской старины" друкавацца ня будзе, бо аб гэтым друкавалася.

**Макранскаму гуртку краязнаўства.** Прысланыя вамі „Заметкі" да друку не падыходзяць—дробязь.

**Марыновічу. Віцебск.** „Орнітолёгічная экскурсія па Беларусі" да друку не падыходзіць, будзе скарыстана ў адпаведнай сэкцыі Інбелкульту.

**Е. Цэхановічу. Ворша.** „Рэчка Эссо і яе балота" ня пойдзе—мала каштоўная рэч.

**А. Змачынскаму.** „Гісторыя мястэчка Бешанковіч" друкавацца ня будзе. Гэты матар'ял падыходзіць для мясцовага раённага краязнаўчага часопісу.

**М. Караленкаву.—с. Мокрае, Быхаўск. раёну.** „Помнікі старасьветчыны ў раёне Макранскага сельсавету"—слаба апрацавана, няма пляну. Передана ў Гістарычна-Археолёгічную Камісію для скарыстаньня.

**А. Сяменчыку. Віцебск.** Аб гэтым ужо шмат пісалася—ня пойдзе.

**Я. Дзеразе. Скворцы, Койдановскаго раёну.** „Вясковыя насьценныя газэты і краязнаўства" пераслана для надрукаваньня ў „Савецкую Беларусь".

**Макараву М. в. Балотчыцы.** „Настаўніцтва на дапамогу краязнаўства" пераслана для надрукаваньня ў „Чырвоную Зьмену".

**Шынклеру.** „Голас чытача" паслана для надрукаваньня ў „Савецкую Беларусь".

**Настаўніку А. М. Рудкоўскаму.** Артыкул надрукованы ня будзе дзеля таго, што падобнага зьместу праца была ўжо ў „Наш. Краі".

Рэдакцыя „Н. К." просіць вас паведаміць: 1) дзе захоўваецца цяпер той летапіс Новалаўскай царквы, якім вы карысталіся ў вашым артыкуле і 2) ці ня можна было-б прыслаць яе ў Інстытут Беларускае Культуры.

Абяцаны артыкул на падставе матар'ялаў г. Лазарэвіч—прысылайце. Чакаем.

**Краснабераскаму Агропэдтэхнікуму.** У вашай працы па арганізацыі гурткоў краязнаўства ў ваколічных вёсках старайцеся узбудзіць зацікаўленасьць сялянства з разьлікам, каб гурток вырастаў сам сабой, а не наджваўся зьверху.

**Мазырскаму Акруговаму Т-ву Краязнаўства.** Просьба азнаёміцца з дзейнасьцю Каралінскага раённага таварыства краязнаўства, аб якім ёсьць весткі, што яно не працуе.

**Краяведу.** Усякая праца члена краязнаўчай арганізацыі лічыцца працаю арганізацыі, прычым, вядома, захоўваецца аўтарскае права краязнаўцы. Значыць і праца гуртка лічыцца працаю раённага т-ва, а апошняга—Акруговага т-ва. Дрэнна, зразумела, калі ўся праца Каралінскага райтаварыства складаецц з працы аднэй часткі яго—гуртка сяміголкі. Друкавацца ня будзе.

**А. Суднікаву.** Дэмографічны перапіс праведзены акруговымі статыстычнымі бюро, куды і трэба было зварочвацца з просьбаю даць даручэньне па перапісе.

**Гуртку краязнаўства пры Магілеўскай Савпартшколе.** Прыкладны статут школьнага гуртка зьмяшчаецца ў № 2 за г. г. Анкета Кісьлякова дасылаецца. Аддзел хронікі ёсьць у „Нашым Краі" з пачатку яго выхаду, чаму і раім вам прысылаць матар'ял аб сваёй працы.

**Я. М. Савіцкаму.** Зьмясьціце свой артыкул „В.-Крушынаўскае возера „Зазер'е" ў часопісе свае арганізацыі, ці ў сваёй акруговай газэце. У „Нашым Краі" друкавацца ня будзе.

**А. К. Супінскаму.** Друкавацца ня будзе. Зьмясьцеце ў „Заре Запада", ці ў часопісе вашае арганізацыі.

**К. Квятчынскаму.** Пытаньне аб вылучэньні ботсаду ў самастойную навукова-краязнаўчую адзінку, або перадачы Акрана, як школьна прыкладнага саду вырашаецца зараз Народным Камісарыятам Асьветы.

---

Выдавец—**Інстытут Беларускае Культуры.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**



Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

# ЗЬМЕСТ.



---

*) Гэты загаловак у тэксьце замест 40 стар. памылкова пастаўлены на 55 стар.

